УДК 908(476.7)(092)
ББК 26.89 (4 Беи) Б 46

Выданне здзейснена пры фінансавай падтрымцы Жабінкаўскага раённага выканаўчага камітэта (старшыня М. В. Токар)

Бензярук, Р.М.

Сорак дарог / Расціслаў і Анатоль Бензерукі. — Брэст: Альтернатива, 2007. — 152 с. : фат.

ISBN 978-985-6843-40-5.

Кніга распавядае пра вядомых нараджэнцаў Жабінкаўскага раёна Брэсцкай вобласці, якія сваёй пачэснай працай, шчырай любоўю да Айчыны, нязгасным талентам заслужылі гонар і памяць у нашчадкаў. Перад вачамі чытача пройдзе цэлы шэраг навукоўцаў, змагароў, паэтаў, працаўнікоў і абаронцаў гэтай зямлі. Іх імёны назаўсёды застануцца ў гісторыі нашага краю, у гісторыі Беларусі, а некаторых — і ўсяго свету.

Кніга разлічана на самае шырокае кола чытачоў — жыхароў і гасцей Жабінкаўшчыны, якія жадаюць больш даведацца пра мінуўшчыну "Зямлі пад белымі крыламі".

ISBN 978-985-6843-40-5

УДК 908 (476.7)(092)
ББК 26.89 (4 Беи)

## Прадмова

*старшыні Жабінкаўскага райвыканкама*
*Мікалая Васільевіча ТОКАРА*

Паважаныя жыхары і госці Жабінкаўскага раёна!

Жабінкаўскі раён, утвораны ў 1940 годзе і адноўлены ў сённяшніх межах у 1966-ым,— адзін з найменшых у нашай краіне і, бадай, самы маленькі ў Брэсцкай вобласці. Яго тэрыторыя вымяраецца ўсяго ў 0,7 тысячы км$^2$, а насельніцтва налічвае толькі 25,1 тысячы чалавек. Тым не менш, раён мае багатую гісторыю, якую стваралі і ствараюць людзі, што жывуць тут.

Гэтая кніга распавядае пра людзей розных прафесій і нават розных эпох, якіх аб'ядноўвае тое, што практычна ўсе яны — ураджэнцы зямлі жабінкаўскай.

Сярод іх — прадстаўнікі ўсялякіх прафесій і сфер дзейнасці: вучоныя, педагогі, медыкі, работнікі культуры, хлебаробы, ваенныя, святары. Кожны з іх дасягнуў пэўных поспехаў на абраным шляху. Нехта дабіўся вядомасці на сваёй малой радзіме, нехта — за сотні і нават тысячы кіламетраў ад родных мясцін.

Многіх з іх добра ведаюць, памятаюць і шануюць не толькі ў раёне, але і далёка па-за яго межамі. Некаторыя з герояў кнігі ўвасабляюць адносна новыя старонкі гісторыі краю. Таму кніга будзе цікавая і карысная не толькі для прафесійных гісторыкаў, але і для чытачоў усіх узростаў і заняткаў.

Асаблівую карысць яна павінна прынесці нашаму маладому пакаленню. Паколькі жыццёвыя дарогі герояў сведчаць, што пры напружанай працы і адчайнасці Радзіме кожны з часам можа стаць героем аналагічнага выдання.

Можа, уважлівы чытач пастравіць пытанні аб колькасці герояў кнігі і канкрэтных персаналіях. Кожны мае права на ўласнае меркаванне. Таму выбар асобаў цалкам залежыў ад погляду аўтараў, якія заслугоўваюць добрых слоў за тое, што распачалі гэтую працу. Магчыма, іх пачын стане прыкладам для іншых. Бо жабінкаўская зямля надзвычай багатая на цікавых людзей, што заслугоўваюць стаць героямі будучых выданняў.

М. В. ТОКАР,
старшыня Жабінкаўскага райвыканкама

## *ІШОЎ ДАРОГАЙ ЧАЛАВЕК*

У гэтай кнізе сорак герояў. Кожны з іх прайшоў сваёю дарогаю. Многія нават ніколі не здагадваліся пра існаванне адзін аднаго. Але ўсіх іх назаўжды аб'ядналі жыццёвыя вытокі, што бралі пачатак з нашай Жабінкаўшчыны.

Для кожнага з іх наш край — часцінка душы, месца дзедаўскіх магіл, малая радзіма. Таму кожны з нашых герояў хоць аднойчы, але прызнаваўся ў любові да сваёй зямлі, зычыў ёй росквіту і дабрабыту.

Са старонак кнігі паўстаюць людзі, што сталі гонарам Жабінкаўшчыны. У кожнага быў адметны жыццёвы шлях. Кожны пакінуў пасля сябе справы, якімі ганарыцца наш край.

Нехта дасягнуў самых вяршынь: стаў акадэмікам, Героем Сацыялістычнай Працы, як Трафімук, ці генералам, Героем Двух Кантынентаў, як Касцюшка.

Нехта, чыё жыццё перарвалася заўчасна, прыпыніўся на ўзлёце. Як не згадаць тут паэтычны талент Гадулькі, яго ненапісаныя вершы, недапетыя песні...

Некаторыя — Германовіч, Дзяконскі — былі знішчаныя ў жорсткія часы сталіншчыны.

Іншым было наканавана доўгае жыццё, насычанае навуковым пошукам і адкрыццямі. У гэтай справе асабліва вызначыліся Крачкоўскі ды Завулічны.

Многіх апаліла вайна. Сотні жабінкаўцаў склалі свае галовы далёка ад родных ніў. Ліхалецце прымусіла прайсці франтавымі, партызанскімі дарогамі Андрасюк і Шаўчука. У мужнай барацьбе загінулі адважныя Дзмітрук, Філіпук, Чарнак, імёны якіх уганараваны ў назвах гарадскіх вуліц.

Іншыя нашыя героі абралі самыя мірныя прафесіі, заўсёды патрэбныя людзям. Дасюль жыве ў краі памяць пра славутых настаўнікаў Васілюка і Ляся. Многія мясціны Берасцейшчыны ўпрыгожваюць будынкі, спраектаваныя Будзьком. Даравалі радасць шматлікім гледачам артысты Герасевіч і Манец. Цэлае сузор'е цудоўных урачоў паходзіць з Жабінкаўскага раёна. Сярод іх зіхацяць імёны Шораха і Крыўчэні, што дасягнулі сапраўдных вяршынь медыцынскай навукі.

Асобна трэба адзначыць тых, хто сваёю паўсядзённай працай робіць больш важкім і духмяным дажынкачны каравай. Імя ў іх прыгожае і велічнае — хлебаробы. Прозвішчы Андруховіча і Ушкар назаўжды ўнесены ў спісы самых ганаровых людзей Жабінкаўскага раёна. Таксама не забытыя былыя калгасныя старшыні Карпук і

Валасюк. (Апошні за сваю працу на зямлі атрымаў высокае званне Героя Сацыялістычнай Працы).

Многія нашыя землякі пакружылі па свеце, як гэта адбылося ў жыцці Кавальчука і Вашчука. Пабывалі за марамі-акіянамі, як Пратасевіч. Да іншых самыя госці едуць з усяго свету. (Асабліва да тых, хто, абраўшы святарскі шлях, стаў лекарам чалавечых душ — да айца Ігнація ды айца Серафіма).

Не ўсіх, безумоўна, мы згадалі. Шматлікім пакаленням краязнаўцаў і гісторыкаў яшчэ давядзецца адкрываць новыя, пакуль невядомыя старонкі нашай мінуўшчыны. Галоўнае, што цікавасць да яе пакрысе адраджаецца, а гісторыя не спыніла свой далейшы ход. Таму яшчэ не аднойчы народзіць жабінкаўская зямля будучых прафесароў і хлебаробаў, генералаў ды канструктараў, святароў і настаўнікаў — сваіх асветнікаў і абаронцаў. Яны яшчэ здзівяць усіх, ствараючы славу сабе і таму краю, адкуль пойдуць у вялікі свет. Тады кожнай цікавай асобе знойдзецца месца ў галерэі чалавечых лёсаў…

А цяпер — толькі сорак дарог. Для жывых сваіх герояў зычым поспехаў і творчых сіл, для памерлых — добрай памяці.

Наш шлях таксама пройдзе дарогамі роднага краю. Няспешна, нетаропка будзем рухацца "па сонцу", з усходу. Ад вёскі да вёскі. Ад чалавека да чалавека.

І першы прыпынак — амаль на мяжы з суседнім Кобрынскім раёнам. Там, дзе заўжды гасцінна, песенна ды хлебасольна,— у вёсачцы Баранцы, у хаце Соф'і Рыгораўны Карась.

## *ХАТА – НА ДАБРЫНЮ БАГАТА*

**КАРАСЬ Соф'я Рыгораўна**

Нарадзілася ў 1934 годзе ў вёсцы Сычова

*Каравайніца, фалькларыстка, работнік культуры, сельскі стараста, "Чалавек года — 2002" на Берасцейшчыне*

Некалькі разоў даводзілася бываць у Баранцах у доме Соф'і Карась, і заўсёды пах "спелага" цеста прыемна казытаў у носе. Бо гаспадыня — умеліца на ўсё сяло — час ад часу выпякае пірагі ды іншую здобу.

У 2002 годзе Соф'я Рыгораўна — кіраўнік вядомага не толькі ў раёне фальклорнага гурта, — запрошаная ў Брэст на ўрачыстасць з нагоды Міжнароднага жаночага дня, здзівіла ўсіх сваім адметным караваем. Цікавыя выпечкі чакалі і гасцей з Жабінкі, якія прыехалі ў Баранцы з дабрачыннай акцыяй "Паслугі горада — жыхарам вёскі".

А яшчэ больш любіла Соф'я Рыгораўна выпякаць караваі на вяселлі. З вобразамі маладых і перапаясанага ручніком дружка, з заручальнымі пярсцёнкамі, з казачнымі лебедзямі і кветкамі.

— Выпякаць іх трэба з любоўю,— мяркуе Соф'я Рыгораўна,— з пажаданнем маладой сям'і шчасця і кахання на многія гады.

Яе караваі займалі пачэснае месца на вясельных сталах не толькі ў Варанцах і наваколлях, але й у Жабінцы і Кобрыне, Ваўкавыску і Высокім, Пружанах і Брэсце....

А то сабралася ў Маскву на вяселле Вера Сушко, завітала да Карась:

— Я падумала, што лепшага падарунка пляменніцы на вяселле мне і не знайсці. Спячы, Рыгораўна, здзіві Маскву!

І, далібог, здзівіла. Вярнуўшыся, Вера доўга хвалілася суседкам, як масквічы ахалі ды охалі, гледзячы на прыгажосць, зробленую рукамі Карась. Анатоль Нікалаюк завёз такі ж цудоўна аздоблены каравай у Разань. Так што залатыя рукі Рыгораўны ведаюць далёка ад вёсачкі, дзе жыве ўмеліца.

Але ж гэта толькі адзіная старонка ў біяграфіі Соф'і Карась. Ды лепей хай яна сама раскажа пра сваё жыццё.

— Працавітасць, імкненне рабіць усё творча ў мяне, мусіць, ад бацькі — Рыгора Філімонавіча Хоміча. Сям'я наша была вялікая: шасцёра дзяцей. Зведалі нястачу, няшчымніцу. Выручалі бацькавы рукі: ён умеў і цяслярыць, і сцены класці, і печы ляпіць. Памятаю, змалку вучыў нас: "Не спяшайцеся ў працы, а рабіце ўсё як трэба. Аднойчы зробіце абы-як, дык і ў другі раз захочацца". Яшчэ ён вельмі

марыў вывучыць нас. Таму я пасля школы паступіла ў Бярозаўскае сельскагаспадарчае вучылішча, а затым стала працаваць у родным калгасе. Мабыць, было ўва мне нешта такое, што гуртавала вакол моладзь. Мы і самадзейныя канцэрты ладзілі, і кніжкі абмяркоўвалі, і агітацыйную работу вялі, а ўзімку збіралі попел, каб лепей палі радзілі. Мяне выбралі сакратаром камсамольскай арганізацыі.

Аднойчы звярнуўся з просьбаю да Соф'і калгасны старшыня: маўляў, на ферме не хапае даярак, пагавары з дзяўчатамі, можа, хто згодзіцца? Неўзабаве Ніна Верамяюк, Вольга Міхалюк ды яшчэ некалькі прыйшлі на ферму. А пасля ўмела праведзенай падпіскі на пазыку ў Азятах на Соф'ю звярнулі ўвагу і ў райкаме камсамола. Прапаноўваючы пасаду загадчыцы хаты-чытальні, гаварылі:

— У вас ёсць арганізатарскія здольнасці, а таму трэба вам быць сярод людзей, выхоўваючы кнігай і словам. Пакуль што азяцкая чытальня працуе кепска: амаль увесь час замкнёная.

Кніг у той час у бібліятэцы было нямнога, дый чыталі не ўсе. Соф'я хадзіла па хатах, пераказвала цікавыя месцы з кніг і дабілася, што некаторыя раманы, як кажуць, зачытвалі да дзірак. І мастацкая самадзейнасць была на ўзроўні: у хоры выступалі калгасныя хлопцы і дзяўчаты, педагогі Азяцкай школы. Зборнікаў з тэкстамі і нотамі не хапала, а таму звярнуліся да песень і прыпевак, што бытавалі сярод вяскоўцаў.

Самадзейныя артысты не толькі выступалі перад сваімі хлебаробамі, але й перад рабочымі цукровага завода, саўгасаў "Рагазнянскі" і "Беларусь", у вёсках Гайкоўка і Пескі Кобрынскага раёна. Уявіце сабе сцэну, на якой — да сарака спевакоў. Высокім жаночым галасам туравалі мужчынскія басы і барытоны. А якія апладысменты чакалі выступоўцаў пасля кожнага нумара!..

Калі б вы толькі захацелі падлічыць усе работы і абавязкі, што былі на плячах Соф'і Рыгораўны, дык, бадай што, пальцаў на адной руцэ не хапіла б. Яна была загадчыцай клуба і бібліятэкарам у адной асобе, не раз выбіралася дэпутатам Азяцкага сельсавета, была дырэктарам этнаграфічнага музея, што ў Баранцоўскім клубе, кіраўніком вядомага ў раёне гурта — дыпламанта рэспубліканскага фестывалю самадзейнага мастацтва "Беларусь — мая песня", вясковым старастам і дырэктарам дома сацыяльных паслуг.

Кожнай справе аддавала шмат сілы, энергіі. Памятаецца, як гадоў дваццаць назад Соф'я Карась "загарэлася" стварыць у Баранцоўскім клубе этнаграфічны музей. Бо час ідзе, паміраюць старыя, і многае, што ў іх куфэрках, можа стаць незапатрабаваным. А тыя ж вышыванкі і выцянанкі, аддзенне, рэчы побыту маглі б і далей

выхоўваць маладых. Многія ахвотна дзяліліся старымі даматканымі рэчамі. Сёння ў музеі сабрана ўсё — ад калыскі і да кроснаў, ад самаробных ходнікаў і да вопраткі, што апраналі некалі вясковыя прыгажуні на бяседу ды ідучы ў царкву.

Трэба сказаць, што ў Баранцах паважаюць і любяць Соф'ю Рыгораўну за яе няўрымслівы характар. Аднавяскоўцы прыходзяць да Карась па дапамогу, параду, спачуванне. І знаходзяць іх. Яе жыццёвую актыўнасць засведчылі шматлікія Ганаровыя граматы і дыпломы. А па выніках 2002 года ў галіне сацыяльнай абароны насельніцтва жанчына была ўдастоена высокага звання "Чалавек года".

Гады і здароўе прымусілі Соф'ю Карась перадаць сваю "гаспадарку" ў рукі маладых, але ніводная больш-менш значная падзея ў Баранцах па-ранейшаму не абыходзіцца без удзелу бабулі Зосі, як хораша яе завуць вяскоўцы.

А мы пасля развітання з каравайніцай вымушаны пакінуць гасцінныя Баранцы і скіравацца ў суседнія Азяты, каб успомніць добрым словам чалавека, што мазолістымі рукамі рабіў усё магчымае, каб гэты хлеб быў на стале ў людзей.

## *ЯРКІЯ ЗАРАНКІ*

### **АНДРУКОВІЧ Васіль Васільевіч**

Нарадзіўся ў 1940 годзе ў вёсцы Азяты

*Трактарыст-машыніст райсельгастэхнікі, кавалер ордэнаў Леніна, "Знак Пашаны", Працоўнага Чырвонага Сцяга, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР*

Дзень толькі-толькі нараджаўся. Быў заранак: на ўсходзе, дзе скора выблісне сонца, на небе працягнулася светлая паласа. З кожнай хвілінай яна ружавела, станавілася больш яркай.

Васіль Андруховіч быў ужо на нагах. Пакуль ішоў да трактара, што стаяў на балоце Осаўскае ў некалькіх метрах ад вагончыка, чамусьці ўспомнілася дзяцінства. Вучыцца ён не надта стараўся: а можа, і не было калі, бо прыходзілася многа памагаць маці, якая засталася адна. Пасля сямі класаў ён вырашыў пакінуць Азяты.

Гэта быў час, калі маладыя людзі ехалі асвойваць цалінныя і абложныя землі. Запісаўся і ён. Працаваў прычэпшчыкам. У Казахстане нечакана засумаваў па доме і маці. Прачынаўся рана, як толькі пачынала днець. Выбіраўся з палаткі. Сонныя хлопцы шыкалі на яго:

— Спі, яшчэ цёмна!

А ён ішоў у стэп і глядзеў, як з-за гарызонта выплывае сонца. Глядзеў і сабе гаварыў:

— А ў нас прыгажэй!

Праз два гады вярнуўся дадому. У Драгічыне скончыў курсы трактарыстаў, уладкаваўся на працу ў райсельгастэхніку. Калі ж арганізацыю падзялілі на дзве, Васіль Андруховіч стаў працаваць трактарыстам у аб'яднанні "СеЛьгасхімія".

Не, такога другога працаўніка бачыць у нашым раёне не даводзілася: усё ў яго жыцці было падпарадкавана аднаму — рабоце. Нават гэты начлег на балоце, на тапчане ў вагончыку,— гэта таксама Васілёва хітрасць: пакуль рабочыя едуць у Жабінку, а раніцай вяртаюцца, ён працуе ўжо. Хопіць і выхадных, каб адпачыць. Затое цяпер штодня выдае на-гара па дзве нормы. Не, яны самі не прыходзяць: трэба працаваць, не лянуючыся, і галавой думаць.

Тое, што ён быў чалавек думаючы, можа пацвердзіць хоць бы гэты факт. І ў нядзелю, будучы дома, не мог праспаць узыход сонца. Паснедаў, пачаў апранаць камбінезон.

— Ты, мусіць, Вася, дні пераблытаў? — здзівілася жонка Антаніна — Сягоння ж — нядзеля...

— Нічога я не пераблытаў,— адказаў Васіль.— Я ўзмацняю коўш. Трэба спяшацца, пакуль зварка на балоце.

— А што, рабочых дзён мала? І так кожны дзень на балоце,— незадаволена заўважыла Антаніна Іванаўна.

— У рабочыя дні, Тонечка, часу для гэтага няма. Торф нарыхтоўваем...

Пяць выхадных не пашкадаваў Андруховіч, але задуманае здзейсніў. Спачатку было ўсё так, як надумаў рацыяналізатар: торф быў лягчэйшы, чым пясок, і механічная лапата працавала спраўна. Праз год, аднак, гідраўліка мехлапаты стала псавацца. Тады Андруховіч замяніў на больш магутныя помпы.

З гадамі для яго стала ясна, што толькі тады тэхніка працуе бездакорна, калі да яе адносіцца з душою. Памятаў Андруховіч, як у лютым яму прыйшлося ноччу ісці на балота, калі пасля адлігі ранкам стукнуў мароз, каб вада, што засталася ў радыятары, не разарвала бак. Клопат пра тэхніку і старанне вызначылі, што дзве нормы за дзень — гэта звыклая справа для Васіля Васільевіча.

Шмат гадоў ён працаваў у пары з маладым механізатарам Уладзімірам Ковалем. Праўда, у кожнага з іх свае абавязкі. Коваль фрэзеруе, сушыць торф, збівае яго ў валкі. Андруховіч акараваньваючай машынай збірае іх у вялікія бурты, а адтуль мехлапатай грузіць у кузавы самазвалаў ды ў прычэпы.

Абодва працуюць старанна, дружна, прывыклі адзін да аднаго, хаця спачатку дапамога старэйшага таварыша была вельмі дарэчы. Аднойчы Уладзімір звярнуўся да Андруховіча:

— Васіль, нешта ў мяне скорасць не пераключаецца?

— Пакуль не адрэгулюеш счапленне, скорасць не ўключыцца,— патлумачыў Васіль Васільевіч, адарваўся ад працы і пайшоў дапамагаць навічку.

У другі раз:

— Слухай, праваліліся рычагі. Што рабіць?

— Замацуй як след балтамі — не будуць правальвацца.. З часам такіх просьбаў-пытанняў з боку Коваля стала меней, бо малады механізатар стараўся да многага дайсці сам. Калі ж не атрымлівалася, прыходзіла падмога.

Слава не прымусіла чакаць Васіля Андруховіча. Услед за медалямі "За доблесную працу. У азнаменаванне 100-годдзя з дня нараджэння У.І. Леніна" і "За працоўную доблесць" ягоныя грудзі ўпрыгожылі ордэны "Знак Пашаны", Працоўнага Чырвонага Сцяга ды Леніна, а ў 1985 годзе Андруховіч стаў першым у раёне лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Саюза ССР. Закончыў ён свой жыццёвы шлях 4

лістапада 1989 года. Падпісаць некралог палічылі за гонар кіраўнікі раёна і аб'яднання "Сельгасхімія". Пражыў шчыры працаўнік усяго 49 гадоў. Быццам яркія заранкі, якіх столькі бачыў Андруховіч, было і само жыццё Васіля Васільевіча. Аддаючы ўсяго сябе працы, ён спаўна выканаў задуманае — быць заўсёды і ўсюды першым.

### 49-я восень

Да працы быў заўжды ахвочы
І адпачынку не чакаў.
Час прыхапіўшы ў цёмнай ночы,
Ён працаваў і працаваў.
Дзве нормы зноў Васіль завершыць,
Каб гонар і пашану мець,
Каб быць у працы самым першым...
Зрываючы з галінаў "медзь",
З шалёным ліставеем восень
Шаптала быццам бы яму:
"Бач, шэрань, з халадамі просінь,
Перажыві яшчэ зіму!.."
Як ліст, што ападае з дрэў,
У сорак дзевяць ён... "згарэў".

## *“ШУКАЙ СВАЁ!”*

**СНІТКО Галіна Мікалаеўна**

Нарадзілася ў 1971 годзе ў вёсцы Азяты

*Выкладчык Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна, краязнаўца, аўтар-складальнік школьных падручнікаў*

Стагоддзямі азяцкая зямля нараджае таленавітых людзей. Кожны з іх пакінуў свой выразны след. На ваша здзіўленне азятчукі абавязкова адкажуць:

— Зямля ў нас такая!..

Наступная наша сустрэча — з Галінай Снітко (Манец).

Ужо не адзін век доўжацца спрэчкі паміж прадстаўнікамі дакладных і гуманітарных навук. Нярэдка адны і тыя ж з'явы "фізікі" і "лірыкі" ўспрымаюць па-рознаму. Аднак часам нават самыя строгія матэматычныя формулы паспяхова тлумачаць паэтычны радок, а фізічны доказ раскрывае сутнасць з'яў, што ўзбагачаюць шырокую душу паэта.

У матэматыцы нярэдка назіраецца з'ява, калі вучоны спрабуе прыйсці да высноў, абапіраючыся на зусім розныя меркаванні. Лірыку такім выпадку, можа, прыгадаў бы раку з двума берагамі. Вабяць абодва, а прычаліць усё ж давядзецца толькі да аднаго. Але ж як не памыліцца, калі табе ўсяго семнаццаць гадоў?..

Галіна Манец заканчвала родную Азяцкую дзесяцігодку. Ужо прагучаў апошні школьны званок, які абвясціў, што дзяцінстве прайшло. Цяпер — дзяржаўныя іспыты. Дзяўчына вучылася нядблага, паспяхова пераходзячы з класа ў клас. Мела ўпэўненасць у сваіх сілах, а таму чакала, што ўсе экзамены будуць на "выдатна". Сярод прадметаў больш падабаліся хімія і біялогія. Для сябе Галіна ўжо вырашыла, што менавіта з гэтымі навукамі звяжа далейшы лёс. Мо, так і было б, аднак раптоўна ўсё змяніла прыкрая "чацвёрка", атрыманая па сачыненні. Галя не верыла, што магла памыліцца. І тады, каб даказаць, што мае здольнасці ў любой навуцы, дзяўчына вырашыла паступаць на філалагічны факультэт. Гэтаму паспрыяла і настаўніца Аляксандра Іванаўна Пташнік. Паўстаў яшчэ адзін выбар, моўны. І тут Галіна ўпэўнена накіравалася да "берагу" роднай, трапяткой, матулінай мовы. Цёплыя беларускія словы клаліся на душу, як кладуцца вершы на музыку. Падсвядома выклікаючы шчасце, радкі айчынных паэтаў лашчылі слых, як усё сапраўднае, жывое, што прыйшло з глыбіняў роднай зямлі.

Бацькі радаваліся поспехам дачкі. Мікалай Рыгоравіч і Валянціна Васільеўна спадзяваліся, што няма тых перашкод, якія Галя не пераадоліць. Амаль увесь час навучання дачка была выдатніцай: спачатку коласаўскай, а затым і ленінскай стыпендыяткай.

Дзесьці ў часы, калі большая частка навучання была ўжо пройдзеная, на таленавітую, вельмі актыўную, дапытлівую студэнтку звярнула ўвагу прафесар В.Я. Ляшук (Зарэцкая) — прызнаны ў краіне аўтарытэт у філалогіі. Дзяўчыну вабіла літаратурнае краязнаўства, а Вера Якаўлеўна прапанавала новы напрамак дзейнасці — методыку выкладання.

90-я гады мінулага стагоддзя былі складаным, але надзвычай цікавым часам, калі буяла беларускае адраджэнне. У школе, ва ўсім грамадстве з'явілася жаданне і патрэба зноўку адкрыць для сябе Беларусь з яе багатай гісторыяй, культурай, мовай. Аднак не хапала падручнікаў. І аўтарскі калектыў, які ўзначаліла В.Я. Ляшук, узяўся за гэтую пачэсную справу, ствараючы першыя, сапраўды нацыянальныя падручнікі для беларускіх школ.

На сённяшні дзень Галіна Мікалаеўна, якая паспела закончыць аспірантуру, гаворыць пра 16 метадычных кніг, у стварэнні якіх брала дзейсны ўдзел. Сярод іх асабліва вылучаецца падручнік "Беларуская літаратура" для 8 класа. Створаная ў сааўтарстве з Верай Якаўлеўнай Ляшук і Уладзімірам Адамавічам Сенькаўцом, кніга неўзабаве вытрымала і другое выданне. Потым былі падручнікі для пазашкольнага чытання ў 7 і 8 класах "Нам свецяць вочы роднай Беларусі" ды "Прадвесне", "Родная літаратура" для 5, 6, 9 класаў. Летась, апошнімі па часе, з'явіліся кнігі інтэнсіўнага курса вывучэння ды тэкстаў па беларускай літаратуры 8,9,11 класаў. У сукупнасці Снітко мае ўжо больш за сотню навуковых публікацый.

У Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А С. Пушкіна існуе кафедра методыкі выкладання беларускай літаратуры і краязнаўства, на якой працуе Галіна Мікалаеўна. Цяпер плануецца адкрыць яшчэ літаратурна-краязнаўчую лабараторыю. Гэта вельмі патрэбна не толькі з-за таго, што Берасцейшчына надзвычайна багатая сваёй спадчынай, але і таму, што патрабуецца гэтыя багацці берагчы і распаўсюджваць паміж маладога пакалення.

— А сярод студэнтаў былі, ёсць і будуць сапраўдныя зоркі,— пераконвае Галіна Мікалаеўна. Яна згадвае, між іншымі, сваіх былых студэнтаў — празаіка Міколу Навумчыка, паэтку Ярыну Дашыну, журналіста Васіля Барысюка і нашу зямлячку з пасёлка Ленінскі Ірыну Поўх.

Сапраўдным поспехам, значнай старонкай у жыцці Галіна лічыць з'яўленне ў 1999 годзе ёмістай і вельмі змястоўнай кнігі "Літаратура Берасцейшчыны". На вокладцы стаяць побач два імя: В.Я. Ляшук і Г.М. Снітко, настаўніцы і вучаніцы. У кнізе прасочаны доўгі шлях літаратурнага жыцця нашага краю, названы дзесяткі імёнаў, прааналізаваны сотні твораў. Пасля выхаду кнігі Галіна Мікалаеўна стала членам Саюза беларускіх літаратурна-мастацкіх крытыкаў.

Можна ўпэўнена сцвярджаць: сёння ніводная годная справа на факультэце не ладзіцца без дзейснага ўдзелу Снітко. Яна адкрыла ў сабе неблагія арганізатарскія здольнасці і жартаўліва заўважае:

— Цяпер асвойваю другую для сябе спецыяльнасць — гід. Наладжваем і навуковыя экспедыцыі, і літаратурныя экскурсіі. Таксама нярэдка адбываюцца навукова-практычныя канферэнцыі. Дарэчы, у сям'і вельмі чула і з вялікай цікавасцю ставяцца да таго, што я раблю. Часам і муж Рыгор Мікалаевіч далучаецца да маіх вандровак, а дачушка Алеся — яна толькі ў пятым класе, аднак не адстае ад маці — ужо амаль тры гады ездзіць са мною і, ведаеце, маючы цудоўную памяць, шмат што бярэ для сябе.

Мы задалі Галіне Мікалаеўне яшчэ адно пытанне:

— Цяпер вядома, што Азяты і наваколле — надзвычайны куточак Жабінкаўшчыны, адкуль выйшла шмат сапраўды таленавітых людзей. А вы ведалі, калі вучыліся ў Азяцкай школе, што з вашай вёскі паходзіў Юльян Крачкоўскі?

— Нічога не ведала,— прызнаецца вядомая краязнаўца.— Толькі ва універсітэце "адкрыла" ўпершыню для сябе гэтае імя. Памятаю, як усхвалявана расказвала пра гэта прафесару Калесніку. А Уладзімір Андрэевіч строга і насмешліва ўшчуваў: "Амерыку адкрываеш! Вядомы чалавек. Шкада толькі, што ты не ведала". Гэтыя Калеснікавы словы, можа, і сталі штуршком на шляху да літаратурнага краязнаўства. Ад Уладзіміра Андрэевіча атрымала і першыя правілы, законы ў навуцы.

Памятаю, як першую сваю студэнцкую работу перадала для чытання прафесару, хвалявалася, чакаючы яго адзнакі, а вярнуў рукапіс — сумелася: на палях гэтак прыгожа ў многіх месцах пазначана: "Не тваё... не тваё... не твае." А на словах майстра дадаў: "Лепш пішы менш, але не чужыя думкі. Шукай сваё!"

Здаецца, з таго дня прайшло досыць часу. Аднак пошук усё яшчэ працягваецца і штодзённа прыносіць плён.

Сёння Галіна Мікалаеўна лічыцца адным з самых вядомых краязнаўцаў у Брэсцкай вобласці. Асаблівую прыхільнасць у яе выклікае вывучэнне літаратурнага краязнаўства.

Снітко раскрывае перад чытачамі і студэнтамі багатыя сувязі, што ядналі літаратурную Берасцейшчыну не толькі з беларускімі рэгіёнамі, але й іншымі народамі і краінамі. Сотні таленавітых імёнаў паўстаюць са старонак яе кніг. Яна з павагаю, гонарам, любасцю распавядае пра найбагацейшыя скарбы, якіх заўсёды на дастатку мела наша зямля. З прыемнасцю даследчыца вядзе размову пра пісьменнікаў, паэтаў, што мелі жыццёвыя перакрыжаванні на жабінкаўскай зямлі. І першым у спісе землякоў заўсёды паўстае постаць азятчука Юльяна Фаміча Крачкоўскага. Гэты вучоны і ў далечыні ад роднай вёскі заўсёды памятаў пра яе існаванне, ён першым сярод нашых землякоў стаў прафесійна вывучаць абрады, звычаі, народныя песні, што сотні гадоў гучалі ў ваколіцах Азятаў.

## *ЗЯМЛЯ І НАВУКА*

### КРАЧКОЎСКІ Юльян Фаміч

Нарадзіўся ў 1840 годзе ў вёсцы Азяты

*Гісторык, этнограф, педагог, старшыня Віленскай археаграфічнай камісіі*

Біёграфы Юльяна Крачкоўскага звычайна звяртаюць увагу на цікавы збег акалічнасцяў: вучоны памёр 25 ліпеня 1903 года — у дзень сваіх народзінаў, а імя атрымаў ад лацінскай назвы месяца Юліуса, у які прыйшоў у свет.

Ён нарадзіўся ў старажытных Азятах і стаў малодшым дзіцем у сям'і царкоўнага арганіста Фамы Крачкоўскага. Азяцкі гаспадар граф Луі Арман дэ Паліньяк, зацікаўлены ў развіцці царкоўнага хору, заўважыў і ацаніў прыгожы голас Фамы, уладкаваў яго ў Азяцкім уніяцкім храме і нават надзяліў зямлёю ў фальварку Мельнікі. Ужо значна пазней Юльян згадваў, што "айчыну сваю меў пры царкве і вырас на званіцы".

Пры дапамозе азяцкага святара Васіля Грыгаровіча маці ўладкавала сына на вучобу ў Тараканскую прыходскую школку пад Брэст-Літоўскам, а затым і ў Жыровіцкую духоўную семінарыю. Там яго выпадкова пачуў рэгент мітрапаліцкага хору Успенскі, які забраў юнака з цудоўным голасам у Вільню. Аднойчы, калі духоўнае вучылішча наведаў сам імператар Мікалай І, Юльян Крачкоўскі ў ліку лепшых навучэнцаў быў прадстаўлены цару.

У 1861-1865 гадах Юльян Фаміч займаўся ў духоўнай акадэміі ў Пецярбургу, дзе стаў любімым вучнем гісторыка Міхаіла Каяловіча. У доме таго бываў увесь адукаваны свет сталіцы: Юльян пазнаёміўся з пісьменнікам Іванам Аксакавым, пасябраваў з гісторыкам Мікалаем Кастамаравым і многімі іншымі цікавымі людзьмі. Юльян Крачкоўскі быў паліглотам: калі пісаў магістарскую працу, дык карыстаўся лацінскай, грэчаскай, яўрэйскай, нямецкай ды французскай мовамі.

Звычайна даследчыкі ўспрымаюць адмову Крачкоўскага працягваць царкоўную кар'еру як нейкі глыбокі канфлікт з кіраўніцтвам акадэміі. Аднак гэта не так. Ён адмовіўся не ад сану, а ад размеркавання выкладчыкам у Самарскую духоўную семінарыю і тлумачыў гэта жаданнем вярнуцца на радзіму. Менавіта таму ў 1865 годзе Юльян Фаміч патрапіў у Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю, дзе зацікавіўся вуснай паэтычнай творчасцю свайго народа.

Вучоны падарожнічаў па розных губернях і паветах, запісваючы абрады, звычаі, народныя песні беларусаў. Бываў, зразумела, і ў Азятах.

— Аднак,— жаліцца Галіна Снітко, і тут мы цалкам падзяляем яе шкадаванні,— у найбольш значных яго этнаграфічных працах — "Нарысы быту заходнярускага селяніна" і "Быт заходнярускага селяніна", прысвечаных у асноўным радзінна-хрысціннай абраднасці беларусаў і апісанню беларускага вяселля, адсутнічаюць назвы населеных пунктаў, у якіх вяліся запісы. Таму дакладна цяжка сказаць, што менавіта было запісана Крачкоўскім у нашым краі.

Неўзабаве навуковец на невялікі тэрмін выязджае ў Тульскую губерню, а пасля вяртання займае пасаду інспектара народных вучылішчаў Віленскай навучальнай акругі, робіцца дырэктарам настаўніцкай семінарыі ў Полацку, а затым — Віленскага хрысціянскага настаўніцкага інстытута.

У 1884 годзе лёс раптоўна закінуў таленавітага педагога надзвычай далёка ад роднага парога. Юльян Фаміч узначальвае настаўніцкую семінарыю ў Ташкенце.

З 1888 года і да самай смерці Крачкоўскі займаў пасаду кіраўніка Віленскай археаграфічнай камісіі, якая вывучала і выдавала старажытныя дакументы, прысвечаныя гісторыі Беларусі. Любіў і мінулае, і сённяшні дзень свайго краю. Пад ягоным непасрэдным кіраўніцтвам выйшлі некалькі дакументальных зборнікаў. Матэрыялы да 16-га і 20-га тамоў былі сабраны і сістэматызаваны ім асабіста. Вучоны з Азятаў у 1893 годзе падрыхтаваў археалагічны з'езд, што праходзіў у Вільні. За старанную і карысную службу ён атрымаў тытул стацкага саветніка і ордэн Станіслава I ступені. Але як ні ўзыходзіў высока па службовай лесвіцы, заўсёды памятаў пра значнасць зямлі ды навукі, перад якімі схіляў галаву і калені.

Пазней сын Юльяна акадэмік Ігнат Крачкоўскі згадваў бацькавы словы, сказаныя аднойчы ў размове:

— Не пакідай свайго краёчка. Мацней па жыцці адчуваеш сябе, калі ёсць родны куток, дзе можна схіліць галаву ў цяжкую хвіліну. Зямля не абмане цябе, што ні пакладзеш у яе — усё з працэнтам вернецца.

Як пра зямлю, так і пра навуку гаварыў таленавіты вучоны: — Усе здрадзіць: і дружба, і каханне, і грошы, і здароўе — адна толькі навука не пакіне чалавека ніколі, заўсёды дасць яму заспакаенне і паможа лёгка перайсці ў іншы свет.

І сапраўды, памёр ён раптоўна, ад паралічу сэрца ў дзень свайго 63-годдзя. І пахаваны быў, згодна пажаданню, без вянкоў і прамоў.

Загаварылі за яго ягоныя кнігі, а вянком навукоўцу стала памяць нашчадкаў, што доўжыцца ўжо сто гадоў і надалей не перарвецца.

Азятчукі не забыліся пра Юльяна Фаміча, паколькі не аднойчы ўганаравалі ягонае імя. Цяпер кожны можа прайсці

**Па вуліцы Крачкоўскага**

Адсюль, з падслепаватай і драўлянай хаты,
З палескай вёскі, што з назоваю Азяты,
Пайшоў юнак у дзіўны свет, вялікі,
Імя яго — між слаўных, нешматлікіх...
Хаця даўно няма той самай хаты,
Але ёсць вуліца Крачкоўскага ў Азятах.
Іду па ёй няспешна. Мне здаецца,
Напеў гучыць і напаўняе сэрца:
"Зямля мая, о колькі для чужыны
Сыноў сваіх ты ўзгадавала слынных,
Узлёт якіх святы, высакародны —
Цябе навек праславіў, краю родны!
Няхай не ўсе жылі на Беларусі —
Я імі ганаруся... Табою ганаруся!"

## *РОДАМ З ДЗЯЦІНСТВА*

**МАНЕЦ Мікалай Мікалаевіч**

Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Азяты

*Артыст лялечнага тэатра і Гомельскай філармоніі*

Летам 1995 года, калі ў Азятах святкаваліся 155-ыя ўгодкі з дня нараджэння Юльяна Крачкоўскага, на будынку мясцовага Дома культуры ў яго гонар была ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Свята набірала сілу, весялілася, спявала. У цэнтры гуляння былі пастаянна Гаспадар і Гаспадыня. У Гаспадара — даматканая, вышытая сарочка, саламяны капялюш, вусы і барада, гарэзліва-вясёлыя агеньчыкі ў вачах. Яго ролю выконваў артыст Гомельскай філармоніі Мікалай Манец, які прыехаў да бацькоў і ахвотна згадзіўся дапамагчы мясцовым культработнікам.

Артыстычны талент у хлопца праявіўся ў старэйшых класах. Ён пачаў актыўна выступаць на школьных вечарах і калгаснай сцэне, а пасля заканчэння дзесяцігодкі заявіў, што едзе вучыцца на артыста.

Жаданне было такім вялікім, што ніякія адгаворы блізкіх і настаўнікаў не памаглі: Мікалай паехаў паступаць у Мінскі тэатральна-мастацкі інстытут. Вярнуўся дадому радасны, з упэўненасцю, што будзе залічаны на аддзяленне акцёра тэатра лялек.

— Тут, мусіць, распарадзіўся лёс,— расказваў Манец.— Пасля першага тура экзаменацыйная камісія заявіла, што для акцёра драмтэатра, аб чым марыў, ростам не выйшаў. Маглі ж проста адлічыць, а то далі шанц: паспрабуй там, дзе рост не перашкода...

У час вучобы ў інстытуце хлопцу шанцавала на выкладчыкаў. Курс па замежным тэатры чытаў вядомы беларускі пісьменнік, тэатразнавец Уладзімір Няфёд, замежную літаратуру выкладаў Аркадзь Скір, а сцэнічную мову — Ганна Шагідзевіч.

У адным пакоі з Манцам жыў Генадзь Яцкоўскі з Кобрына. Гена змалку захапляўся жангліраваннем ды ілюзіянізмам, чытаў кнігі, стараўся паказваць фокусы і захапіў імі Мікалая. Неўзабаве ён падказаў Манцу паралельна займацца ў цыркавой студыі ў Леаніда Фурса. Атрыманыя веды вельмі згадзіліся...

З дыпломамі артыстаў раз'ехаліся хлопцы і дзяўчаты па гарадах, дзе былі лялечныя тэатры. Мікалаю Манцу дастаўся Гомель. Гэта было за два гады да таго, як Чарнобыль і Гомель будуць называць у ліку гарадоў, пацярпелых ад аварыі на ЧАЭС.

З першых дзён Мікалай пасябраваў з Валерыем Курдзюмавым. Быў той трохі старэйшы за Манца і ў сваёй справе добра ўжо

разбіраўся. Валерый дапамагаў Мікалаю вучыць ролі. Прыйшла пара Манцу ісці ў войска. Служыў ва Украіне. У палку хутка "раскусілі", што можа новы салдат, і стала яго служба працягам мірнай працы: і паказ фокусаў, і арганізацыя армейскага ансамбля, і канферанс на дывізіённым "агеньчыку", і, нарэшце,— пасада начальніка армейскага клуба.

Пасля службы Манец вярнуўся ў Гомель. Шмат гадоў аддаў Гомельскаму тэатру лялек. А роляў колькі! Часам дзве-тры ў адным спектаклі. Былі і любімыя: роля Мартана ў спектаклі "Усе мышы любяць сыр" ды доктара Марабу ў п'есе "Насарог і Жырафа".

— Калі іграеш для дзяцей,— расказвае Мікалай Мікалаевіч,— дык адчуваеш, што сам родам з дзяцінства. Калі не заняты ў сцэне і збоку назіраеш, як весела смяюцца малыя, якія яны шчаслівыя, як яны рэагуюць на тое, што адбываецца ў спектаклі, дык цяжка здрадзіць такому гледачу...

Напэўна, Мікалай век нязменна служыў бы дзецям, а ілюзіянізм заставаўся б толькі як хобі, каб само жыццё не ўнесла свае карэктывы. Не апошнюю ролю тут сыграла чарнобыльская аварыя. Мікалай Мікалаевіч цяжка захварэў. Адляжаў з невялікімі перапынкамі ў Гомельскай бальніцы чатыры месяцы, а выздараўленне так і не наступіла. Нядобрыя часам думкі лезлі ў галаву, і тады ён стаў у палаце паказваць фокусы, каб падняць настрой сабе і хворым.

Прыехала маці і ледзь не сілком павезла сына ў Азяты: родная зямля, маўляў, вылечыць! І праўда, малая радзіма ды добры доктар Ангеліна Дзмітрыеўна Чарнейка паставілі Мікалая на ногі. Яе чалавечнасць, уменне пераканаць хворага, што няма безвыходных абставін, яе нястомная энергія і сёння з цеплынёй згадваюцца Манцам

Ён вярнуўся ў Гомель, да сям'і. Мікалай Мікалаевіч быў яшчэ ў адпачынку, калі запрасілі яго выступіць перад рабочымі. Вельмі хваляваўся перад дарослым гледачом, але свае нумары выканаў бездакорна. А напрыканцы да артыста падышоў салідны мужчына з пасівелымі скронямі і назваў сябе:

— Я — Рыгор Ясеневіч Плод. Сам родам з Гомеля, але зараз кіраўнік трупы, што выступае на Далёкім Усходзе. З пачатку да канца бачыў тваё выступленне. У мяне да цябе, малады чалавек, з'явілася прапанова: я твой вядучы і адміністратар. Ты рыхтуеш праграму на свой густ, і мы з табой аб'ездзім увесь Далёкі Усход. Ну, як?

Ад гэтай прапановы ў Мікалая аж дых заняло, але заканчваўся водпуск, трэба бало выходзіць на працу. Манец да дырэктара: прашу водпуск за свой кошт. А той заўпарціўся: альбо выходзь на працу, альбо звальняйся!.. Мікалай выбраў апошняе.

Рыгор Ясеневіч аказаўся чалавекам слова. Праграма, прапанаваная Манцам, усюды ішла на "біс". Такім чынам, жангліраванне і ілюзіён з хобі ператварыліся ў асноўную працу.

Вярнуўшыся з Далёкага Усходу, Мікалай Мікалаевіч у складзе фальклорна-этнаграфічнага ансамбля "Гомель" аб'ездзіў амаль усю Беларусь, Крым, Урал, пабываў у Германіі і Шатландыі. Пасля стаў артыстам Гомельскай філармоніі. І зноў яго чакалі частыя паездкі па радзіме і суседняй Расіі. У 1994 годзе Манец быў дэлегатам І з'езда ілюзіяністаў Беларусі.

У час выступленняў ён быў і артыстам, і канферансье. Для апошняга выбраў ролю беларускага Несцеркі, якога змусіў гаварыць на розных мовах.

... А ў час таго свята, пра якое мы згадвалі ўпачатку, пад вечар надвор'е змянілася. Сонца схавалася за хмару, збіралася на дождж. Нечакана парыў ветру сарваў з галавы Гаспадара саламяны капялюш. Мікалай Мікалаевіч весела заўважыў:

— О, бацька жартуе! — і прыгразіў некаму кулаком.

Азятчукі заўсміхаліся, а гасцям прыйшлося растлумачыць, што ягонага бацьку Мікалая Іванавіча Манца, чалавека самавітага, цікавага, па-вулічнаму клічуць Бура...

На гэтым, здаецца, можна было б і развітацца з Азятамі ды азятчукамі, але ж як не прыгадаць на расстанне яшчэ некалькіх ураджэнцаў гэтай надзвычай старадаўняй вёскі: Надзею Гумянка, адзіную жанчыну-падпалкоўніка ў беларускім войску, ды Наталлю Дырман, артыстку-гумарыстку, вядомую далёка па-за межамі Жабінкаўшчыны. Кожнае яе з'яўленне на сцэне — ужо пачатак свята ды добрага настрою. Відаць, сапраўды, зямля тут на хлеб, на песню ды на таленты багатая.

Кожны з названых людзей стаў упрыгожаннем краю. Традыцыя здзіўляць свет, якая спрадвеку жыве сярод азятчукоў, не перарываецца і ў XXI стагоддзі.

Летась вызначыўся яшчэ адзін выпускнік Азяцкай сярэдняй школы — Віталь Сабалеўскі. Яго работу "Мой храм і яго гісторыя" заўважыў сам Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт.

А мы, між тым, непрыкметна кіруемся ў вёску-партызанку — Старое Сяло.

Гэта адно з найбольш старажытных паселішчаў Жабінкаўшчыны (што, дарэчы, адбілася і ў самой назве сяла). Пачаткі вёскі сягаюць ажно ў XVI стагоддзе. У цэнтры яе — помнік аднаму з самых знакамітых партызан, першаму старшыні Старасельскага сельсавета Міхаілу Чарнаку. Пра яго ўжо даўно складзены легенды на нашай зямлі.

## *ДУБ ЧАРНАКА*

**ЧАРНАК Міхаіл Мікітавіч**

Нарадзіўся ў 1911 годзе ў вёсцы Старое Сяло

*Адзін з арганізатараў партызанскага руху на Брэстчыне, кіраўнік разведкі Старасельскага атрада*

Ён вельмі любіў лес. Можа, таму, што той падступаў аж да Старога Сяла. Змалку, узяўшы кошык, Міхаіл Чарнак бег у грыбы і ягады. Ва ўраджайную пару грыбоў тут — хоць касою касі!

Асабліва падабаліся яму дубы ва ўрочышчы Руслаўка. Шырока раскінуўшы галіны, моцна ўросшы каранямі ў зямлю, яны, здавалася, не баяліся ні ветру, ні навальніц. "Такім і чалавек павінен быць нязломным",— не раз думаў Чарнак у юначыя гады.

Замучвалі беззямелле і беднасць. Сям'я вялікая — чацвёра дзяцей. Усе — як бы пацвярджаюць сваё прозвішча — чарнявыя. Міша — меншанькі. Бацька памёр рана. Хата старэнькая — падпора на падпоры, а збудаваць новую не даюць. Міхаіл ужо і лесу навазіў. Прыходзіў паліцыянт, прыгразіў:

— Зямельны ўчастак вузкі — нельга! Збудуеш — развалім!

У гміне таксама не падтрымалі. Ведае Чарнак, адкуль такая непрыхільнасць да яго. У Руслаўцы, пад магутным дубам, далі яны з сястрой Дар'яй клятву змагацца за лепшую долю гэтага краю. Многа выступаюць перад панскімі батракамі, вучаць, як трэба жыць. Вось і зненавідзелі іх прадстаўнікі ўлады.

Аднойчы сваімі бедамі Міхаіл Мікітавіч падзяліўся з землеўпарадчыкам Андраюком. Даніла Нічыпаравіч жыў у Стрыганцы. Быў ён чалавекам адукаваным, разумным, пасля вайны нават працаваў настаўнікам у Стрыганецкай сямігадовай школе.

— Адмяніць я рашэнне паліцыянта не магу, а тым болей — гміны,— разважыў Андраюк,— але твайму гору памагчы можна. Міша, ты знойдзеш людзей, каб за адзін дзень склалі зруб і накрылі хату?

— Канечне, знайду.

— Вось і рабі. Думаю, развальваць яны не стануць. У горшым выпадку дадуць штраф злотых пяць, а можа, і так абыдзецца,— і дадаў, працягнуўшы руку на развітанне: — Я тыдзень-другі не загляну ў Старое Сяло, а ты — будуй!..

Калі нарэшце Даніла Нічыпаравіч наведаў вёску, на Чарнаковым надзеле стаяла хата з зашклёнымі вокнамі. А старую пасля разабралі.

Неўзабаве ў новы дом пераехала старэйшая сястра Усцiння. Яна нядаўна аўдавела, і цяпер усе жылі разам: маці, Усціння з дочкамі і Міхаіл.

Міхаіл Чарнак у тыя гады працаваў у Падгародскім падпольным райкаме партыі. Шмат даносілі шпікі на падпольшчыкаў. Каб зламаць дух бунтаўшчыка, Міхаіла забралі ў войска. Механічны полк, у якім служыў Чарнак, кватараваў у Брэсце.

У гэты час Дар'я праводзіла прапаганду рэвалюцыйных ідэй сярод салдат. Наладжваць сувязі ёй дапамагаў брат. Разам з Міхаілам яны і праводзілі работу ў арміі. У студзені 1933 года брат і сястра амаль адначасова былі схоплены агентамі дэфензівы і аказаліся ў ваенна-следчай турме "Брыгіткі". Суровая, змрочная, яна знаходзілася на тэрыторыі Брэсцкай крэпасці і прызначалася для самых небяспечных вязняў. Пра турму гаварылі: "Хто ў "Брыгітках" не быў, той і гора не бачыў"...

Верасень 1939 года адчыніў дзверы вязніцаў для палітзняволеных. У брата і сястры пачынаецца новае жыццё. Нягледзячы на тое, што Міхаіл меў усяго тры класы адукацыі, яго выбралі старшынёй Старасельскага сельсавета, а Дар'я працавала інструктарам Беластоцкага аблвыканкама. Але, як аказалася, было так мала мірных дзён...

У ноч з 24 на 25 чэрвеня 1941 года з кулямётнай роты лейтэнанта Сяргея Шыканава, якая адступала з-пад Брэста, у Старасельскім лесе пачаў ствараццa партызанскі атрад. Шыканаву была патрэбная дапамога з боку мясцовых жыхароў. І Сяргей Сяргеевіч звярнуўся да Міхаіла Чарнака. Як і абяцаў стараселец, неўзабаве да партызан прыбылі падводы з харчамі. Іх прывезлі Чарнак і калгасны рахункавод Даніла Манец. З імі прыйшлі 15 маладых хлопцаў, якія адразу ўліліся ў атрад.

Чарнак некаторы час камандаваў узводам, а пасля быў намеснікам камандзіра па разведцы. Ён добра ведаў наваколле. Была наладжана сувязь з актывістамі-падпольшчыкамі навакольных вёсак. Многія з іх пазней сталі таксама народнымі мсціўцамі.

Сіламі атрада ўдалося разграміць паліцэйскія ўчасткі ў бліжэйшых вёсках. Аўтарытэт народных мсціўцаў сярод мясцовага насельніцтва асабліва ўзрос, калі знішчылі ўчастак у Азятах.

Пра адвагу і мужнасць няўлоўнага Чарнака хадзілі легенды. То ён пад выглядам селяніна-вазніцы пранік у Брэсце на склад і вывез у атрад 6 «лайкавых кулямётаў, 10 скрынак з гранатамі і патронамі. То ён абхітрыў паліцаяў і немцаў, якія гналіся за ім па дарозе Лясавец — Старое Сяло. Гітлераўцы паабяцалі за галаву адважнага партызана 50 тысяч марак.

У Міхаіла Чарнака быў неймаверны аўтарытэт і сярод тутэйшых людзей, нават лічылі, што Чарнак выступаў супраць марадзёрства ў атрадзе і з-за гэтага загінуў.

Быў такі выпадак. Прыехалі партызаны сярод зімы ў Стрыганец, даведаўшыся, што ў Пратасюкоў ёсць веласіпед.

— Гэта не мой, а зяця,— сказаў ім Юстын Максімавіч.— А яго якраз няма.

— Нам указанне, і мы ўсё роўна забяром.

— Ён на гарышчы. Разабраны.

— Здымі, дзед. Мы самі збяром.

У гэты час зайшла сувязная атрада Ганна Чарнак, якая добра ведала Пратасюкоў. Дазнаўшыся, чым у гэтым доме займаюцца знаёмыя хлопцы, ледзь не сілком выпіхнула іх з хаты:

— Не ў тых вы выпрашылі ўзяць! — і дадала, звяртаючыся да Юстына Максімавіча і Еўдакіі Данілаўны: — Не здымайце з гарышча. Я скажу Міхаілу Чарнаку, і больш ніхто не прыйдзе да вас па веласіпед...

Так яно і адбылося.

Улетку 1943 года загінула Дар'я Чарнак. Даша, адна з арганізатарак антыфашысцкага падполля ў Беластоку, была схоплена гестапаўцамі ў чэрвені 1942 года. Перад беластоцкімі змагарамі ўзнікла сур'ёзная пагроза масавых арыштаў. Трэба было тэрмінова пакідаць горад. Аднак сяброўка адважнай падпольшчыцы Вера Жыгмант, якая выдатна ведала Дар'ю, запэўніла:

— Заставайцеся на сваіх месцах. Даша ніякіх імёнаў не назаве.

Дзесяць месяцаў жанчыну катавалі ў турме, але яна сапраўды не прамовіла ні слова. У ліпені 1943-га фашысты расстралялі патрыётку. Для яе смерць сталася вызваленнем ад пакут. Даша ніколі не даведалася, што яе любы брат Міхаіл загінуў у барацьбе за некалькі месяцаў да яе расстрэлу.

Афіцыйна лічыцца, што Міхаіл Мікітавіч Чарнак загінуў у баі 2 мая 1943 года, калі карнікі, стараючыся разграміць партызанскі атрад, рушылі ў Старасельскі лес вялікія сілы. Але не адразу знайшлі цела камандзіра разведкі, бо, адступаючы перад пераўзыходзячай колькасцю ворага, народныя мсціўцы разбіліся на тры групы.

Знайшлі цела Чарнака пастушкі, што пасвілі кароў, праз некалькі дзён пасля тых падзей. Пахавалі яго ва ўрочышчы Руслаўка, пад разлапістым дубам, дзе хацеў ляжаць Міхаіл Мікітавіч пасля смерці, дзе з сястрой Дашай даваў клятву.

У чэрвені 1943 года, па просьбе партызан, атраду было прысвоена імя Міхаіла Чарнака. Пасля вайны яго астанкі былі перанесены ў

Старое Сяло і пахаваны ў скверы. На магіле ўдзячныя аднавяскоўцы ўстанавілі помнік — архітэктурна-скульптурны ансамбль з бюстам Міхаіла Мікітавіча Чарнака. Яго імя носяць вуліца ў Жабінцы і сквер у Старым Сяле.

Месца стаянкі партызанскага атрада, каля дуба ў Старасельскім лесе, увекавечана мемарыяльнай зямлянкай, дзе на мармуровай дошцы высечаны прозвішчы народных мсціўцаў, што загінулі і пахаваны тут. Людзі і сёння з любоўю дуб у Руслаўцы (Раслаўцы) завуць дубам Чарнака.

## *ЗЯЛЁНАЯ ЗОРКА НАДЗЕІ*

**ГЕРАСЕВІЧ Іван Пракопавіч**
Нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Стрыганец
*Артыст Брэсцкага абласнога тэатра лялек*

Іванава дзяцінства — вельмі звычайнае для хлопчыка ваеннага пакалення. У два гады ён страціў бацьку: Пракоп Дзянісавіч Герасевіч загінуў у сорак пятым у Германіі. Увесь цяжар лёг на мацярынскія плечы.

Іван быў адзіным памочнікам маці. Калі ж Пелагея Ануфрыеўна пачала губляць зрок (пазней яна зусім стане невідушчай), шаснаццацігадовы юнак пасля дзевятага класа мусіў кінуць вучобу і перасесці на трактар.

Ужо ў той час у юначай душы жыла адна мара. Здарылася так, што старшыня мясцовага калгаса запрасіў выступіць у Ракітніцы сталічны лялечны тэатр, які гастраляваў па Брэсцкай вобласці. Спектакль паказвалі проста на вуліцы. Вясковаму хлопцу лялечнае выступленне падалося і дзіўным, і чароўным, і непаўторным...

Іван змалку меў творчыя задаткі. У той час у Стрыганецкім клубе нярэдка ладзіліся невялічкія сцэнкі з вясковага жыцця. Яны часта высмейвалі заганы мясцовых людзей і мелі поспех у аднавяскоўцаў.

Тады ж Івану ў вочы трапіла газетная аб'яўка пра набор на завочнае аддзяленне ў Маскоўскі народны універсітэт на факультэт кіраўніка самадзейнага тэатральнага калектыву. Герасевіч паслаў дакументы. Радаснымі для яго былі залічэнне і вучоба ў гэтай установе.

У 1963 годзе Іван Пракопавіч Герасевіч пераходзіць працаваць на будаўніцтва Жабінкаўскага цукровага завода, а пасля пуску — адзін сезон асвойваў прафесію цэнрыфугоўшчыка на прадпрыемстве. Затым перабіраецца ў Брэст, уладкоўваецца бульдазерыстам у камбінаце па добраўпарадкаванні горада.

...Быў канец 60-х, калі праз некалькі гадоў мы нечакана сустрэліся з Іванам у Бастыні Лунінецкага раёна. У вёску, дзе я працаваў тады настаўнікам, прыехаў Брэсцкі тэатр лялек, што стала падзеяй для дзятвы. Пасля спектакля Герасевіч расказаў пра сябе.

...Той ліпеньскі дзень шэсцьдзесят пятага выдаўся сонечны, крыху гарачы. Усё пачыналася, як пісаў паэт Мікола Пракаповіч, быццам у навагодняй казцы (нездарма ж Герасевіч нарадзіўся 1 студзеня!). Іван не адчуваў вялікай стомы. Вяртацца ў халасцяцкі пакой не вельмі хацелася. Хлопец ішоў няспешна, чытаючы аб'явы.

На вуліцы Леніна яго "сустрэў" вялікі плакат з аб'яваю: пры Брэсцкім драматычным тэатры імя Ленінскага камсамола Беларусі ў лялечную групу патрабуюцца артысты. Жадаючых запрашалі ў адзін з пакояў тэатра. Іван як быў у рабочай вопратцы, так і пастукаўся ў дзверы.

Насустрач падняўся прыгожы, малады яшчэ, але з першай сівізной на скронях чалавек, працягнуў руку. Гэта быў рэжысёр лялечнай групы Аляксандр Сярогін. Іван захваляваўся і сказаў дрыжачым голасам:

— Я па аб'яве, што на вуліцы.

Аляксандр Пятровіч паказаў рукою на стул:

— Сядайце, пагаворым,— і задаў, мусіць, самае важнае пытанне: — А чаму вы лічыце, што можаце быць лялечным акцёрам?

Герасевічу прыйшлося расказваць і пра выступленне Мінскага тэатра лялек у Ракітніцы, і пра тое, што ён паспеў закончыць завочна асноўны курс народнага універсітэта мастацтваў у Маскве, і што вельмі- вельмі хочацца быць акцёрам.

Сярогін слухаў з добрай усмешкаю, а на развітанне сказаў:

— Вывучыце верш, байку ды ўрывак прозы і прыходзьце сюды, паслухаем...

Роўна праз тыдзень у святочным ужо касцюме і пры гальштуку Іван стукаўся зноў у тыя дзверы. Аляксандр Пятровіч сустрэў яго, як добрага знаёмага, а праслухаўшы чытанне, сказаў:

— Мы вас бяром. Можаце звальняцца з камбіната...

У пачатку жніўня лялечная трупа са спектаклем "Казка пра сярэбраны сподачак і наліўны яблык" выязджала на гастролі па Брэстчыне. Вадзяніка вадзіў сам Сярогін. Хаця ў Герасевіча яшчэ не было сваёй ролі, але і яго ўзялі:

— Будзеш дапамагаць нам. Будзеш глядзець, як трэба іграць...

Першы прыпынак быў у Давыд-Гарадку. Калі Іван глядзеў у перапоўненую залу, дзе іскрыліся дзіцячыя вочы, яму хацелася хутчэй

стаць артыстам. З Давыд-Гарадка пераехалі ў Столін, адтуль — у Лунінец, далей — у Пінск... Так з горада ў горад, не абмінаючы і вялікія палескія вёскі... Толькі праз месяц артысты вярнуліся ў Брэст.

Трохі адпачылі — і новыя дарогі павялі па Гарадзеншчыне. За час гастроляў па Брэстчыне Герасевіч не толькі навучыўся вадзіць ляльку, але й спаўна ведаў ролю Вадзяніка. Аляксандр Пятровіч даверыў яе маладому акцёру. Да гэтага часу Герасевіч лічыць ляльку Вадзяніка любімай, паколькі менавіта гэтая роля стала першаю ў жыцці, адкрыла свету новага акцёра.

За сорак гадоў працы ў тэатры былі сотні роляў: часам па дзветры ў адным спектаклі. Пан і Поп у казцы "Дзед і жораў", Воўк і Паляўнічы — у "Чырвонай Шапачцы", Кароль і Конь — у "Прынцэсе Паскакушцы"...

Іван, збіраючыся жаніцца, разумеў: такое жыццё на колах, калі дома з'яўляешся праз месяц-паўтара, вытрымае не кожная жанчына, і ўгаварыў выхавацельку дзіцячага садка Алу "перакваліфікавацца"— стаць таксама артысткай. Так муж і жонка Герасевічы гастралявалі разам, аж пакуль не нарадзілася дачка Людміла.

Потым Ала вярнулася на ранейшае месца працы, а Іван усё ездзіў і ездзіў, выступаў і выступаў... Праўда, калі Людачка пайшла ў першы клас, бацька вымушаны быў на год уладкавацца наладчыкам на электралямпавы завод. Калі ж дачка трохі падрасла і асвоілася, ён вярнуўся зноў да сваіх лялек.

— Калі захварэеш тэатрам, дык на ўсё жыццё! — прызнаецца Іван Пракопавіч.

А ў жыцці здараюцца розныя нечаканасці. Часам вельмі прыемныя. Адна з іх наблізіла Івана Герасевіча да кіно.

У Брэсцкай крэпасці рэжысёр А. Гарошка здымаў сваю карціну "Сын камандзіра". Шукаючы масоўку, памочнік рэжысёра звярнуўся ў першую чаргу да тэатральных артыстаў, а калі пабачыў Герасевіча, усклікнуў:

— Гэта ж выліты нямецкі афіцэр! Яго і грыміраваць не трэба — толькі апрануць мундзір...

Роля была эпізадычная: Івану трэба было вывучыць і сказаць адну фразу па-нямецку. Тым не менш яго заўважылі. Неўзабаве Іван Пракопавіч на кінастудыі "Беларусьфільм" здымаўся ў карцінах Віктара Турава, Міхаіла Пташука, Валерыя Рыбарава, іншых майстраў беларускага кіно.

Найбольш, мусіць, ён спадабаўся Валерыю Пятровічу. Услед за фільмам "Чужая бацькаўшчына", дзе Герасевічу дасталася невялічкая роля паляка, Рыбараў стаў здымаць дзвюхсерыйную кінастужку "Сведка" паводле вядомай аповесці Віктара Казько "Суд у Слабадзе". У ёй Івану Пракопавічу дасталася аб'ёмістая, нялёгкая роля здрадніка Радзько. З ёю артыст справіўся.

Былі запрашэнні і з іншых кінастудый. На "Ленфільме" сыграў у стужцы "Сто салдат і дзве дзяўчыны", на кінастудыі імя Даўжэнкі — у двух фільмах. Асабліва запомнілася карціна "Цяжка быць Богам". Паводле аднайменнага рамана братоў Стругацкіх кінастужку здымаў запрошаны з Германіі рэжысёр Пітэр Фляйшман. Івану Герасевічу

дасталася адна з вядучых роляў — ваяводы Цупіка. Здымкі доўжыліся на працягу 1988 і 1989 гадоў — у Кіеве, Крыме, на Паміры...

За дзесяць гадоў Івану Герасевічу ўдалося "засвяціцца" ў 14 кінастужках. Гэта сапраўды быў ягоны "зорны час".

— Вельмі дысцыплінуе,— расказвае Іван Пракопавіч,— работа ў кіно. Мусіш вытрымаць не адзін, не два і нават не пяць дубляў, каб урэшце задаволіўся рэжысёр...

А вось у сапраўдным жыцці дубляў не бывае. Усё ідзе сваім парадкам.

Студзень 2003 года для Івана Пракопавіча Герасевіча быў "ураджайным" на шчаслівыя хвіліны. Яму споўнілася 60 гадоў — сапраўды дзедаўскі ўзрост. Знакаміты акцёр, памочнік рэжысёра быў спачатку ўзнагароджаны Ганаровай граматай Брэсцкага аблвыканкама, а потым — прэміяй "Берасцейскія зоркі".

18 студзеня, калі ў драмтэатры, дзе малады Герасевіч некалі трымаў свой першы экзамен, яму ўручалі гэтую прэстыжную прэмію. Тады мне падумалася, што ў Івана ёсць свая зялёная зорка надзеі, якая кліча наперад, і ён, нягледзячы на ўсе цяжкасці, ідзе за ёю.

— Мне дарагія ўсе спектаклі: і тыя, што даўно сталі гісторыяй тэатра, і тыя, што сёння жывуць на сцэне, а сярод іх ёсць сапраўдныя старажылы: ужо дваццаць гадоў радуе маленькіх гледачоў "Збангаварун", паказаны 734 спектаклі!

Акцёр Міхась Перапечка, які добра ведае Івана, неяк сказаў:

— Іграць так, як Ваня, могуць нямногія, бо лялькі — гэта яго жыццё!

Да Міхасёвых слоў далучаюцца і іншыя сябры-паплечнікі акцёра, што выйшаў у прыгожы сцэнічны свет з маленькай жабінкаўскай вёсачкі.

Артыстка Тамара Тэвасян гаворыць:

— Уявіце сабе: мужчына — салідны, прадстаўнічы — усё жыццё гуляе ў лялькі. За гэтым, мне думаецца, глыбінная любоў да тэатра і вялікая любоў да дзяцей. Іван Пракопавіч — мой любімы партнёр, мы з ім ужо больш за дваццаць гадоў на сцэне, ён — Майстар. Калі Іван бярэ ў рукі ляльку, яна ў яго імгненна ажывае. Дзеці любяць ягоных герояў, нават адмоўных, бо ў кожным з іх ён можа знайсці нешта вельмі чалавечнае, жывое...

А галоўны рэжысёр Брэсцкага тэатра лялек Дзмітрый Нуянзін дадае, быццам дамалёўвае партрэт артыста, якому, згодна закону жанра, наканавана часцей заставацца нябачным для гледача:

— Кожны рэжысёр марыць пра "ідэальнага" акцёра. Адной са складаемых гэтага я назваў бы надзейнасць, а Іван Герасевіч — адзін

з самых надзейных нашых акцёраў. Ён — у спектаклі, з лялькай у руках, і ён — усюды, усё ведае, усё памятае і за ўсё адказны, ён той стрыжань, на якім трымаецца спектакль.

Сорак гадоў у тэатры. Колькі сыграна роляў! Колькі радасці падорана дзедам Іванам юным гледачам! А колькі яшчэ будзе! Бо па-ранейшаму Іван Пракопавіч на сцэне.

А цяпер перамесцімся ў Булькова, дзе артыстычная дарога злучаецца з мастацкаю.

## *НА ЗЯМЛІ ІВАНА РЭЯ*

**РЭЙ Іван Пятровіч**

Нарадзіўся ў 1930 годзе на хутары Падбулькова, што існаваў паміж вёскамі Булькова і Ракітніца

*Мастак,*

*заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі*

ёсць у Брэсцкім і Жабінкаўскім раёнах суседнія вёскі, аб'яднаныя адным імем — Булькова. Раздзяляе, аднак, іх вада: адно паселішча на правым беразе Мухаўца, другое праз раку, нібы ў люстэрка, на блізнюка глядзіцца. Жабінкаўскае Булькова, вядома, старэйшае. Кажуць, што заснавалі Булькова, што "праз раку", выхадцы з нашага берага. А таму роднасць між вёскамі жыхары памятаюць і цяпер.

Паехаць у вёску Булькова Брэсцкага раёна, дзе жыў мастак Іван Пятровіч Рэй, паклікаў паэт Алесь Каско, ён збіраўся неяк напісаць пра палотны мастака. Алесеву задуму, аднак, апярэдзіў берасцейскі журналіст Уладзімір Ерамінок, змясціўшы ў газеце "Заря" вялікі артыкул, а 20 жніўня 2002 года Івана Пятровіча не стала.

Шмат цікавага пра зямлю, якая выхоўвае таленты, а таксама пра сям'ю Рэяў расказалі сябра дзяцінства Іван Васільевіч Мартысюк, ветэран вайны і працы Іван Ігнатавіч Яроцкі, зямлячка Таццяна Паўлаўна Дзямчук, яе дачка Любоў Мікалаеўна Таццянчэнка ды іншыя.

...На пачатку XX стагоддзя землі, якія знаходзіліся ва ўрочышчы Хэрма, належалі памешчыку Нікіціну. У яго былі дочкі-прыгажуні на выданні. Іх пакахалі афіцэры, што неслі службу ў Брэст-Літоўску. Абодва зяці аказаліся родам з Масквы. Адслужыўшы, яны паехалі дамоў, паклікалі з сабою цесця.

Нікіцін, каб не жыць у адзіноце і аддаленні ад дачок, пачаў прадаваць зямлю. Яе купілі чатыры мужыкі з нашага Булькова. Сярод іх і браты Рэі — Пётр і Фёдар. Неўзабаве яны збудавалі адзін насупраць другога два амаль аднолькавыя дамы.

"Пакупчыкі" прынеслі на гэтую зямлю і сваю назву — Падбулькова. Яна замацавалася і за невялічкай вёсачкай. Праўда, напрыканцы мінулага стагоддзя, калі ў Падбулькове засталося толькі некалькі хат, затое шмат вырасла дач-катэджаў, вёсачку "абняло" Булькова.

Як і кожны бацька, Пётр Кірылавіч Рэй жадаў убачыць сына, які стаў бы гаспадаром на зямлі, а нараджаліся дочкі. Толькі пятым дзіцем з'явіўся Іван. Хлопчык змалку пацягнуўся да навукі, да малявання. Іван Яроцкі неяк успамінаў, як Ваня намаляваў балота — такое ж, як за Рэявай хатаю, а сястра мастака Вольга Пятроўна памятае, што

партрэты Сталіна і Пілсудскага, перарысаваныя з газет, прынеслі "вядомасць" Івану ў вёсцы, а заадно і пераканалі Пятра Кірылавіча, што сына трэба вучыць.

Веды свае Іван атрымліваў і ў Булькове, і ў Брэсце. Гэта, мусіць, і ўратавала хлопца, калі ў Падбулькове стваралі калгас і тры багацейшыя сям'і — братоў Рэяў і Шэйды — раскулачылі ды вывезлі. Цяпер хлопец працягваў вучобу, не спадзяючыся на чыю-небудзь дапамогу, і ў Іванаўскім мастацкім вучылішчы (Расія), і ў Беларускім тэатральным мастацкім інстытуце (Мінск).

— Якія яны былі кулакі! — хвалявалася, успамінаючы, Таццяна Дзямчук.— Зямлі трохі болей мелі? Дык працавалі з усходу сонца да захаду. І ўсё роўна сказаць не магу, што такія ўжо заможныя яны былі. Разам з Таняй Рэй мы хадзілі на заробкі да пана ў Навасады, збіралі памідоры, агуркі... А ў час калектывізацыі на іх нагаварылі тыя, што жылі бедна, бо працавалі абы з рук. Самі ж Рэі былі людзі добрыя, душэўныя: многім падказвалі, многім памагалі. Такое ж чулае сэрца і Іван меў. Мая Люба пасля школы паступіла ў Мінскі інстытут народнай гаспадаркі. Спачатку ёй не давалі інтэрната. Зняла кватэру, а гаспадыня трапілася нядобрая: крый Божа святло раней часу запаліць альбо, калі захочацца, чаю на пліце сагрэць. Падумала тады я, паехала ў Брэст, знайшла Іванаву сястру, узяла братаў адрас і паслала яму пісьмо. Іван Пятровіч, закончыўшы тэатральна-мастацкі інстытут, ужо выкладаў у ім...

Любоў Таццянчэнка добра памятае тую першую сустрэчу:

— Быў надвячорак, але мы з сяброўкай-кватаранткай электрычнасці не ўключалі, як у дзверы пакоя пастукалі. Мы пераглянуліся: здаецца, нікога не чакалі! Зайшоў высокі малады чалавек са строгай прычоскаю, пры гальштуку, запаліў святло — і мы сталі знаёміцца. Гэта быў Іван Пятровіч Рэй. Па-зямляцку шчыра ён распытваў пра маю вучобу, пра жыццё. Канечне, я многага не магла расказаць, але ён, аказалася, больш ведаў з мамінага ліста. Іван Пятровіч пагаварыў з рэктарам нашага інстытута. Меней як праз месяц я перасялілася ў інтэрнат...

Нас цікавіла, ці Іван Пятровіч, будучы вядомым мастаком, прыязджаў калі на сваю малую радзіму.

— У доме Фёдара Кірылавіча,— распавядаў Іван Ігнатавіч Яроцкі,— калі вывезлі бацькоў, засталася жыць дачка. Гэты дом захаваўся да нашага часу. А ў Пятра Кірылавіча дачка Таня ў вайну трапіла пад бамбёжку і загінула, а яе сёстры паспелі выйсці замуж і жылі ў Брэсце. Пятроў дом пасля раскулачвання разабралі і завезлі, як мне помніцца, у Тэльмы на клуб. Так што вяртацца Івану не было куды.

Хаця аднойчы прыязджаў, збіраў подпісы, каб рэабілітаваць бацькоў, бязвінна пакараных...

— Калі Іван Пятровіч прыязджаў,— згадала Таццяна Паўлаўна Дзямчук,— ён заходзіў і да нас. Я гаварыла яму пра тое ж, што і вам сказала, і падпісала ліст. Такіх людзей трэба было не раскулачваць, а падтрымліваць, каб усе жылі багата...

Іван Пятровіч Рэй — вядомы беларускі мастак, удзельнік творчых выстаў. Яго карціны занялі пачэснае месца не толькі ў музеях Беларусі і Расіі, але й у калекцыях Даніі ды Галандыі. Меў высокую ўзнагароду краіны — медаль Францыска Скарыны, але ніколі не забываў тую зямлю, дзе рабіў першыя крокі ў жыццё.

У росквіце творчага таленту ён стварыў адну з лепшых сваіх карцін "Сярпы сясцёр маіх". Летні спякотны дзень. Стомленыя вяртаюцца са жніва дзяўчаты, у якіх угадваюцца сёстры мастака Ганна, Таццяна, Ніна і Вольга. У цэнтры — хлапчук, вельмі падобны на Івана. Усе яшчэ маладыя. Такімі памятаў іх Іван Пятровіч Рэй. Такімі прымаем іх і мы, гледачы. І хаця на карце даўно няма Падбулькова, але гэтай назве жыць і жыць, бо яна стала калыскаю вядомага мастака, які любіў гэту зямлю і ўславіў у сваіх палотнах.

## *ПЕРАРВАНАЯ ЭЛЕГІЯ*

### ДЗЯКОНСКІ Альбін Міхал

Нарадзіўся ў 1892 годзе ў вёсцы Пятровічы

*Польскі паэт*

Праз Пятровічы ехаў чалавек з пэндзлем, алоўкам і палітрай. Зачараваны мясцовымі краявідамі, ён спыніўся, каб намаляваць белы палац у атачэнні векавых дрэў, змешчаны на шырокім узбярэжжы Мухаўца. Хутка на палатне пачалі стварацца хвалюючыя акварэлі. Мастак злавіў натхненне. Творчасць захапіла яго. ён працаваў няспынна, з радасцю, адчуваючы, з якой лёгкасцю рука стварае шэдэўр.

Гаспадар палаца прыемна ўразіў падарожнага вытанчанасцю манер, веданнем філасофіі і мастацтва. Словам, быў сапраўдным высокаадукаваным шляхціцам, гасцінным і ветлівым. Звалі яго Альбін Дзяконскі.

— Напалеон,— працягваючы далонь, прадставіўся госць і, пабачыўшы здзіўленне ў вачах гаспадара, дадаў з усмешкаю: — Орда. Як нехта з крытыкаў сказаў, ацэньваючы мае палотны,— "Палескі Напалеон". Праўда, у адрозненне ад французскага імператара, у бой свае палкі я не вяду і больш за грукат вайсковых барабанаў люблю гучанне паланезаў. Я — музыка і мастак.

— І чым найбольш багаты, на вашу думку, гэты край, пан майстра? Музыкай ці мастацтвам?

— Я сказаў бы: музычным мастацтвам. І мне падаецца, у гэтым асяродку павінны гадавацца сапраўдныя таленты. Тут вольна дыхаецца, а алеі парку дапамагаюць разважанням, калыхаюць думкі, узбагачаюць натуру. Тут быццам жывуць крылатыя музы, што спрыяюць з'яўленню санетаў ды элегій, а таму ў Пятровічах абавязкова некалі народзіцца паэт!

Ці мог уявіць мудры мастак, што ягоныя словы хутка збудуцца? Праз нейкую чвэрць стагоддзя ў Альбіна народзіцца сын — таксама Альбін, першы паэт у нашым краі. Адбылося гэта напрыканцы красавіка 1892 года.

Але ж, чаму здзіўляцца: у адукаванай сям'і і дзеці бываюць не пазбаўленыя талентаў. Ядзвіга з Ажэшкаў Дзяконская, маці маленькага Альбіна, у дзявоцтве насіла прозвішча, знаёмае кожнаму адукаванаму чалавеку, была сваячкай слыннай пісьменніцы Элізы Ажэшка. Аднак Альбін хутка спазнаў сірочы хлеб, калі застаўся без бацькоў. Хлопчык рос здольным і дапытлівым. Яму ўжо было 18 гадоў, калі Пятровічы наведалі родзічы бацькі Казімір і Стафанія Дзяконскія. Не

маючы сваіх дзяцей, яны ўсынавілі Альбіна і забралі ў родавы маёнтак Магілёўцы, што на Пружаншчыне.

Пачаткова адукацыю малады чалавек атрымоўваў у Варшаве і Рызе, пазней гартаваў свае веды ў Лазане, паступіўшы на факультэт раманістыкі. У Швейцарыі ён пазнаёміўся з будучай жонкай Соф'яй МаліНскай, хрэсніцай ягонага прыёмнага бацькі. Падарожнічаў па Бельгіі, дзе вучыўся весці гаспадарку.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, Альбін апынуўся ў Расіі і быў залічаны афіцэрам у царскае войска. Красавік быў шчаслівым часам у жыцці Дзяконскага. ён не толькі нарадзіўся ў гэтым месяцы, але і пабраўся шлюбам — у трагічным і вялікім 1917 годзе, стварыўшы сваю сям'ю сярод ваенных ды рэвалюцыйных узрушэнняў.

Пасля вайны маладая сям'я пасялілася ў польскай сталіцы, а затым надоўга пераехала ў Магілёўцы, дзе сапраўды раскрыўся паэтычны дар Дзяконскага. Лічы, праз кожныя два-тры гады з-пад Альбінавага пяра нараджаўся на свет чарговы зборнік вершаў.

Спачатку, у віхуры складаных падзей 1920 года, голас паэта загучаў насмешліва, быццам Дзяконскі сваёй кнігай баек хацеў супрацьпаставіць голаду і бядзе смех ды іронію. Затым адчуўся пераход ад гумару да спакойнага старасвецкага жыцця — ад кнігі "Байкі, сатыра, лірыка" да зборніка "Элегія". Яго замілаванасць роднымі краявідамі выліваласяна лісты вершамі, напоўненымі любоўю да навакольнага свету.

Альбін Дзяконскі склаўся як творца. Сведчаннем гэтаму сталі сустрэчы са шматлікімі літаратарамі Варшавы, Кракава, Львова, якія ў 1925 годзе, наведваючы магілу паэта Францішка Карпінскага, гасцявалі ў доме Дзяконскага. Многіх цікавіла бібліятэка паэта, у якой некалі быў знойдзены унікальны беларускі летапіс "Хроніка Быхаўца".

Асабліва плённымі для Альбіна сталі 30-ыя гады. Паміж 1931 і 1934 гадамі з друку выйшлі ажно чатыры лірычныя зборнікі: "Гарадскія матывы", "На захад", "Два галасы", "Драма Люцыфера". Дзяконскі працаваў як апантаны. Яму дапамагалі родныя, асабліва траюрадная сястра Марыя Трэмбіцкая, якая друкавала томікі вершаў. Жонка пазней згадвала: "Мой муж быў цалкам пазбаўлены бяздзейнасці, ніколі не шукаў славы і папулярнасці, але чула, што яго вершы не пазбаўлены каштоўнасці і ў іх утрымліваецца паэтычнае зярнятка".

Апошні зборнік з'явіўся ў 1939 годзе. Ён насіў назоў "Зялёныя Магілёўцы". Многія вершы былі напоўнены нейкім прадчуваннем нядобрага, часам у радках з'яўляліся стома, неспакой, затоены боль. У тым самым годзе Дзяконскі быў арыштаваны і адпраўлены ў Мінск. Далейшы яго лёс невядомы. Муза яго замаўчала назаўжды. Але за-

сталіся вершы, якія гучаць надзейна і цяпер, як байка, перакладзеная намі з польскай мовы:

**Сіла і спакой**

Сівы мудрэц, вялікі мараліст,
Так гаварыў, бы словы натаваў на ліст:
"Як хочаш на зямлі мецъ славу,
Пашану ад людзей і Бога,
Не зыч другім благога,
Выконвай як належыць справу:
Заўжды — ад рання да змяркання —
У працы праяўляй стараннe.
Пакрыўдзіць хто — ты ж усміхніся міла,
Крыўдзіцель зразумее тваю сілу.
Не думай пра бязладдзе, войны —
І спі спакойна..."
Прыняўшы словы як папрок,
Яму сказаў: "Без кія не абыдзешся, прарок!.."
Мудрэц далей дарогу мераў
У зрэбнай вопратцы і без абновы,
Без кія — толькі з мудрым словам,
Быў так упэўнены, што я яму паверыў,
Знайшоўшы для сябе заспакаенне.
Будзь ты прарок ці геній,
Калі не грэбуеш тэорыяй такой,
У ёй пачэрпнеш сілу і спакой.

## *ПАЭТЫЧНЫ РУПЛІЎЦА*

**ГАДУЛЬКА Васіль Уладзіміравіч**
Нарадзіўся ў 1946 годзе ў вёсцы Федзькавічы
*Беларускі паэт*

Недалёка ад колішняй сядзібы Дзяконскіх было наканавана нарадзіцца яшчэ аднаму паэту з няпростым і трагічным лёсам.

За той час, як няма з намі Васіля Гадулькі, я не магу вызваліцца ад думкі, што надвячорак 14 ліпеня 1993 года быў знакавым для паэта, як і клён, што рос на яго двары.

Сонца нізка схілілася да гарызонта, калі рэдакцыйныя "Жыгулі" спяшаліся ў гараж. Траса была роўная, і аўтамабіль бег лёгка. У Федзькавічах, на Гадулькавым двары, я ўбачыў Васіля: ён стаяў ля клёна і пільна ўглядаўся ў крону дрэва, якую ледзь пазалаціла сонца. Карцела запыніцца, спытаць, што ён хоча ўбачыць у зялёнай лістоце, ды часу было ў абрэз. Не запыніліся, не спыталі, а зранку дайшла вестка: ноччу Гадулькі не стала.

Можа, тады з'явілася думка: Васіль сваім уражлівым пачуццём зразумеў — наступае апошняя хвіліна, і трэба развітацца з усім дарагім для яго на зямлі? Гэтае адчуванне толькі ўзмацнілася з гадамі. Дый на помніку, устаноўленым на магіле, знаёмае паэтава аблічча і словы: "... Шлях мой самотны" — на кляновым лісце.

Менавіта клён — блізкі для Гадулькі вобраз — праходзіць праз многія творы. У адным вершы чытаем:

Ранкам клён зялёны на маім падворку
дзіўную з лагодным ветрам вёў гаворку...

У другім:

Лісток пажоўклы ў голлі клёна
ад ветру ўздрыгвае, трымціць.

У трэцім:

І хоць вецер гне сухое вецце,
і хоць іней срэбрам лёг на скронь,—
нельга мне, шкада змахнуць, як смецце,
ліст, які сагрэў маю далонь.

Васіль Гадулька прыйшоў да чытача гэтак жа стрымана і нясмела, як і жыў. У артыкуле "Відушчая душа" на Гадулькаў зборнік "Голас" вядомы беларускі паэт Казімір Камейша напіша: "Сам я асабіста не ведаў паэта, але па творах яго здагадваюся, што быў гэта шчыры, сціплы, нават сарамлівы паэтычны руплівец".

Сапраўды, першае знаёмства з вершамі Гадулькі адбылося ў 1986 годзе, калі ў рэдакцыю завітала дырэктар Пятровіцкага клуба Раіса Шпакава. Гадулькавы творы трапілі ў рукі Васіля Сахарчука. ён чытаў вершы ўголас і смакаваў кожны радок. Потым зайшоў і аўтар, невысокі, хударлявы і вельмі сарамлівы.

Такім ён і быў. Як успамінаў аднакласнік Уладзімір Падлескі, Гадулька змалку быў вельмі сур'ёзным і стрыманым, рэдка ўдзельнічаў у хлапечых свавольствах, а больш часу аддаваў вучобе, кнігам. Асабліва захапляўся ён нямецкай мовай. Калі ў старэйшых класах вучням хацелася, каб настаўнік не апытваў іх, усе прасілі Васіля, каб ён задаў пытанне. Той задаваў, і яны з выкладчыкам гадзіну гаварылі па-нямецку, а ўсе сядзелі і лыпалі вачамі: пра што яны гавораць?..

Добрыя веды па ўсіх прадметах і цудоўнае валоданне нямецкай мовай вызначылі яго выбар: Васіль Гадулька паступае ў інстытут замежных моў. Вучыўся ён паспяхова. Захапляўся не толькі нямецкай, якую ведаў дасканала, але й англійскай і французскай мовамі. Але закончыць інстытут Васілю не дазволіў адзін выпадак.

Пра той выпадак я не чуў ад самога Гадулькі, але іншыя расказвалі ў двух варыянтах. У першым — яго запрасіў у рэстаран грамадзянін ГДР за бездакорнае веданне Гадулькам яго мовы. У другім — сам Васіль з хлопцамі зайшоў у рэстаран, а там спадабалася яго гаворка грамадзяніну ФРГ. Так ці інакш, але інстытут Гадулька не закончыў. Трохі паспрабаваў выкладаць нямецкую мову ў Азяцкай і Арэпіцкай школах, ды скора расчараваўся ў сваёй педагагічнай рабоце.

У "Сельскай праўдзе" ён блізка сышоўся з Васілём Сахарчуком. Ведаючы сціплы і нават сарамлівы Гадулькаў характар, той стараўся падтрымліваць, як мог. Ён абавязкова запрашаў на літаратурныя святы, што праводзілі члены літаб'яднання "Плынь". Яшчэ пры жыцці, з лёгкай рукі Сахарчука, вершы Гадулькі друкаваліся ў газеце "Заря" і "Літаратура і мастацтва", у часопісе "Нёман" у перакладзе на рускую мову, у альманаху "Дзень паэзіі", а пазней і ў "Полымі". Зусім незадоўга да смерці лепшае з напісанага сам аўтар сабраў у зборнік "Кропелька сонца".

У 1986 годзе Васіль Гадулька паехаў у Дом творчасці "Іслач", дзе яго паэзія была заўважана. Рыгор Барадулін назваў яго "сапраўдным вясковым інтэлігентам", а Іван Навуменка прапаноўваў сваю дзейсную дапамогу пры паступленні на філфак Беларускага дзяржуніверсітэта. Але хвароба маці і іншыя жыццёвыя расчараванні патушылі іскрынку надзеі.

Выратоўвалі толькі вершы. Яны, як і сны юнацтва, дапамагалі паэту жыць:

... хай сны юнацтва
болей не прысняцца —
я ўдзячны ім: яны дапамаглі
хоць трошкі над самім сабой падняцца,
не адрываючыся ад зямлі.

Расчараванне ў жыцці, расчараванне ў каханні. У вершы "Роднае дрэва" Гадулька сцвярджаў: "... хоць кропелькай сонца згублюся ў траве — мне ў памяці жыць, пакуль дрэва жыве", а ў другім — безысходнасць адзіноты:

І хоць кажуць, што цвітуць увесну
нават карчаваных дрэў камлі,—
я ў сваіх нашчадках не ўваскрэсну...

За тры дні да сваёй смерці Васіль Гадулька завітаў у рэдакцыю, прынёс новыя вершы, сярод іх было і "Развітанне". Паэт развітваўся з каханнем, з каханаю і намі ўсімі. Гэта мы ўсвядомілі трохі пазней, пасля страты.

"Сельская праўда" адразу адгукнулася на смерць Гадулькі: у бліжэйшым нумары з'явіўся некралог, знялі яшчэ адзін матэрыял са звярстанай паласы, каб паставіць верш "Развітанне", а да саракавін — былі і Гадулькавы творы, і вершы тых, хто ведаў яго.

Доўга і цяжка ішла Васілёва кніга да свайго чытача, аж пакуль першы ўклад на яе выданне не зрабіў Алесь Разанаў. На кнігу і помнік на магіле паэта збіраліся ўсім светам. Зборнік "Голас" быў выдадзены пры фінансавай падтрымцы фірмы "БЕЛПІ”, кардынатарам якой быў вядомы беларускі пісьменнік Леанід Дайнека.

Выхад у 2004 годзе кнігі Гадулькі стаў прыкметнай з'явай у беларускай літаратуры. На яе адгукнуліся Леанід Галубовіч, Казімір Камейша, Алесь Каско, Юрый Сапажкоў і іншыя. На прэзентацыю “Голаса" (абмеркаванне ішло аднačасова з кнігай Васіля Сахарчука "Мой вечны бор") прыехалі пісьменнікі з Мінска, Брэста, Пружан. Помніцца, што Алесь Наварыч пачаў выступленне невялічкім дыялогам: "Што падымае птушку над зямлёй?" — "Крылы?" — "Не, паветра",— "Што адрознівае паэта ад іншых людзей?" — "Вершы?" — "Не, адносіны чытачоў да іх..."

Творы Васіля Гадулькі маюць свайго чытача, які вельмі любіць паэзію. Сур'ёзную паэзію. На Беларусі шмат паэтаў добрых і розных, але ці многія могуць пахваліцца, што яны "сплялі" вянок санетаў? А ў Гадулькі ёсць. "Зорка радасці" назваў яго паэт.

У такія маёвыя дні, калі сады буялі квеценню, звыш 60 гадоў назад прыйшоў на зямлю Васіль Гадулька. Прыйшоў, каб жыць самотна між людзей і сказаць сваё шчырае слова пра гэту зямлю. І сказаў. Паклонімся за гэта яму, Чалавеку і Паэту, падорым чытачу верш, прысвечаны

**Памяці Васіля Гадулькі**

Прыйшоў паэт з халоднай ночы
Ускалыхнуць бязвер'е, тлум,
Данесці праўду, напрарочыць,
А расказаў пра боль і сум.
Душу сваю паклаў на плаху
І жыў сумотна між людзей.
Смяяўся верш яго і плакаў —
Спагады ж не знайшоў нідзе.
Ні грошай, ні цяпла, ні славы
Так і не здолеў заслужыць.
Пайшоў паэт, а верш па праву
Жыве між нас і будзе жыць!

## *ЗАЗІРНУЦЬ У ГЛЫБІНІ ЗЯМЛІ*

**ТРАФІМУК Андрэй Аляксеевіч**

Нарадзіўся ў 1911 годзе ў вёсцы Федзькавічы

*Гэолаг, акадэмік, Герой Сацыялістычнай Працы, кавалер шасці ордэнаў Леніна, двух ордэнаў Працоўнага Чырвонага Сцяга, ордэна Кастрычніцкай Рэвалюцыі, двойчы лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР, лаўрэат Дзяржпрэміі Расійскай Федэрацыі*

Нехта марыць дасягнуць марскіх глыбіняў, нехта — узняцца да зор, а хлопцу з палескай вёсачкі Хведкавічы (сённяшніх Федзькавічаў) было наканавана адкрыць таямніцы "чорнага золата" і "блакітнага паліва", прымусіць іх служыць на карысць чалавеку і краіне.

Другую сусветную вайну часам завуць "вайной матораў"— так шмат значыла ў ёй баявая тэхніка. Але ніякая сучасная грозная зброя не здольная ісці ў наступ без нафты. Таму калі на Курска-Арлоўскай дузе разварочвалася самае грандыёзнае ў вайне танкавае супрацьстаянне, якое шмат у чым вырашыла зыход усёй вайны, калі савецкія войскі рухаліся на вызваленне ад фашызму еўрапейскіх краін, нафта, адкрытая Андрэем Трафімуком і ягонымі калегамі-аднадумцамі, сілкавала баявую тэхніку, што крушыла варожыя шэрагі. У Вялікай Перамозе ёсць яго надзейны ўклад.

А ўсё пачыналася з незаможнай сялянскай сям'і, у якой 16 жніўня 1911 года з'явіўся на свет будучы акадэмік. Андрэю было толькі тры гады, калі пачалася Першая сусветная вайна, ператварыўшая мільёны беларусаў у бежанцаў. Калі фронт наблізіўся да бацькоўскай хаты, Трафімукі пакінулі роднае жытло. Ратуючыся ад бяды, яны патрапілі на поўнач, у Ніжнядзвінск. У галодным васемнаццатым годзе, працятым грамадзянскай вайной, хлопчык застаўся без маці, а бацька, чыгуначны рамонтнік, увесь час вандраваў з сынам па заходнесібірскіх мясцінах. Непрыкметна Андрэй прызвычаіўся да доўгіх падарожжаў. Далёкія далі клікалі яго, падказваючы будучую прафесію. У 1929 годзе ён закончыў сярэднюю школу ў сталіцы Татарыі і патрапіў на геалагічны факультэт Казанскага універсітэта імя Леніна.

Ягоныя таленты, надзвычайныя дапытлівасць і працавітасць былі заўважаныя выкладчыкамі. У 1933 годзе юнак атрымлівае цудоўную прапанову ўладкавацца ў аспірантуру, каб пайсці ў вялікую навуку. Аднак малады вучоны разважаў інакш, жадаючы навуковыя даследаванні спалучаць з практычнымі справамі. Ужо праз год Андрэй Аляксеевіч апынуўся ў трэсце "Усходнафта", які займаўся пошукам і асваеннем радовішчаў "чорнага золата" на тэрыторыі Башкірыі.

Трафімук мацаваў веды ў напружанай працы і павольна ўзыходзіў па кар'ернай лесвіцы — ад старшага геолага і навуковага кіраўніка даследчай лабараторыі да пасады галоўнага геолага трэста "Ішымбай-нафта".

На мяжы 30-х і 40-х гадоў мінулага стагоддзя Ішымбаеўскі раён лічыўся, мо, найважнейшым у Волга-Уральскай нафтавай правінцыі. Аднак для далейшага ягонага асваення патрабаваліся пошукі новых карысных радовішчаў. І менавіта Андрэй Трафімук стаў тым вучоным, што даказаў: гэты рэгіён яшчэ здольны здзівіць сваімі багаццямі свет. І яшчэ вучоны ведаў, што не мае права дый часу на памылку. Ішоў 42-і — самы напружаны год вайны, і ад таго, ці будзе знойдзена новая нафта, залежаць лёсы мільёнаў людзей, усёй краіны. Ніколі не адчуваў такога шчасця Трафімук, якое было ў той дзень, калі з глыбіняў зямлі ўдарыў моцны нафтавы фантан. Потым іх было яшчэ шмат. Аднак першы поспех запомніўся назаўжды, адкрыўшы свету таленавітага вучонага- геолага, здольнага дакрануцца да самых патаемных нетраў Зямлі.

У 1944 годзе з'явіўся Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Савецкага Саюза аб прысваенні Трафімуку Андрэю Аляксеевічу звання Героя Сацыялістычнай Працы. Гэта быў вялікі поспех і высокае прызнанне заслуг 33-гадовага вучонага. А праз два гады, ужо пасля завяршэння Вялікай Айчыннай, за свае даследаванні Трафімук упершыню быў уганараваны Дзяржаўнай прэміяй Саюза ССР. Нястомны працаўнік, ён не спыняўся на дасягнутым. У 1950 годзе, калі выйшла ягоная манаграфія "Нафтаноснасць палеазоя Башкірыі", вучоны атрымаў другую сваю дзяржпрэмію.

Неўзабаве, узначаліўшы Усесаюзны нафтагазавы навукова-даследчы інстытут, Андрэй Аляксеевіч прымаў удзел у адкрыцці найбуйнейшых нафтавых радовішчаў у Татарыі, Украіне, іншых рэгіёнах краіны. З 1957 года Трафімук стаў дырэктарам Інстытута геалогіі і геафізікі Сібірскага аддзялення Акадэміі навук Савецкага Саюза. А праз год дасягнуў вышэйшай для вучонага ступені прызнання, стаўшы акадэмікам АН СССР

Наведвальнікі Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея абавязкова спыняюцца перад стэндамі, прысвечанымі нашаму знакамітаму земляку. Дзесяткі рэчаў, лістоў, здымкаў пакінуў на памяць пра сябе слынны навуковец. На іх адзначаны не толькі афіцыйныя старонкі ягонага жыцця, але і тое, якім быў Трафімук-чалавек. Вось, у нядоўгія моманты адпачынку, ён на рыбалцы, а вось ужо і падлёдны лоў... А побач, на фотакартцы 1971 года, вучоны атрымлівае ордэн Кастрычніцкай Рэвалюцыі — адну са шматлікіх каштоўных узнагарод, угана-

раваных Радзімаю. З асаблівым гонарам берасцейскія музейныя работнікі экспануюць нефрытавы малаток, некалі падораны Андрэю Трафімуку геолагамі і геафізікамі Усходняй Сібіры, і штармоўку, у якой ён быў у экспедыцыі 1977 года па нафтавых разведках Эвенкіі.

З кастрычніка 1994 года Андрэй Аляксеевіч праявіў асаблівую высакароднасць, перадаўшы сваю грашовую прэмію ў суме 1 мільён 100 тысяч рублёў для дапамогі дзецям Беларусі, што папакутавалі ад чарнобыльскай катастрофы.

У 1999 годзе з Новасібірска прыйшла хвалюючая, сумная вестка: слынны навуковец пайшоў з жыцця, але пакінуў пасля сябе шматлікіх прадаўжальнікаў, якія працягваюць яго працу, запатрабаваную ў XXI стагоддзі. Пакрысе і ў Федзькавічы вяртаецца памяць пра самага вядомага ўраджэнца гэтай палескай вёскі.

А наш далейшы шлях цягнецца па шашы на Камянец. Калі ў кірунку да Жабінкі трохі збочыць налева, трапляеш у невялічкую вёску Дзяглі, дзе амаль восем дзесяцігоддзяў назад нарадзілася наступная наша гераіня.

## *ЗОЛАТА СПЕЛАГА КОЛАСА*

### УШКАР Яўгенія Іванаўна

Нарадзілася ў 1928 годзе ў вёсцы Дзяглі

*Жанчына-камбайнер, кавалер ордэнаў Леніна і Кастрычніцкай Рэвалюцыі, двойчы — ордэна "Знак Пашаны"*

Гэты расповяд — пра жанчыну незвычайнага лёсу, на які выпадала столькі выпрабаванняў, што, можа, хапіла б не на адно жыццё. Яна жыве ў невялічкай вёсцы, але мае вялікую славу.

"Лёс мой, лёс мой — важкі колас, часам цяжкі камень, мне люляць яго да скону кволымі рукамі..." — так некалі напісала пра сябе вядомая беларуская паэтка Ніна Мацяш. А можа, гэта і пра лёс першай у нашым раёне жанчыны-камбайнера Яўгеніі Ушкар?

У 1949-1950 гадах у Заходняй Беларусі завяршалася калектывізацыя. На шырокія калгасныя палі прыйшлі трактар і камбайн. Патрэбны былі маладыя рукі, якім пад сілу было кіраваць гэтымі складанымі машынамі.

Яўгенія Іванаўна Ушкар адна з першых на Жабінкаўшчыне асвоіла трактар. У 1950 годзе яе кволыя жаночыя рукі спраўляліся з магутным "Універсалам". Праз год яе накіравалі ў Пінск на курсы, каб магла сесці за штурвал камбайна і ўбіраць збожжа ў тагачасным калгасе імя Свярдлова.

Закончыўшы вучобу, Яўгенія вярнулася ў родны калгас, які скора быў перайменаваны ў саўгас "Беларусь". Самай хвалюючай для маладога камбайнера была пара, як даспявала збажына. Падрыхтаваная да жніва тэхніка чакала свайго дня. Часам Яўгенія ішла ў поле, зрывала каласок, вызначала, ці хутка ячмень ды пшаніца паклічуць да сябе. Працавала яна старанна, аддаючы ўсю сябе, і першая ўзнагарода не прымусіла чакаць: у 1954 годзе за працоўныя поспехі Ушкар была заахвочана Ганаровым знакам. Пасведчанне за № 008522 падпісаў міністр сельскай гаспадаркі Саюза ССР І. Бенядзіктаў.

Яўгенія Іванаўна дасканала вывучыла тэхніку, старанна рыхтавала камбайн да жніва і працавала ў полі так, што ледзь не кожнае лета ўваходзіла ў тройку лепшых камбайнераў раёна. Былі гады, калі яна, апярэдзіўшы ўсіх мужчын-механізатараў, займала першы радок на Дошцы гонару. Ушкар у саўгасе ўзначальвала партгрупу на жніве.

Але не толькі нізка ў пояс схілялі перад ёю галовы спелыя жытнёвыя і пшанічныя каласы — Яўгенія Іванаўна сабрала і "золата" ўзнагародаў. Па гадах яны размеркаваліся так: 1966 г. — ордэн "Знак

Пашаны"; 1970 г. — юбілейны медаль да 100-годдзя з дня нараджэння У.І. Леніна; 1971 г. — ордэн "Знак Пашаны"; 1972 г. — ордэн Леніна; 1975 г. — бронзавы медаль ВДНГ СССР; 1976 г. — ордэн Кастрычніцкай Рэвалюцыі; 1979 г. — медаль "Ветэран працы". А калі да гэтага яшчэ дадаць Ганаровыя граматы ды знакі пераможцы спаборніцтваў і ўдарніка пяцігодак, дык "ураджай" акажацца болей чым важкі.

Калі ўшаноўвалі перадавікоў, Яўгенія Іванаўна займала пачэснае месца ў прэзідыумах. У 70-ыя гады першы сакратар кампартыі Беларусі П.М. Машэраў прылятаў паглядзець, як ідзе жніво ў Брэсцкай вобласці, верталёт яго запыніўся на ячменным полі ля Федзькавічаў. Сакратар амаль паўгадзіны гутарыў з Ушкар, для якой асновай жыцця стала праца механізатара. Гэтая праца прынесла жанчыне пашану і павагу, і яна не хацела нічога мяняць у сваім лёсе. Дый, мабыць, і не змагла б.

Але цяжкая хвароба ў 1978 годзе прымусіла Яўгенію Іванаўну задумацца, як жыць далей. Хлопцы-камбайнеры, як звычайна называла іх Ушкар, дружна здавалі кроў, каб уратаваць жыццё таварышкі. І ўратавалі. Толькі на камбайн Яўгенія Іванаўна болей не села. Хаця і па сённяшні дзень сумуе па палетках і жніву... Мы ўгаварылі жанчыну надзець ордэны і медалі, каб слаўнага механізатара сфатаграфаваць з узнагародамі. Прышпільваючы іх, Яўгенія Іванаўна расказала, што нядаўна прыязджаў "купец", даваў добрыя грошы за ордэны, якія ў нячыстых руках таксама зрабіліся таварам.

— Хіба магла я іх прадаць?! — роспачна гаварыла Ушкар.— Нават за самыя вялікія грошы, калі ў іх усё маё жыццё...

## *АДДАНЫ КАРПАТЛІВАЙ ПРАЦЫ*

### ЗАВУЛІЧНЫ Яўген Рыгоравіч

Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Пшанаі

*Прафесар, доктар тэхнічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР*

Гэта якраз той выпадак, пра які ў народзе кажуць: "Не было шчасця, дык няшчасце памагло". Калі б Яўген Завулічны, які прыехаў наведаць свайго бацьку ў вёску Пшанаі, не аказаўся ў Жабінкаўскай раённай бальніцы, не было б нашай сустрэчы і трохгадзіннай размовы з вучоным.

Пачалі гаворку з маленства.

— Дзяцінства, а тым больш шчаслівага дзяцінства,— расказваў Яўген Рыгоравіч,— у мяне не было. Уявіце сабе: у малым узросце я застаўся без маці, яе мне замяніла бабуля Марыя Іванаўна Завулічная, а ў 12 гадоў арыштавалі бацьку. Рыгор Уладзіміравіч — удзельнік вайны, партызан, не шкадаваў жыцця за савецкую ўладу, а ў 1949 годзе, як пачалася калектывізацыя, непахвальна адазваўся, што праводзяць яе сілавымі метадамі, што стараюцца селяніна адарваць ад зямлі. Хтосьці данёс, і пастановай Асобай Нарады СССР ён быў асуджаны на пяць гадоў зняволення. Пазней будзе рэабілітаваны, але дзяцінства маё прайшло без бацькоў.

Шчыры дзякуй хроснай маці Надзеі Уладзіміраўне Авярчук! Яна бачыла, што я цягнуся да ведаў, і дапамагала. А мне прыходзілася штодзень бегаць з Пшанаёў у Жабінку ў адзіную на ўсю ваколіцу сярэднюю школу.

Невысокі, ціхмяны хлапец, які па ўсіх прадметах атрымоўваў пяцёркі, падабаўся сваім настаўнікам. Школу Жэня закончыў у 1954-м з сярэбраным медалём.

— Мяне пыталіся, кім хачу быць. Адказваў: "Інжынерам". Надзея Дзянісаўна Жаўнова, мая настаўніца, падказала паступіць у Маскву ў вышэйшае тэхнічнае вучылішча імя Баўмана, дзе займаўся яе добры знаёмы Іосіф Калеснікаў.

Так з 25 рублямі ў кішэні і з надзеяй я сеў на цягнік і паехаў паступаць. У Маскве мяне сустрэў Калеснікаў, ён пацікавіўся, ці ёсць у мяне грошы, каб плаціць за прыватную кватэру, бо інтэрната ў тым вучылішчы не было. Я расказаў пра бацькоў і прызнаўся, што аплачваць кватэру не змагу. Тады ён прапанаваў мне паступаць у Маскоўскі энергетычны інстытут, у якім студэнтаў забяспечвалі інтэрнатам з першага курса.

Завулічны паспяхова здаў уступныя экзамены, але тыя 25 рублёў зрасходаваў: не было на што ехаць дадому. Падказалі зайсці ў камітэт камсамола інстытута: можа, чым дапамогуць? Якраз фарміравалася брыгада на будаўніцтва кароўніка ў падшэфным калгасе. Жэню ўзялі: так ён стаў спадручным у дзядзькі Мішы, які хараша клаў сцяну і вучыў гэтаму студэнта.

— Пазней, я штолета ездзіў з будаўнічым атрадам: трэба было зарабляць грошы на вучобу, на касцюм. У 1957 годзе быў узнагароджаны медалём "За асваенне цалінных земляў". Такі ж медаль атрымаў і ў 58-м (на гэты раз узначальваў будаўнічы атрад, што выязджаў у Казахстан).

Вучыўся Завулічны выдатна, увесь час атрымоўваў павышаную стыпендыю. Здавалася, што з такімі поспехамі назаўжды "прапішацца" ў сталіцы, а ён пасля заканчэння ВНУ аказаўся ледзь не на краі свету — у Новасібірску. Хоць выкладчыкі ўвесь час і адзначалі ягоныя здольнасці да навуковай работы, аднак у Сібір Яўген паехаў па асабістым жаданні.

— Яшчэ ў 57-м, як студэнты ехалі працаваць на Алтай, адзін з прыпынкаў быў у Новасібірску,— зноў успамінае Яўген Рыгоравіч,— У нас было трохі вольнага часу, і юнакі пабеглі знаёміцца з горадам. Па дашчатых тратуарах выйшлі на цэнтральную плошчу, якая нам здавалася тады вельмі прыгожаю. Спадабаўся мне і ўтульны горад. Я сказаў, што пасля інстытута абавязкова прыеду сюды працаваць. У 1960 годзе я, сакратар факультэцкага бюро камсамола, уваходзіў у камісію па размеркаванні выпускнікоў і мог выбраць сабе месца паўтульней, як многія мае аднакурснікі, якія засталіся працаваць у Маскве ці Падмаскоўі. Я ж выбраў Новасібірск.

Прыехаў, уладкаваўся ў транспартна-энергетычны інстытут Сібірскага аддзялення АН СССР (СААН) спачатку лабарантам, пасля — малодшым навуковым супрацоўнікам. Меў ужо друкаваныя працы, трэба было думаць пра аспірантуру.

У Новасібірску адчыніў дзверы і інстытут цеплафізікі. Я пазнаёміўся з цікавым вучоным Аляксандрам Іванавічам Лявонцьевым, які, заўважыўшы мае здольнасці, прапанаваў быць у яго аспірантам. Шмат мне дала вучоба пад яго пачаткам: кандыдацкую я падрыхтаваў і абараніў за два з паловай гады.

У маім былым інстытуце якраз вакантнага месца не аказалася. У інстытут тэарэтычнай і прыкладной механікі прыехаў акадэмік У.В. Струмінскі. Уладзімір Васільевіч адшукаў мяне і прапанаваў пасаду старшага навуковага супрацоўніка. Прыйшоў у інстытут тэарэтычна-прыкладной механікі і аддаў яму звыш дваццаці гадоў. Вырас да

загадчыка лабараторыі, абараніў доктарскую дысертацыю, стаў прафесарам, быў тройчы лаўрэатам Сібірскага аддзялення Акадэміі навук па фундаментальных і прыкладных даследаваннях, стаў заслужаным ветэранам СААН СССР, узнагароджваўся сярэбраным медалём Выстаўкі дасягненняў народнай гаспадаркі Савецкага Саюза.

У аснове маіх даследаванняў — комплекс работ па распрацоўцы рухавікоў для міжкантынентальных балістычных ракет на цвёрдым паліве. Гэта склала аснову маёй доктарскай дысертацыі. У той дзень, калі я паспяхова абараніўся, з Масквы прыйшла ўрадавая тэлеграма, што мне прысуджана Дзяржаўная прэмія СССР па навуцы і тэхніцы. Быў 1984 год.

Цяпер нам было цікава даведацца, як жа вядомы вучоны зноў апынуўся ў роднай Беларусі. І Яўген Рыгоравіч ахвотна працягваў свой расповяд:

— Мінск заўсёды быў цэнтрам навуковай думкі. Пачынаючы з 1968-га, кожныя чатыры гады тут праводзіліся Міжнародныя навуковыя канферэнцыі па цепламасаабмену, на якія запрашаўся і я. У 80-я гады ў Мінску працаваў член-карэспандэнт АН СССР, лаўрэат Ленінскай прэміі Р.І. Салаухін, які добра ведаў мяне па Новасібірску. Рэм Іванавіч клікаў мяне ў Беларусь. Мне тады было ўжо за пяцьдзесят, і, мусіць, настальгія па Радзіме прымусіла нарэшце згадзіцца на пераезд.

Я пачаў працаваць у Інстытуце праблем ядзернай энергетыкі. Тэмай, якой я аддаў дзесяткі гадоў, у мінскім інстытуце не займаліся. Але я для сябе знайшоў вельмі блізкую. Каторы год займаюся ўкараненнем ахаладжальна-награвальных сістэм у розных галінах народнай гаспадаркі. Тэма глабальная.

Нам было вядома, што ў энцыклапедыі "Людзі справы" адзначалася: акрамя ўдзелу ў міжнародных кангрэсах і канферэнцыях, прафесар Завулічны меў 230 навуковых прац. Аднак цікавілі не толькі навуковыя дасягненні вучонага.

— Сёння, калі ўжо так шмат пражыла, магу з упэўненасцю сказаць,— разважаў Яўген Рыгоравіч,— калі я нечага і дасягнуў у жыцці, дык дзякуючы пастаяннай, карпатлівай працы. Хтосьці з вялікіх гаварыў, што сапраўдны вучоны — гэта мінімум 95 працэнтаў поту і толькі 5 — таленту. Часу на астатняе, і сапраўды, застаецца нямнога. Але й яго выкарыстоўваю рацыянальна. Памятаеце, расказваў, як навучыўся класці сцены. Яшчэ ў Сібіры атрымаў дачны ўчастак. Дык там збудаваў домік, сам склаў печку, што не дыміла. Вырошчваў гарбузы і дыні, здзіўляючы мясцовых жыхароў. Любіў паляванне і рыбалку. Зараз на паляванне не хаджу, але ў зямлі

корпаюся. Пад Мінскам, у пасёлку Сосны, купіў катэдж з чатырма соткамі зямлі. Прыемна, што садавіна і агародніна свае. А яшчэ скажу: сувязь чалавека з прыродаю дае для душы задавальненне і заспакаенне.

**Крылатая мара**

З крылатай марай не заўчора
Паехаў у няблізкі свет,
Каб запраўляліся маторы,
Ракеты мчалі да планет.
Жыццё навуцы без астатку
Аддаў, але няма прычын,
Пражыўшы толькі сем дзесяткаў,
Ісці, як кажуць, на спачын.
Яўген Рыгоравіч, не трэба
Хандрыць! У космас будзь гатоў!
Глядзі часцей на зоркі ў небе,
Працуй, жыві да ста гадоў!

## *ЯГО ІМЕМ НАЗВАНЫ...*

### ДЗМІТРУК Аляксей Данілавіч

Нарадзіўся ў 1907 годзе ў вёсцы Сцяброва

*Першы начальнік Жабінкаўскага райаддзела міліцыі, удзельнік партызанскага руху на Берасцейшчыне*

Лёс простага хлопца з вёскі Сцяброва быў вельмі падобны на лёс іншых сялянскіх дзяцей. Нарадзіўся ў беднай сям'і, а таму з дзяцінства прайшоў усе вясковыя "універсітэты". З маленства хадзіў за статкам ды дапамагаў бацьку ў полі.

"Жыццё навучыць",— звычайна адказваў Даніла Дзмітрук, калі хто гаварыў, што трэба яго сыну вучыцца. Думаў ён тады: вырасце Алёша, будзе верным памочнікам. Але той вырашыў па-свойму: пайшоў працаваць на чыгунку.

Маці хвалявалася: малады яшчэ, як яму там, у людзях. А ён штодзённа вечарам пешшу дабіраўся дадому, а раніцою зноў спяшаўся на працу.

Хутка сваякі заўважылі перамены ў характары Аляксея: стаў той не па гадах сталым. На чыгунцы хлопец пазнаёміўся з рабочымі-актывістамі. Заўважыў Алёша, што і аднагодкі праводзяць цікавую работу. Неўзабаве Аляксей Дзмітрук стаў камсамольцам, а пазней і членам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, смела ўключыўся ў падпольную барацьбу, ён ужо сам расказвае пра тую несправядлівасць, што існуе ў грамадстве. Гарачыя Аляксеевы словы даходзілі да людскіх сэрцаў. На адным з тайных сходаў яго выбралі сакратаром падпольнага Жабінкаўскага райкама партыі.

Але ж паліцыя пільна сачыла за актыўнасцю маладога камуніста. Неўзабаве Аляксей Данілавіч быў арыштаваны і кобрынскім судом прыгавораны да трох гадоў турэмнага зняволення. Пасля выхаду з вязніцы ў 1931-1932 гадах ён стаў сакратаром Брэсцкай акруговай камісіі КПЗБ. Цяпер Дзмітрук шмат ездзіў, накіроўваў дзейнасць партыйных і камсамольскіх ячэек. Пры непасрэдным ягоным удзеле адбылася забастоўка на Кобрынскім лесапільным заводзе. У ёй удзельнічалі больш за дзве тысячы рабочых.

Пазней Аляксея Дзмітрука выбіраюць сакратаром Пінскага акруговага камітэта партыі. Тут, у Пінску, у 1934 годзе ён быў другі раз арыштаваны. Прыгавор суда — 12 гадоў турмы.

Але ў верасні 1939 года расчыніліся насцеж дзверы вязніцы Равічы. Прыйшла жаданая свабода.

Яшчэ да прыходу ў Жабінку Чырвонай Арміі Аляксей Данілавіч узначаліў атрад самаабароны. Члены атрада ахоўвалі маёмасць грамадзян, у гэты няўстойлівы час міжуладдзя яны рыхтавалі насельніцтва да новага жыцця. Дзмітрук з характэрнай для яго актыўнасцю ўключыўся ў станаўленне савецкай улады на Брэстчыне. Людзі выбіраюць яго дэлегатам Народнага сходу ў Беластоку. Аляксей Данілавіч стаў адным з тых, хто падаў свой голас за аб'яднанне усходняй і заходняй Беларусі ў адзіную дзяржаву.

Да пачатку 1940 года Дзмітрук працаваў начальнікам Жабінкаўскага раённага аддзела міліцыі. Цяжкі быў час. На вызваленай зямлі толькі-толькі пачыналі жыць па-новаму. У красавіку Аляксей папрасіўся на аператыўную работу, стаўшы ўпаўнаважаным крымінальнага вышуку. ён павінен быў знаходзіцца на самым складаным, вострым участку барацьбы. Там Дзмітрук працаваў да пачатку Вялікай Айчыннай вайны.

22 чэрвеня 1941 года ў аддзеле міліцыі сабраліся ўсе супрацоўнікі. Змаглі адправіць у тыл толькі адзін эшалон з сем'ямі, а ў абед работнікі міліцыі выехалі ў Кобрын, адтуль — у глыб краіны. І недзе ўжо ў верасні сярод бранскіх партызан быў і Аляксей Дзмітрук.

Аднойчы група народных мсціўцаў трапіла ў засаду. Аляксея з таварышамі схапілі, але па дарозе Дзмітруку пашчасціла ўцячы. Толькі перад самым новым 1942 годам на хутар ля вёскі Літвінкі Кобрынскага раёна, дзе ў той час жыла сям'я Дзмітрукоў, прыйшоў барадаты чалавек. Не змяніліся толькі вочы, ды голас быў знаёмы, родны.

Гэта быў Аляксей Данілавіч. Сядзець без справы ён не мог: неўзабаве звязаўся са Старасельскім атрадам. Партызаны цудоўна ведалі, што ў Дзмітрука значны вопыт барацьбы, таму вясной 1942 года яму даверылі кіраванне аперацыяй пры разгроме нямецкага гарнізона ў Якаўчыцах. Маланкавы налёт удаўся на славу.

Крыху пазней каля Брэсцка-Ковельскай шашы група Дзмітрука абстраляла машыны з гітлераўцамі. У адной з іх знаходзіўся нямецкі кіраўнік Ковеля. Шэсць машын засталіся на шашы. Калі гітлераўцы прыслалі падмогу, партызаны вымушаны былі адысці ў глыб лесу.

У адзін жнівеньскі вечар Аляксей Данілавіч зноў збіраўся на заданне. Планавалася спаліць пункт па нарыхтоўцы зерня і ўзарваць маслапром у Жабінцы.

Па дарозе з Багуславічаў у Залуззе, каля хутара, нечакана пачуліся воклічы па-руску і па-нямецку: "Стой! Хальт!" Гэта былі немцы і паліцаі. У Дзмітрука быў пісталет, але стрэліць ён не паспеў. Прагучала аўтаматная чарга: Аляксей упаў мёртвы. Было 23 жніўня 1942 года.

Мінула ўжо 65 гадоў з таго дня, аднак колькі б ні прайшло часу, на Жабінкаўшчыне жыве памяць пра мужнага змагара. На гарадскіх могілках беражліва захоўваецца яго магіла. На будынку Жабінкаўскага раённага аддзела ўнутраных спраў вісіць мемарыяльная дошка. На ёй выбіта імя Аляксея Данілавіча Дзмітрука — падпольшчыка, аператыўніка, партызана, нашага земляка. Нядаўна і добраахвотная маладзёжная дружына стала насіць яго імя. А таму на Дзень моладзі, калі ладзіцца аўтапрабег па баявых і працоўных мясцінах нашага краю, першыя кветкі традыцыйна ўскладаюцца на магільную пліту вядомага ўраджэнца гэтай зямлі, першага начальніка аддзела міліцыі Жабінкаўскага раёна.

Схіліўшы галаву перад памяццю падпольшчыка са Сцяброва, нельга абмінуць і недалёкую вёску Шчэглікі, што стала малой радзімаю яшчэ аднаго змагара супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

## *БАЦЬКАВА ВУЛІЦА*

### ФІЛІПУК Іван Дзмітрыевіч

Нарадзіўся ў 1908 годзе ў вёсцы Шчэглікі

*Барацьбіт за аб'яднанне Заходняй Беларусі з БССР, удзельнік партызанскага і падпольнага руху на Берасцейшчыне*

З дачкой сувязнога партызанскіх атрадаў імя Чарнака і Фрунзе Івана Філіпука гадоў дзесяць ці, можа, крыху болей назад аднаго з аўтараў гэтай кнігі пазнаёміў ветэран вайны і працы Мацвей Якаўлевіч Карпінчук. У доме Марыі ў Шчэгліках вісеў вялікі партрэт чалавека, пра якога ў гэтых мясцінах хадзілі сапраўдныя легенды. Добры, але цвёрды і засяроджаны погляд Івана Дзмітрыевіча, упэўненасць у тым, чым займаецца, здавалася, можна было прачытаць на партрэце.

Акрамя Марыі Іванаўны, шмат пра Філіпука распавёў Мацвей Якаўлевіч. Яшчэ ў маладыя гады (як раней казалі — "за польскім часам") Іван пачаў займацца палітычнай дзейнасцю. Зведаў "прывабнасць" допытаў у пастарунках, калі толькі насміхаўся над мучыцелямі, што наносілі ўдары.

— Дык ён болю не адчувае! — лютавалі яны, але нічога зрабіць не маглі.

Польскім судом Філіпук быў асуджаны да зняволення: пазнаў і халодныя турэмныя камеры, і нават карцэр. Але здзекі надавалі яму толькі большую ўпэўненасць у тым, што ён робіць.

Філіпук шчыра вітаў прыход Чырвонай Арміі ў 1939 годзе. А калі неўзабаве ўспыхнула Вялікая Айчынная вайна, ён выбраў, бадай што, самы цяжкі шлях: рызыкуючы сваім жыццём і жыццём блізкіх, Іван Дзмітрыевіч стаў памагаць народным мсціўцам. Ён здабываў для атрада звесткі пра рух вайсковых цягнікоў па станцыі Жабінка, збіраў вопратку і ежу для партызан.

Філіпук проста цудам уцалеў, калі вёз рацыю для партызанскай радысткі Лідзіі Базанавай. Паліцаі, што запынілі падводу, загадалі Івану выгружаць цэглу, за якой быў схаваны перадатчык. Філіпук няспешна даставаў цагліны і асцярожна клаў іх на зямлю. У рэшце рэшт паліцаям надакучыла чакаць, і яны загадалі фурманшчыку выбірацца прэч. Той хуценька ўклаў цагліны ў воз і паехаў.

У пачатку красавіка 1944 года немцы высачылі і схапілі радыстку, над сям'ёй Філіпукоў навісла пагроза. Іван Дзмітрыевіч перастаў начаваць дома. А калі праз два тыдні ўсё ж прыйшоў праведаць родных, натрапіў на засаду. Вырываючыся з акружанай хаты цераз акно, Філіпук трапіў пад фашысцкую кулю і загінуў.

Жонку і дачку схапілі і завезлі ў брэсцкую турму. Як склаўся б іх лёс, невядома, калі б добрыя людзі не сабралі грошай ды каштоўных рэчаў і не выкупілі іх.

— Памятаю,— расказвае Марыя Іванаўна,— бацька вельмі шкадаваў што ў яго няма сына, што прозвішча звядзецца. Дык я,— смяецца,— пайшла за Філіпука. Каб прозвішча не загінула. Не, не думайце, што я выбірала спецыяльна,— адразу папраўілася жанчына — Так ужо лёс склаўся...

Як і ў бацькі, жыццё Марыі дасталося нялёгкае, увесь час у працы. Але самае страшнае здарылася, як трагічна загінуў сын.

— Першыя гады,— успамінала далей Марыя Філіпук,— было так цяжка... І калі станавілася зусім невыносна, сядала ў аўтобус і ехала ў Жабінку, на вуліцу, якая носіць бацькава імя. Дзякуй людзям, што не забыліся пра яго. Пахаджу, паплачу, быццам пагавару з родным чалавекам, і трохі лягчэй становіцца.

Сёння, калі мы пройдземся па вуліцах Жабінкі, дык абавязкова сустрэнем імёны Лідзіі Базанавай ды Івана Філіпука. Яны знаходзяцца поруч, бягуць як бы паралельна. Лёсы гэтых людзей у час вайны шмат разоў перакрыжоўваліся, так і засталіся іх імёны ў гісторыі назаўсёды побач — у адной частцы горада.

Цяпер мы павінны завітаць у Жабінку, адзіны горад на зямлі, што захоўвае ў сваёй назве імя Філіпука. Тут нам проста неабходна павітацца з жанчынаю, што і далёка ад малой радзімы, назвалася Жабінкаўскай, каб захаваць памяць пра родны горад.

## *“АГОНЬ І ЛЁД У СВАІХ РУКАХ...”*

**АХМАТАВА Алена Міхайлаўна**
Нарадзілася ў 1960 годзе у горадзе Жабінка
*Руская паэтка*

Пра такіх, як Алена Міхайлаўна Ахматава, гавораць: "Калі чалавек таленавіты, ён таленавіты ва ўсім". Нарадзілася яна 8 снежня 1960 года ў нашым горадзе. 5 сакавіка 2007 года выступала ў клубе "Суразмоўнік", што існуе пры Жабінкаўскай раённай бібліятэцы.

Алена Міхайлаўна, якая да замужжа насіла прозвішча Кавальчук, а сёння на радзіме і ў Санкт-Пецярбурзе болей вядомая, як паэтка Алена Жабінкаўская, і раней брала ўдзел у "Суразмоўніку". Тады ў творчым "багажы" паэткі былі дзве кніжкі "Улитка-слеза" і "Сердечная юдоль".

З васемнаццаці гадоў Алена пастаянна жыве ў Санкт-Пецярбурзе, але часта прыязджае ў Жабінку да родзічаў Бо ў яе, як прызнаецца паэтка,— дзве радзімы. І кожную яна горача любіць, кожнай прысвячае свае вершы.

Адзін з такіх прыездаў і паклікаў Алену ў раённую бібліятэку, дзе адбылася гэтая сустрэча. Цяпер паэтычныя здабыткі ў яе больш важкія. Алена Жабінкаўская выпусціла яшчэ два зборнікі: "Ответ любви небес" і "Свет мой, зеркало". Дарэчы, першы з іх з'явіўся ў Балгарыі, калі там адпачывала паэтэса. Яна — член Саюза пісьменнікаў Расіі.

Алена Жабінкаўская стала лаўрэатам прэміі "Царскосельская". Яна ўручаецца ў той зале, дзе юны Пушкін чытаў на экзамене свой верш перад Гаўрыілам Дзяржавіным. Ганарова (хоць значыцца яна як прэмія мясцовага значэння) быць сярод такіх знакамітасцяў, як фізік, нобелеўскі лаўрэат Жарэс Алфёраў, акадэмік, літаратуразнавец і гісторык культуры Дзмітрый Ліхачоў, самы вядомы ўдзельнік гульні "Што? Дзе? Калі?" Аляксандр Друзь, народная артыстка СССР Іна Чурыкава, паэтка Бэла Ахмадуліна...

Аднойчы я запытаў у яе, чаму яна вершы падпісвае псеўданімам. На гэта Алена ўсмешліва адказала:

— Дзве Ахматавы для рускай літаратуры — занадта многа!..

Зараз яна расказала: калі прымалі ў Саюз пісьменнікаў, некаторыя нават папракнулі, чаму яна выбрала такі псеўданім. Для Алены — гэта зусім не какецтва, а памяць пра зямлю, што нарадзіла яе і выхавала.

Адказваючы на пытанне, што для яе вершы, паэтка адказала: яны як выратавальны круг і пішуцца, калі жыць бывае нялёгка і няпроста. Паэтка прачытала свой верш "Почему я пишу?".

На такой вопрос бы я ответила:
Никогда в поэты я не метила.
Быть любимой, матерью, женой –
Вот и все. Когда б не воля Божия,
А моя — как все бы жизнь я прожила,
Не сложивши строчки ни одной.
Радость вдохновенья? Муки творчества?
Ничего мне этого не хочется.

А ў другім вершы Алена Жабінкаўская сцвярджае:

Я чувствую одновременно
Огонь и лед в своих руках!..

Гэта пра адчуванні паэтычнага дару, які жыве ў ёй.

Педагог школы мастацтваў Л. В. Дошчык успомніла, як Лена Кавальчук наведвала музычную школу. Вучылася яна па класе фартэпіяна. Яе выкладчыца Я. І. Качко заўважыла ў дзяўчынцы талент кампазітара і рэкамендавала ёй вучыцца далей. Лена ўжо гатовая была падаць дакументы ў Брэсцкае музычнае вучылішча, але пасля рэзка змяніла свае планы: выбрала журналістыку, тайны якой адкрывала для сябе ў Ленінградскім дзяржаўным універсітэце імя А.А. Жданава.

Закончыўшы вучобу, Алена Кавальчук занялася літаратурным рэдагаваннем. Прыходзілася правіць і прозу, і паэзію. Можа, тады, пад уздзеяннем лепшых узораў лірыкі, пачалі з'яўляцца і свае вершы? Хаця рыфмаваць, як прызнаецца Алена Міхайлаўна, яна спрабавала змалку, калі яшчэ не ўмела нават пісаць, а зараз вершы загучалі панову, свежа. Аб чым засведчылі зборнікі яе паэзіі.

Ёсць і трэці "бок" таленту Ахматавай — гэта кніжная графіка. Аленіна маці — Ніна Іванаўна Кавальчук — згадвае, што дзяўчынка пачала маляваць з трох гадоў. Жывучы ў Санкт-Пецярбурзе, Алена Ахматава афарміла дзесяткі кніг, у тым ліку і свае. Тыя, каму ў рукі трапяць дзіцячыя кніжкі Дзмітрыя Мізгуліна "Зорак васільковае поле" ці Лізаветы Ляўгеравай "Азбука", пацвердзяць, што ў мастачкі — прыроджаны талент.

Сённяшнія студэнты Брэсцкага універсітэта, якія атрымоўваюць заданне напісаць рэферат ці курсавую работу пра людзей, адкуль яны родам, час ад часу наведваюць дом Ніны Іванаўны. Маладыя людзі просяць расказаць пра дачку. Бо да Алены ехаць у Санкт-Пецярбург далёка. Ірына Калпак, Серафіма Герасімава ды Ірына Панкова былі

ўражаны паэзіяй Алены Жабінкаўскай, а таксама тым, як яна афармляе кнігі.

Мне таксама выпала выступаць на пасяджэнні клуба. Бо адно пытанне было адрасавана мне. Хаця і зноў-такі пра Алену Жабінкаўскую. Я сказаў прыблізна так:

— У зале сабраліся тыя, хто ведае і любіць паэзію Алены Жабінкаўскай. Болей таго, радуе, што Алена Міхайлаўна даносіць звесткі пра нас аж да Пецярбурга. Думаю, што ў яе асяродку даўно ўжо ведаюць наш невялічкі горад, які ў 25 кіламетрах ад Брэста. Алена Міхайлаўна як бы яднае два народы, дзве дзяржавы. Яна як... — тут я на хвіліну задумаўся, падбіраючы патрэбнае слова.

Выручыла настаўніца-пенсіянерка Г.П. Давыдоўская.

— ... як пасол ад Жабінкі,— падказала Ганна Пракопаўна.

Сапраўды, Алена Міхайлаўна, быццам пасол ад Жабінкі, дапамагае рускаму чытачу пазнаёміцца з Беларуссю, з нашым горадам. І хіба без яе ў Санкт-Пецярбурзе прачыталі б вершы "Падалица", "Тычка", "Дед Сацевич"!..

На развітанне хочацца з "мужчынскай салідарнасцю" іранічна адазвацца, ствараючы пародыю, на адзін з вершаў паэткі:

**Муж для прынцэсы**

Нечесаны, небриты и немыты,
Воняют табаком и перегаром,
Живут за женский счет, как паразиты,
И ничего не станут делать даром...
Возможно, мы с другими б лучше жили,
Но мы других, увы, не заслужили.

Алена Жабінкаўская

Я — прынцэса на гарошыне.
Прынца клікала найлепшага,
А мяне тым агарошылі:
— Пойдзеш, дзеўка, за тутэйшага!
Што рабіць, дальбог, не ведала,
Недаступная, упартая,
Але мама мне паведала:
— Ты такога, мусіць, вартая.
Выйшла, ён сям'ю "мацуе"
Тытунём ды перагарам,
Без сто грамаў не працуе...

Ой, гары, жыццё, ты гарам!..

Самае частае пытанне, што задаюць Алене: чаму яна Жабінкаўская? Ці не ад назвы роднага горада? І паэтка сумленна адказвае:

— Гэтае імя — памяць пра маю зямлю. Я нашу прозвішча Ахматава. Аднойчы, калі прапаноўвала нізку вершаў для альманаха "Молодой Ленинград", у рэдакцыі спыталі, як завуць аўтара. Пасля Ганны Ахматавай я палічыла не зусім этычным мець гэткае паэтычнае імя. Нават сёння для такога горада, як Санкт-Пецярбург, двух Ахматавых было б занадта многа. Таму ў апошні момант, калі альманах быў ужо ў наборы, я спыталася, ці можна мне змяніць прозвішча на псеўданім. Мне адказалі, што можна. Так я стала Аленай Жабінкаўскай.

## *КЛІЧ У НЕЗВЫЧАЙНУЮ КРАІНУ*

**МЯЛЕШКА Міхаіл Міхайлавіч**
Нарадзіўся ў 1962 годзе ў горадзе Жабінка
*Рэжысёр беларускага тэлебачання*

Пачатак гэтай гісторыі сягае ў далёкі 1979 год. Пераход ад зімы да вясны я сустрэў моцнай прастудаю. Вымушаны быў ісці на бюлетэнь.

У гэты час і адшукаў мяне дырэктар першай гарадской школы Пётр Міхайлавіч Грыцук і ўпрасіў правесці ў 11 класе некалькі ўрокаў беларускай літаратуры. Бо адна выкладчыца таксама хварэла, а другая — вучылася ў Брэсце ў інстытуце ўдасканальвання настаўнікаў.

Брат і сястра — Міхаіл і Людміла Мялешкі — сядзелі за адной партай. Вывучалі сучасную беларускую паэзію. У бібліятэках кніжак з вершамі было вобмаль, але Мялешкі ніводзін раз не прыходзілі на ўрок без зборнікаў паэзіі.

Міхаіл узяўся падрыхтаваць рэферат па творчасці, як помніцца, Генадзя Бураўкіна. Хлопец выбраў самае лепшае з напісанага Генадзем Мікалаевічам і прачытаў так, што сваім выступленнем захапіў клас і атрымаў выдатную адзнаку.

Тады мне падумалася: "Нават зараз, калі ў школах больш увагі ўдзяляецца вывучэнню рускай літаратуры, ён гэтак захапляецца беларускай. Верыцца, што ўсё лепшае, што стварылі нашы пісьменнікі, застанецца з ім...". І ў нечым, аказалася, я не памыліўся.

Хаця не ўсё ў жыцці было так проста, як бачыцца зараз, амаль праз 30 гадоў. У гэты час у хлопца было яшчэ адно вялікае захапленне: Міхаіл палюбіў кіно. Залатыя блікі экрана выклікалі ў яго зайздрасць да тых, хто рабіў кінастужкі.

Як бы падступаючы да сваёй мары, Міхаіл Мялешка перш-наперш закончыў аддзяленне духавых інструментаў Брэсцкай музычнай школы. Толькі ў 1984 годзе падаў дакументы ў тэатральны інстытут на акцёрскае аддзяленне. Не, вельмі хацелася стаць рэжысёрам-пастаноўшчыкам, але рэжысёрскай справе ў Мінску не вучылі.

Мялешка разумеў, што паступаць у Маскву — безнадзейная справа, і вырашыў адкласці сваю мару на пэўны час, нібыта верачы, што прыйдзе лепшая пара.

Вучыўся Міхаіл у майстэрні тэатральнага педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі А.І. Бутакова. Аляксандр Іванавіч, стараючыся бачыць у кожным маладым чалавеку асобу, шмат рабіў для яе развіцця. Калі было цяжка, звычайна гаварыў:

— Вы такія маладыя, прыгожыя! Вы можаце, а значыць, і павінны спадабацца гледачу...

І вучыў, як трымацца на сцэне, як гаварыць, каб было чутно ў апошнім радзе залы. Падтрымліваў любую імправізацыю, калі яна ажыўляла мізансцэну. Маладыя акцёры заканчвалі інстытут з упэўненасцю, што ўсё ўмеюць і могуць.

Міхаіл Мялешка ўладкаваўся ў Дзяржаўны маладзёжны тэатр БССР і адначасова ў тэатр-студыю кінаакцёра. Здавалася, роляў павінна быць хоць адбаўляй, а яму даставаліся толькі эпізадычныя. Быццам прыглядаліся, чаго ён варты. Самая значная і таму, мусіць, памятная для Міхаіла стала роля Гарацыо ў шэкспіраўскай трагедыі "Гамлет".

У наступным годзе да Міхаіла Мялешкі дайшла прыемная навіна: у Мінску, у тэатральным інстытуце, дазволена адкрыць рэжысёрскае аддзяленне. Аб'яўляецца набор на рэжысёраў як мастацкага, так і дакументальнага кіно. Заняткі будуць весці вядомыя спецыялісты: Віктар Тураў і Віктар Дашук.

Мялешка выбраў майстэрню рэжысёра, народнага артыста СССР Віктара Турава, бо па-ранейшаму марыў зняць поўнаметражны мастацкі фільм.

Калі вытрымаў усе іспыты і аказаўся ў ліку дванаццаці шчаслівчыкаў, здавалася, не ішоў, а ляцеў дадому. Яшчэ на парозе, убачыўшы жонку, пахваліўся:

— Усё, буду вучыцца на рэжысёра!

— Так усё жыццё і правучышся,— усмешліва быццам папракнула Іна.— Вечны студэнт!

Яна радавалася за мужа, бо ведала, як ён гэтага хацеў...

Прайшло амаль чвэрць веку, як Міхаіл Мялешка вучыўся ў майстэрні Віктара Турава, але й сёння з цяплом і гонарам ён успамінае той час. Хто чытаў ім лекцыі па рэжысёрскім майстэрстве? Сам жа Віктар Цімафеевіч, кінарэжысёры, народныя артысты СССР Ігар Дабралюбаў ды Міхаіл Пташук, кінааператар Юрый Марухін... Яны стараліся перадаць свой вопыт маладым. У кожнага яго было столькі, што хапіла б будучым рэжысёрам на многія кінастужкі.

Менавіта тое, што маладыя будуць бяздумна пераймаць вопыт старэйшых, якраз не задавальняла Турава. Віктар Цімафеевіч імкнуўся вучыць будучых стваральнікаў фільмаў на лепшых узорах расійскай і беларускай кінематаграфіі.

Спачатку нават трохі пад прымусам ён абавязваў іх гадзінамі глядзець работы Андрэя Таркоўскага, Сяргея Эйзенштэйна, Міхаіла Рома, Уладзіміра Корш-Сабліна, Васіля Чацверакова. Хлопцы і дзяўча-

ты не толькі глядзелі кінастужкі, але стараліся прыкмячаць, якія б сцэны яны пастараліся зрабіць інакш. Гэта радавала Віктара Цімафеевіча, ён звычайна гаварыў:

— Вы не Таркоўскія і не Эйзенштэйны, каб гэтак здымаць фільмы. Вы — новае пакаленне рэжысёраў і павінны паказваць, як выкарыстаеце сённяшнія магчымасці кінематографа...

Тураў адобрыў, калі, рыхтуючы работу за трэці курс, Міхаіл Мялешка ўзяў для пастаноўкі новае апавяданне маладога аўтара Кастуся Тарасава на гістарычную тэму. Так з'явіўся першы Мялешкаў фільм "Чорны шлях".

Не ведаў тады ні студэнт, ні яго выкладчык, што праз два гады, з развалам СССР, цяжка будзе знайсці кавалак ленты, каб зняць фільм хоць на 3-5 хвілін і абараніцца. Прыйшлося гэта зрабіць на выпушчаным ужо "Чорным шляху". Экзаменацыйная камісія ацаніла кінастужку станоўча, як калісьці сам Тураў, калі яна значылася курсавой.

Першы выпуск рэжысёраў супаў з самым цяжкім для беларускага кінематографа часам. Фінансаванне на выпуск фільмаў было нулявое, і на кінастудыі "Беларусьфільм" зусім не здымалі мастацкіх стужак. Без працы аказаліся старэйшыя рэжысёры ды аператары, а тут яшчэ й маладыя...

Іх быццам кінулі ў ваду, караскайцеся, хто як можа, каб "выплыць". І яны сталі "караскацца". Рэната Грыцкова і Вольга Марчанкава паехалі ў Расію, уладкаваліся ў абласныя кінастудыі, каб пазней бліжэй падабрацца да сталіцы. Хоць не на першых ролях, але бралі ўдзел у выпуску серыялаў. Прыжыліся.

Другія заняліся камерцыяй. І сёння адзін з выпускнікоў ужо вядомы камерсант. Іншыя не вытрымалі канкурэнцыі, згубілі працу.

У Мялешкаў расла дачка, і Міхаіл паспрабаваў таксама пабыць гандляром, каб хоць так падтрымаць сям'ю.

— У творчых людзей,— гаворыць Міхаіл Міхайлавіч,— галава не на куплю-продаж настроена. Таму і не змог я доўга камерцыяй займацца

А сям'ю трэба было карміць. І пайшоў ён у рэкламу. Хоць людзі жылі не багата, а рэкламы было многа. Грошы зарабляў але задавальнення для сябе Мялешка не меў.

Уладкаваўся на Сталічнае тэлебачанне, потым працаваў на ГНТ у праграме "Наше утро". Цяпер ён - рэжысёр праграмы "Благовест" на Беларускім тэлебачанні.

Нядаўна Міхаіл Міхайлавіч з аператарскай групай выязджаў у Брэст у музей "Уратаваныя каштоўнасці", каб зрабіць перадачу пра

скарбы якія мытнікі не дазволілі вывезці за межы краіны. Мялешка, безумоўна наведаў родзічаў у Жабінцы. Тут і адбылася наша сустрэча.

— Ёсць незвычайная, шматкаляровая краіна Кіно,— разважаў Мялешка,— Калі яна пакліча каго да сябе, дык надоўга, на ўсё жыццё.

Гады, і праўда, не зменшылі ў ім жадання вярнуцца да поўнаметражнага мастацкага фільма на гістарычную тэму.

— Час мною вызначаны ўжо,— расказваў Міхаіл Міхайлавіч — гэта перыяд Вялікага Княства Літоўскага, барацьба за беларушчыну Многа і цікава пішуць пра нялёгкую эпоху Вольга Іпатава, Уладзімір Арлоў, Леанід Дайнека, Кастусь Тарасаў. Шмат прачытана. Ёсць што экранізаваць. Думаю, блізка той час, калі многія зразумеюць — "Анастасіі Слуцкай", якая так хораша прайшла ў кінатэатрах краіны для суверэннай Беларусі малавата...

Мы пагадзіліся з рэжысёрам, што наша гісторыя слабавата асэнсавана кінематографам. І няхай наступным фільмам стала б карціна, зробленая Міхаілам Міхайлавічам. Гэта было б у радасць яго землякам…

— Я часта сустракаюся з юнакамі і дзяўчатамі,— распавядаў далей Міхаіл Мялешка,— Многае падабаецца ў сённяшніх маладых людзях Я гэта кажу пра лепшую частку іх. Яна болей настойлівая, болей практычная, чым былі мы: хлопцы і дзяўчаты актыўна цягнуцца да навукі, імкнуцца рабіць кар'еру...

Гутарка якраз ішла пра яго дачку — Жэню. Не, род Мялешкаў да яго не меў сваіх рэжысёраў, як і род Вайтовічаў. Жонка Іна і сёння працуе ў страхавой кампаніі, а дачка рашылася паспрабаваць бацькавага "хлеба".

Дзяўчына доўга вагалася, куды пайсці вучыцца — у інстытут народнай гаспадаркі ці акадэмію мастацтваў. Мусіць, у хвіліны няўпэўненасці Жэня і звярнулася па параду да бацькі.

Міхаіл Міхайлавіч не стаў, як герой фільма "Масква слязам не верыць", сцвярджаць, што будучыня за тэлебачаннем, што скора нічога не будзе ў жыцці — адно толькі тэлебачанне. Мялешка добра ведаў, што амаль на кожны жыццёвы факт Жэня мае сваю думку, што неяк пасвойму рэагуе на многія падзеі. А гэта ў рэжысёрскай справе вельмі важна. І прапанаваў паспрабаваць сябе, паступаючы ў Беларускую акадэмію мастацтваў. Дачка паслухалася і зараз займаецца на факультэце "Рэжысура тэлебачання".

— Усё атрымалася неяк само сабою,— прызнаецца Міхаіл Міхайлавіч.— Я нічога не зрабіў для таго, каб яна вытрымала іспыты, а зараз — каб паспяхова вучылася. Праўда, часам Жэня прыходзіць парадзіцца са мною. Я магу падказаць ёй, але часцей кажу: "А ты сама падумай, паразважай!" Бачу радасць на яе твары, калі чагосьці дабілася сама...

Міхаіл Мялешка верыць, што з Жэні выйдзе добры спецыяліст, што дынастыя рэжысёраў у іх сям'і будзе мець свой працяг…

## *КРЫЛО НАДЗЕІ*

### СЕРАФІМ

(у міры — Пятручык Васіль Іванавіч)
Нарадзіўся ў 1965 годзе ў горадзе Жабінка
*Ігумен Спаса-Праабражэнскага манастыра, "Чалавек года - 2000" на Берасцейшчыне*

Абедзве гадзіннікавыя стрэлкі падбіраліся ўжо да дванаццаці, калі мы пад'ехалі да сяла Хмелева. Летняе сонца стаяла амаль у зеніце і няшчадна паліла зямлю.

Ля дома айца Серафіма ад спякоты трава таксама пажухла, але агарод буяў яшчэ зялянінай. У буслянцы, што прымасцілася на хляве, чацвёрка маладых буслянят выцягвала доўгія шыі, выглядаючы, адкуль прыляцяць бацькі з ежаю.

У народзе спаконвеку бытуе вера ў тое, што буслы прыносяць у дом не толькі дзетак, але й шчасце. Гэта — раз. А два — яны селяцца каля добрых людзей. Так яно ў жыцці, мусіць, і бывае...

— Сёння не самы гарачы дзень,— гаварыў, сустрэўшы нас, айцец Серафім.— Учора бусліха цэлы дзень прастаяла ў гняздзе, падняўшы крыло, каб схаваць малых ад сонца...

Мы заспяшаліся да Спаса-Праабражэнскага храма, дзе айцец Серафім хацеў расказаць і пра царкву, і пра манастыр, а значыць, і пра сябе.

Праз невысокую браму, за якой сосны стаялі, абняўшыся вершалінамі і як бы ствараючы жывую арку, мы зайшлі на царкоўны двор. Ля невялікага пня кішма кішэў мурашнік. Айцец Серафім расказваў:

— Яны перасяліліся адтуль, дзе ішло манастырскае будаўніцтва. Пачалі капаць катлаван, і мурашкі зразумелі, што там ім не жыць. Аблюбавалі гэты пень і пачалі пераносіць нажытае. О, колькі яны папрацавалі! Сюды — з грузам, назад — улегцы. Адна за адной завіхаліся з ранку да вечара. Мурашкі вучаць нас, як працаваць трэба...

Мы прыселі на лавачку пад высокімі дрэвамі. Было зацішна і не горача. Сонечныя промні, прабіваючыся праз яловыя лапкі, залатымі блікамі бегалі па траве.

Нягледзячы на спякоту, у зялёных шапках соснаў голасна спявалі птушкі. Хтосьці з нас выказаў здагадку: салаўі!

— Не, гэта не салаўіная песня,— адказаў суразмоўца.— Салавей усю ноч напралёт пяе. Быццам арыю сваю вядзе. Ягоны пошчак ад іншых адрозніш. Нездарма ж гавораць пра салаўіныя каленцы. Гэта сапраўдная музычная мелодыя...

У нашай размове айцец Серафім быццам адкрываўся як чалавек і свяшчэннаслужыцель. Ён быў так непадобны на тыя вобразы-стэрэатыпы папа, што са школьнай пары ўбіваліся ў нашы галовы. Серафім быў душою знітаваны з прыродай, з гэтай зямлёй. Слухаць ягоныя думкі-назіранні можна бясконца, забыўшыся і пра час, і пра ўсё на свеце.

— Раней тут вароны жылі,— працягваў ён.— Гнёзды вілі. Пасля пакінулі гэтыя дрэвы, а воран і дагэтуль гняздуецца на вунь той сасне,— і, мусіць, улавіўшы здзіўленне ў вачах патлумачыў: — Гэта зусім розныя птушкі, вароны жывуць агулам, любяць шум-гам, а воран — адзіночка, не дапускае шумнага суседства. А на могілках і зайцы жывуць. Часам адтуль і ліска прыбягае. Ім там вальней. На царкоўным пагосце прыжыліся сава і пугач. Аднойчы, як ішоў на вячэрнюю службу, ён развухкаўся. Гэтак, быццам стогне, быццам плача. Я — яму: "Што, Філя, цяжка?.." А ён у адказ адно: "Ух! Ух!" Не толькі я заўважыў, што гэтыя мясціны незвычайныя, але і тыя людзі, што працавалі на манастырскай будоўлі. Застанецца хлеб ад абеда, пакладуць на зямлю — ні звер, ні птушка не бяруць, а вынясуць за агароджу — з'ядуць. Месца тут такое...

Нечаканае паведамленне, што гэтая мясціна святая, прыйшло даўно. Можа, пасля таго, як старадаўні абраз Маці Боскай Чанстахоўскай аднавіўся? Нядаўна з Масквы прыязджаў кандыдат багаслоўя, фатаграфаваў абноўлены абраз.

Можа, як злодзеі залезлі ў царкву, абакралі яе, але былі выяўлены і ўсе каштоўнасці вярнуліся ў Божы храм? І сёння засталіся рубцы, дзе былі парэзы іконы, калі яе здымалі, хоць і добра заробленыя рукамі айца Серафіма. Нездарма ж ён пасля школы заканчваў Кобрынскае мастацкае вучылішча народных промыслаў.

А можа, і раней? Уладыка блаславіў яго на добрую справу. Каб тут можна было адысці ад клопатаў зямных: маліцца Богу, кнігі перапісваць, абразы ствараць. Адзін, зроблены рукамі айца Серафіма, заняў ужо месца ў храме.

Быў складзены праект забудовы мужчынскай пустыні — пазнейшага Спаса-Праабражэнскага манастыра. Аказалася шмат вернікаў, якія ахвотна памагалі настаяцелю старадаўняга хмелеўскага храма ў гэтай святой справе. Пра кожнага з іх суразмоўца гаворыць цёпла і ўдзячна.

У той дзень, як мы прыехалі ў Хмелева, ва ўсю моц ішлі работы па будаўніцтве корпуса брацтва. Айцец Серафім паказваў, дзе будзе трапезная, дзе дом настаяцеля. Цяпер, праз гады, калі мары святара здзейсніліся, думкі яго, што заўжды звернутыя да Бога, сягаюць яшчэ

вышэй. Хоча Серафім, каб мір, спакой, братэрская любоў апанавалі на зямлі, каб ніколі хцівасць і бязвер'е не захапілі чалавечыя сэрцы.

Хоць і перажывае часам болі, але нікому не адмаўляе ў просьбе палячыць душу і цела. На яго чытках бывалі людзі, мо, з усяго свету: з Волагды і Серпухава, Сімферопаля і Харкава, з далёкіх і блізкіх краін. І кожнаму ён стараўся аддаць часцінку сваёй дабрыні, свайго цяпла...

Айцец Серафім гаварыў пра жыццё, прыроду, нават пра палітыку вельмі цікава, і ні ў кога не з'яўлялася жадання перарваць аповяд. Хоць з пачатку сустрэчы прайшло гадзіны паўтары. А то раптам ён сам перапыніў расказ:

— Можа, задасце мне свае пытанні?

І тут успомнілася, што, збіраючыся ў паездку, і сапраўды, былі падрыхтаваныя пытанні. Задалі першае:

— Скажыце, айцец Серафім, як вы прыйшлі да веры?

— Я з дзіцячых гадоў пастаянна хадзіў у храм. Хаця гэта і забаранялася. Мяне заўважыў Іван Пятровіч Канючка і стаў вучыць чытаць па-стараславянску.

А то прыехалі мы, вучні жабінкаўскай СШ № 1, на бульбу ў калгас "Радзіма". Папрацавалі, засмагла ў роце, пайшлі папіць вады да бліжэйшага двара. Не ведалі, што там жыве вельмі набожная жанчына — Таццяна. Яна ўсім дала папіць, а мне прыносіць "Псалтыр" і кажа: "Гэта для цябе вада. Ад духоўнай смагі". Пасля, праўда, яна мне таксама дала папіць. А словы незнаёмай жанчыны глыбока запалі ў сэрца: "Адкуль яна ведае, што мне патрэбны такія кнігі?" Я стаў многа чытаць. Асабліва ўразіла жыціе Серафіма Сароўскага. Я вырашыў стаць манахам.

Але да гэтага быў яшчэ вялікі шлях. Я закончыў школу, мастацкае вучылішча ў Кобрыне, а затым прыйшоў у Жыровіцкі манастыр. Атрымаў бласлаўленне на паслушанні, выконваў іх, а пасля ўжо пастрыгся ў манахі.

— Значыць, не выпадкова Васіль Пятручык стаў айцом Серафімам?

— Я вельмі хацеў быць у сваіх справах падобным на Серафіма Сароўскага і з радасцю прыняў гэтае імя.

— Як ваша маці ўспрыняла вестку, што вы будзеце манахам?

— Маме, канечне, вельмі хацелася, каб у мяне было так, як ва ўсіх. Яна нават плакала, што я не буду мець сям'і, дзяцей. Пасля прыехала ў манастыр, паглядзела, чым займаемся, як жывём, і пагадзілася, што выбар правільны.

— Як да вас звяртаюцца блізкія родзічы?

— Мама найчасцей мне кажа "сынок", ёй можна: яна нарадзіла мяне. А астатнія гавораць "бацюшка". Нягледзячы на ўзрост.

— Калі і як адкрылі ў сабе дар лекара?

— Гэта не я ў сабе адкрыў, а іншыя ўбачылі. Мажліва, першым быў айцец Валянцін, які сам праводзіў чыткі. Ён блаславіў мяне, і я панёс гэты нялёгкі крыж. У час чытання, калі выганяецца нячысты, людзей ламае, яны крычаць, плачуць, галосяць. Асабліва, калі падносіш абраз Блажэннай Матроны.

— А як адчувае сябе пасля чыткі сам "лекар"?

— Яны патрабуюць нямала сіл, здароўя. Пасля чыткі адчуваеш сябе як бы апустошаным. Але праходзіць час, вяртаюцца сілы. Каб зноў дапамагаць людзям...

8 лістапада 2000 года, у дзень святога Дзімітрыя, калі Спаса-Праабражэнскай царкве спаўнялася 275 гадоў, заканчваючы богаслужэнне, айцец Серафім абвясціў, што сёння храм наведае Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі Філарэт, які асвеціць таксама збудаваныя карпусы брацтва і трапезнай, і заклікаў прыхаджан пабываць на ўрачыстасці.

У назначаны час прыехала і прыйшло многа-многа вернікаў. Адразу ля царкоўнай брамкі мітрапаліту паднеслі хлеб-соль. Пад густы меладычны перазвон па дарожцы, шчодра ўсеянай кветкамі, Уладыка прайшоў да храма, раз-пораз бласлаўляючы прыхаджан.

Адбылося таінства асвячэння манаскіх келляў і трапезнай. У размове з вернікамі мітрапаліт Філарэт сказаў:

— Я быў рады наведаць Спаса-Праабражэнскі скіт і ўбачыць, як благаслаўённа тут пачалося манаскае жыццё. Радуюся поспехам айца Серафіма і жадаю яму ад Госпада сіл, каб змог ажыццявіць вельмі адказную місію адраджэння манаскага жыцця на беларускай зямлі.

Неяк сам сабою нарадзіўся з гэтай нагоды верш, бо адчулася:

**Вера не можа памерці**

Сонца ў зеніце, бы хто прыкалоў,  
Хмары не едуць здалёку.  
Маці-бусліха, акрыўшы крылом,  
Дзетак ратуе ад спёкі.  
Вяне бульбоўнік, і лубін зачах,  
Жыта не спее — "згарае"...  
Моляцца людзі, а сум у вачах: "  
Можа, бясхлеб'е чакае?.."  
Хай жа надзея жыве на зямлі!

І памаліцца з усімі
Летам гарачым, каб дождж на палі,
Просяць айца Серафіма.
Моліцца пастыр і словы кладзе,
Быццам зярняты паверце...
Вера не кіне больш сэрцы людзей,
Вера не можа памерці!

## *СІНЯЕ МОРА, БЕЛЫ КАРАБЕЛЬ*

**ПРАТАСЕВІЧ Аляксандр Яраслававіч**
Нарадзіўся ў 1958 годзе ў горадзе Жабінка
*Капітан І рангу Паўночнага флоту ВМФ Расійскай Федэрацыі*

Адкуль у хлопцаў з Якаўчыцаў такая цяга да карабельнай справы, калі змалку і мора не бачылі, дый вялікая рака няблізка? Аднак, калі прыйшоў час вызначацца ў жыцці, абодва браты Пратасевічы закончылі Ленінградскае вышэйшае ваенна-марское інжынернае вучылішча імя У.І. Леніна. Старэйшы Аляксандр патлумачыў свой выбар так:

— Я з дзяцінства любіў "капацца" ў розных матарах, механізмах. А што іменна захапіла мора, дык тут вінаватыя Валянцін Пікуль, Аляксандр Грын і Жуль Верн, якія, здаецца, паклікалі нас з братам вучыцца марской справе. Не, гэта нават наша сямейная праца: мой родны дзядзька — Канстанцін Сцяпанавіч Пратасевіч — быў начальнікам гідравузла ў Залуззі.

Так ці інакш, але, па словах маці Таісы Мікалаеўны, яшчэ ў шостым класе, як толькі збудавалі дом у Вялікіх Якаўчыцах, меншы Сяргей на сцяне намаляваў карабель. Браты вучыліся ў школе, а мара жыла.

Пасля школы Аляксандр вязе дакументы ў Ленінград, у ваеннае вучылішча. Хлопца нават не палохае тое, што конкурс вялікі — сем чалавек на месца. Не, у першы год не ўдалося прайсці па конкурсе, але надзея засталася.

Аляксандр вяртаецца ў калгас "Прамень", дзе старшынёй быў яго бацька Яраслаў Сцяпанавіч, і сядае за руль трактара (правы, дарэчы, атрымаў у Жабінцы ў навучальна-вытворчым камбінаце), каб на наступны год зноў паспрабаваць сябе, паступаючы на вучобу. Факультэт усё той жа — "Эксплуатацыя карабельных сілавых энергетычных установак". Другая спроба аказалася паспяховай.

Стараўся, вучоба давалася лёгка. Апроч прадметаў па спецыяльнасці, выкладчыкі вучылі, як паводзіць сябе з людзьмі, каб твае загады былі выкананы. Дысцыплінаваны, заўсёды падцягнуты, Аляксандр Пратасевіч звярнуў на сябе ўвагу выкладчыкаў і курсантаў: ужо на трэцім курсе ён становіцца старшыной роты — галоўным карабельным старшыной. Да яго слова прыслухоўваюцца, з ім радзяцца.

Курсанты асабліва палюбілі капітана І рангу Алега Іванавіча Вербавога. Гэта быў сапраўдны афіцэр, ён многа ведаў, шмат чытаў і прывучаў да гэтага сваіх выхаванцаў. Можа, з яго падказкі Аляк-

сандр Пратасевіч па-новаму, па-даросламу, перачытаў кнігі Аляксандра Дзюма, Антуана Сент-Экзюперы і Віктора Гюго?

Алег Іванавіч арганізоўваў экскурсіі ў Эрмітаж, у Рускі музей, у тэатр оперы і балета, запісаў курсантаў на курсы бальнага танца. Вербавы гаварыў:

— Марскі афіцэр — гэта не "марскі воўк", а перш за ўсё высокаінтэлігентны чалавек, які даме ўмее і кветкі падарыць, і вальс станцаваць, а, як трэба, і абараніць жанчыну...

Пасля чацвёртага курса Аляксандр Пратасевіч ажаніўся на сваёй аднакласніцы Тамары. Маладыя сталі жыць у горадзе Пушкін. Год прайшоў непрыкметна. Маладога афіцэра накіравалі ў Североморск на ваенны карабель "Московский комсомолец". Службу Аляксандр Яраслававіч пачаў у якасці камандзіра машынна- кацельнай групы. Пад яго началам знаходзіліся два мічманы і 72 старшыны і матросы.

Затым Аляксандр Пратасевіч узначаліў дывізіён вялікага супрацьлодачнага карабля "Адмирал Макаров". Давялося яму таксама служыць на эскадраных мінаносцах "Отличный" і "Безудержный". Апошні быў названы ў гонар карабля, які адважна змагаўся супраць японскай эскадры ў 1904 годзе і загінуў каля Цусімы.

Зведаць рамантыку мора можна толькі ў паходах. Яшчэ будучы курсантам, Аляксандр Яраслававіч выправіўся ў першае плаванне. Тады наведалі Германію. Пазней не раз выпадзе спыняцца ў Італіі Алжыры, Сірыі і іншых краінах. Бо мінаносец "Отличный", абагнуўшы берагі Еўропы, увойдзе ў Міжземнае мора, на паўгода стане на якар побач з амерыканскай эскадрай...

Памятным для Аляксандра Пратасевіча стаў 1989 год. Нарэшце пасля "халоднай вайны" паміж Савецкім Саюзам і Злучанымі Штатамі пачалі наладжвацца ўзаемаадносіны. Сустракаюцца прэзідэнты, амерыканскі бок запрасіў да сябе савецкіх маракоў.

Тры караблі, у тым ліку і эскадраны мінаносец "Отличный", прабіліся праз хвалі Атлантычнага акіяна на ваенна-марскую базу ЗША ў Норфалку. Як добрых сяброў, прымалі амерыканскія матросы. Быццам вярнуўся 1945 год і сустрэча на Эльбе. Пасля гэтага і заакеанскія госці маглі пазнаёміцца з савецкімі ваеннымі базамі...

Аляксандр Яраслававіч пастаянна працуе над сабою, павышаючы веды, пашыраючы кругагляд. У апошнія гады ён закончыў Паўночна-заходнюю акадэмію дзяржслужбы пры прэзідэнце Расійскай Федэрацыі і курсы атамшчыкаў пры вядомым інстытуце імя І.В. Курчатава.

У 90-ыя гады Аляксандр Пратасевіч быў накіраваны ў аддзел эксплуатацыі надводных караблёў тэхнічнага ўпраўлення Паўночнага

флоту, а затым стаў начальнікам суднарамонтнага комплекса № 36, а з 2003 года — начальнік 234-й базы тэхнічнай маёмасці, якая забяспечвае ўсім неабходным караблі, што базіруюцца на Паўночным флоце.

Ваенным стаў і яго сын. Аляксандр-меншы жыве ў Севераморску і працуе ў Мурманскім абласным ваенкамаце. Дачка Кацярына сёлета закончыла Мурманскі дзяржуніверсітэт. У 2006 годзе брала ўдзел у конкурсе прыгажунь і была прызнана "Міс Мурманска".

...Час ідзе наперад, набліжаючы Аляксандра Яраслававіча да паўвекавога юбілею. Пара падумаць пра адстаўку, пра адпачынак. Усё часцей прыходзіць усведамленне, што, мусіць, пара вярнуцца ў Беларусь, каб жыць паблізу бацькоў і поруч з братам, капітанам ІІІ рангу ў адстаўцы Сяргеем Пратасевічам. Але пакуль яшчэ кліча Аляксандра праца...

## *ГАДОЎ СВАІХ НЕ ЛІЧЫЦЬ*

**АНДРАСЮК Вольга Аксенцьеўна**

Нарадзілася ў 1915 годзе ў вёсцы Сакалова

*Ветэран Вялікай Айчыннай вайны, жанчына-шафёр, кавалер ордэна Чырвонай Зоркі і шэрагу медалёў*

У сваім падарожжы мы вымушаны на нейкі час пакінуць Жабінку, каб у вёсцы пад назовам Сакалова сустрэцца з наступнай сваёй гераіняй.

Няхай ваенныя дарогі гэтай дзіўнай жанчыны і не прайшлі па нашай рэспубліцы, але такія людзі, як Вольга Аксенцьеўна,— гонар ды гордасць Беларусі. Яе імя занесена ў Кнігу баявой і працоўнай славы калгаса "Радзіма", якому прысвяціла звыш трыццаці гадоў самаадданай працы. Да 50-годдзя вызвалення Украіны ад нямецкіх захопнікаў пасол гэтай суверэннай дзяржавы ўручыў Вользе Аксенцьеўне Андрасюк юбілейны медаль.

Захацелася напісаць пра яе. Пазванілі раз-другі і захваляваліся, ці не ў бальніцы, але ў Хмелеўскім сельсавеце супакоілі:

— Мы праведвалі нядаўна. Такая ж гаваркая і вясёлая. А калі дазваніцца цяжка — значыць,градкі поле...

— У 92 гады градкі поле?

— Гадоў сваіх яна не лічыць,— усміхнуліся на тым канцы провада.

І праўда, мы сустрэлі бабулю Вольгу за работай: ля дарогі палола кветкі. Як загаварылі пра сацыяльнага работніка, адмахнулася:

— Гаварылі мне пра гэта, але навошта ён мне? Дзеці ў мяне добрыя. Кожны тыдзень прыязджаюць, памагаюць, дый сама сябе я абслужыць магу.

Адна просьба ў ветэрана, каб у дом прыйшла вада. Быццам і недалёка весці, а няма. Як бы аблегчылі жыццё ў старасці! Бо калодзеж зусім высах...

А потым жанчына ў сваіх разважаннях вярнулася на чвэрць стагоддзя назад. Вельмі ўжо ўсхвалявала тады гэтая падзея. І сёння не можа забыць. Прывезлі ў вёску Сакалова фільм пра вайну. Прыйшла паглядзець Андрасюк разам з суседкай Вольгай Серафімовіч.

Стужка называлася "Малахаў курган". Услед за мастацкімі кадрамі высвеціліся дакументальныя: па дарозе рухалася калона машын, а першая — "Шэўрале" са знаёмым нумарам: Ж-2-23-10.

— О, Божухна, дык гэта ж мая машына! Дык гэта ж я за рулём! — забыўшыся, што яна ў зале глядзіць фільм, а побач аднавяскоўцы, усхвалявана ўсклікнула Вольга Андрасюк.

Быццам кадры кіно, перад вачамі прайшлі падзеі...

1940 год. У Сакалове раскватаравана воінская часць. Вользе Гаркалюк (дзявочае прозвішча) падабаецца ваенны медык Іван Шумчанка. Маладыя сустракаюцца. Іван вязе жонку паказаць родзічам у горад Куйбышаў Растоўскай вобласці.

З першых дзён вайны Іван Шумчанка на фронце. Ваюе пад Бранскам, а Вольга чакае ад яго вестачкі. Урэшце прыходзіць ліст ад Івана, а ўслед — "пахавальная".

Вольга Шумчанка ідзе ў ваенкамат, просіцца на любую работу. Яе накіроўваюць на салдацкую кухню, а ў самым пачатку сорак трэцяга жанчына трапляе на курсы ваенных шафёраў. Хаця тэорыя даецца з цяжкасцю, але на практычных занятках у яе атрымліваецца лепш за ўсіх. Вадзіцельскія правы атрыманы.

Вольгу з групай дзяўчат адпраўляюць атрымліваць для фронта тэхніку. Як убачыла вялізны амерыканскі "Студэбекер", разгубілася, нават заплакала. Каб бачыць дарогу, прыйшлося шынель падкладваць. З другой камандзіроўкі яна прыехала на "Шэўрале". Машына стала для яе баявой, бо неўзабаве Вольга едзе ў складзе аўтапалка ў Крым, дзе разгортваюцца жорсткія баі.

Ваенныя цяжкасці яна вымушана была пераносіць нароўні з мужчынамі. І пад Ялтай, і ў Севастопалі, і на Перакопе. Пад перакрыжаваным агнём вазілі на перадавую боепрыпасы і харчаванне, а назад — параненых у шпіталь. Адзін асколак зачапіў і вадзіцеля. Пасля выздараўлення Вольга аказалася ў Прыбалтыцы.

18 красавіка 1944 года. Ля пераправы цераз раку стаяла машына з прабітым шклом. Падпалкоўнік, што вёз у штаб сакрэтныя дакументы, быў цяжка паранены. Машына аказалася і без шафёра. Нават мужчыны баяліся перабірацца на пароме на супрацьлеглы бераг, які абстрэльваўся, а Вольга Аксенцьеўна згадзілася.

Не, ёй таксама, прызнаецца зараз, было страшна. Усю дарогу думала адно: "Толькі б не трапіў снарад! Толькі б вытрымаў паром!.."

Камандзір дывізіі, прымаючы дакументы, здзівіўся, калі ўбачыў перад сабою худзенькую маладзенькую жанчыну-шафёра:

— Гэта вы прывезлі іх?

— Я,— нясмела прызналася Вольга.

Камандзір дастаў ордэн Чырвонай Зоркі і ўручыў ёй. Неўзабаве Вользе Шумчанка было прысвоена воінскае званне — сяржант.

Пасля заканчэння Вялікай Айчыннай вайны з ордэнам і медалямі "За ўзяцце Кёнігсберга" і "За перамогу над Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне 1941-1945 гг." на грудзях вярталася Вольга Аксенцьеўна ў роднае Сакалова. Сустрэча з вясковым кавалём, удзельнікам вайны Яўгенам Андрасюком зблізіла іх. Яны згулялі вяселле, збудавалі свой дом, каб на ўсё жыццё застацца ў роднай вёсцы. У іх сям'і выраслі дзве дачкі — Зоя і Ніна...

Закрануў фільм самыя патаемныя струны душы Вольгі Аксенцьеўны. Яна, здаецца, не чула, пра што пыталася ў яе суседка. А тую цікавіла, ці спадабалася Андрасюк кінастужка. Нарэшце Вольга Аксенцьеўна сказала, быццам выдыхнула:

— Харошы фільм! ён мяне нібы ў ваенную маладосць вярнуў...

Хочацца пажадаць Вользе Аксенцьеўне і надалей жыць у шчасці-радасці, доўгага веку, каб гадоў было сто і болей. Каб ёй даравалі кветкі ды ўсмешкі людзі, а паэты складалі ў яе гонар вершы, такія ж пранікнёныя і лірычныя, што піша наступны наш герой — ураджэнец прыгожага Хмелева.

## *СТАЛА ПЕСНЯЙ НАЗАЎЖДЫ*

### АРАБЕЙКА Іван Сяргеевіч

Нарадзіўся ў 1942 годзе ў вёсцы Хмелева

*Беларускі паэт*

У творчым "багажы" Івана Арабейкі — два паэтычныя зборнікі, выдадзеныя яшчэ ў 70-ыя гады мінулага стагоддзя ў выдавецтве "Мастацкая літаратура". Мала гэта ці многа? Як вядома, Максіму Багдановічу хапіла аднаго зборніка "Вянок", каб назаўсёды застацца ў гісторыі літаратуры, а Паўлюку Багрыму — аднаго верша...

Гэтым мы зусім не апраўдваем доўгае Арабейкава маўчанне, але і дзвюма кніжкамі ён сцвердзіў сябе, даказаў, што паэт адбыўся.

Іван Арабейка нарадзіўся ў ваенным 42-м годзе. Рана адчуў у сабе паэтычны дар, які межаваўся з дакладнымі навукамі. Іван Сяргеевіч закончыў Беларускі політэхнічны інстытут, працаваў на сусветна вядомым шклозаводзе "Нёман" у пасёлку Бярозаўка Лідскага раёна Гродзенскай вобласці, а пасля — на прадпрыемствах Брэста.

Таму ў кнігах Арабейкі, асабліва ў першым зборніку "Услед за сонцам", што выйшаў у 1972 годзе, часта сустрэнеш вершы, прысвечаныя шкладувам, рабочаму класу. Але не яны сталі дамінуючымі ў творчасці паэта. Чым бы ні займаўся Іван Сяргеевіч, ён помніў яркія фарбы маленства, водар вёскі, сніў жніво і маці, якая так рана памерла. Вечная працаўніца, яна заўжды жыве ў вершах сына:

Калі ты гаварыла мне пра стому,
Хацелася яшчэ чым памагчы.
І я тады хоць серп твой нёс дадому,
Як беркута якога на плячы.

У іншы раз успаміны прыносяць краскі былога дзяцінства, пах духмянага аржанога хлеба, што пякла адмыслова жанчына:

Любіў глядзець, як цеста бродзіць,
Калі за край дзяжы цякло.
Казала маці: "Хлеб усходзіць!"
І ў хаце сонечна было.

У адным з лепшых сваіх вершаў "Асенні ранак", які даў назву другому зборніку, паэт напісаў, як у маленстве з сяброўкай збіраў грыбы:

Я клікаў даль. Не адклікалася
Ні ты, ні птаства, ні глухмень.
І толькі дзесь працяжным голасам,
Твае шукаючы сляды,

Ад лесу рэха адкалолася
І стала песняй назаўжды.

Помніцца, Арабейка не быў задаволены назвай другой кнігі (у аўтара была свая), ён гаварыў:

— Што, надышла восень маёй творчасці?! — і потым разважаў: — А можа, і праўда, гэта толькі асенні ранак, а яшчэ будзе дзень...

На вялікі жаль для прыхільнікаў яго таленту, Іван Арабейка аказаўся для сябе прарокам. У 1981-1983 гадах ён вучыўся ў Маскве на Вышэйшых літаратурных курсах. Вершы, што з'явіліся ў друку, засведчылі: паэт пачаў асвойваць для сябе новыя матывы, звярнуўшыся да гумару і сатыры. Аднак пошук працягваўся нядоўга, бо неўзабаве ён зусім адышоў ад літаратурнай творчасці, замаўчаўшы на доўгія дваццаць гадоў. Як гэта здарылася, расказвае пісьменнік Аляксей Філатаў:

— А сярэдзіне 80-х Іван даслаў нізку вершаў у часопіс "Полымя". Там адобрылі творы, прасілі прыслаць яшчэ. Паслаў і стаў чакаць, каб убачыць іх надрукаванымі. Больш як праз год у часопісе з'явіўся адзін-адзіны верш. Гэта пакрыўдзіла Арабейку: "Значыць, можна абыходзіцца і без маіх вершаў?.."

Сваё 60-годдзе Арабейка адмовіўся адзначаць, і тады брасцейскія пісьменнікі, тыя, хто ведаў яго шмат гадоў, настаялі, каб такое свята паэзіі ўсё ж адбылося. Іван Сяргеевіч запрасіў нас да сябе дамоў.

Застолле межавалася з размоваю пра літаратуру, паэзію. Помніцца, Іван Сяргеевіч згадваў, як пісалася паэма "Сцяна". Каб настроіць сябе на рабочы лад, Арабейка ўставаў вельмі рана (яшчэ спала Брэсцкая крэпасць) і ехаў на месцы, дзе трымалі абарону Гаўрылаў, Зубачоў, Наганаў. Была такая ціша, што здавалася: восьвось яе разарвуць выбухі варожых снарадаў, ляскат кулямётаў...

Яшчэ адно здзівіла ў той дзень: Іван Арабейка ведаў столькі вершаў свайго любімага паэта Аляксандра Твардоўскага і так хораша чытаў, што ўсе мы заслухаліся, і ніхто не змог пасапернічаць з ім. Таму, калі мне далі слова павіншаваць юбіляра, я пажадаў Івану перарваць заслону маўчання, каб мы змаглі прачытаць новыя яго вершы. Бачыў, як адразу ажывіліся жонка і сыны:

— Мы створым усе ўмовы — толькі б ён пісаў!..

Праводзячы да цягніка, Іван Арабейка запэўніў, што ёсць у яго задумкі і скора напішуцца новыя радкі. Гэтае "скора" расцягнулася на тры гады. Але паэт ёсць паэт. Вершы, што жылі ў ім, павінны былі вырвацца на волю і загучаць. У сакавіку 2005-га мы сустрэліся з ім у Жабінцы.

— Верш напісаны! — з радасцю паведаміў Іван Сяргеевіч.— Ён пра лёс земляка, які ў вайну трапіў у палон, а таму аж да смерці ўсе стараліся замоўчваць, што ён ваяваў. Прывязу ў наступны прыезд.

І прывёз. Верш "І зноў вясна, і зноў цвітуць сады" з'явіўся да 60-годдзя Вялікай Перамогі і хораша ўпрыгожыў літстаронку "Плынь".

Заставалася чакаць новых вершаў, ды здарылася непрадбачанае. П'яны вадзіцель падбіў Івана Сяргеевіча, калі той вяртаўся на веласіпедзе з дачы. Але ж, дзякуй Богу, і гэтае выпрабаванне здолеў пераадоліць паэт. А на пачатку гэтага года прынёс у рэдакцыю "раёнкі" звыш двух дзесяткаў вершаў, напісаных апошнім часам.

— Амаль усю зіму пражыў безвылазна на дачы ў вёсцы Жыцінь, што ў васьмі кіламетрах ад Жабінкі,— расказваў Арабейка,— Адзін, хоць ваўком вый! А вершы пішуцца...

Тэмы ўсё тыя ж, якія мы ведалі па ранейшых зборніках, усё тое ж уменне працаваць са словам, але творы гучаць па-філасофску абвострана. Іван Арабейка піша пра знакамітых людзей — пра Максіма Багдановіча і Альберта Эйнштэйна, згадвае свае дзіцячыя і юначыя гады: "Даўняе", "Ліда", "Жаўрусік", "Маліны"...

Асобна стаіць верш "Быў". У цэнтры яго — трагічны лёс чалавека, які любіў "квасіць каву", прайшоў праз турму, не займеў ні сям'і, ні дзетак:

Хавалі яго. Адспявалі ды ходу.
Не плакаў ніхто, не трубіў.
Ні роду, ні плоду, як камень у воду,—
Адно толькі званне, што быў.

Няхай і надалей не абмінае Муза дачнай хаткі ў Жыціні! І калі зроблены першы крок на шляху вяртання, дык будзе і другі — выхад паэзіі да сталічнага чытача. А ад сябе дорым жартаўлівы верш, прадказаны рэальнасцямі, што адбываліся ў роднай Арабейкавай вёсачцы ў далёкім ўжо XVII стагоддзі.

**Да назвы вёскі Хмелева**

У карчме Марціна Цеслі
Дым густы з сінечаю,
Не знайсці пустога месца:
П'юць, гуляюць з вечара.

Хоць няма ў жывых Марціна,
Але справы гожыя:
Удава-карчмарка чынна

Між сталоў паходжвае.

— Што за стан, якія рукі!
Так да ласкі й просяцца...
Абдымі — і здымеш мукі,
Прыгажуня Зосечка!

А другі:
— Чаму ж, ты, Зося,
Гэтак заірдзелася ?
Зося ў такт:
— Каб лепш пілося
Ды яшчэ й хацелася!..

Трэці:
— Эх, вярнуць бы лета,
Як была ты дзеўкаю!
— Не хваліся. Я на гэта
Адкажу прыпеўкаю:
Коля коле
Паша паліць,
Я ля грубкі грэлася.
Аніколі Не кахалі
Гэтак, як хацелася б!..

Заспявала — і кашмары
Адначас зрабіліся:
За прывабную карчмарку
Дзецюкі пабіліся.

Грэх пасля ў душы насілі,
Колькі Богам велена...
Звеку ў вёсцы хмель любілі
І назвалі Хмелева.

Іван Арабейка не забывае сваёй малой радзімы, прыязджае ў родныя мясціны, выступае перад землякамі. Пастаянныя ў яго рэпертуары вершы "Драмлёва", "Хмелева", "Маркіяну Германовічу". Апошні — пра чырвонага камандзіра-земляка, які нарадзіўся ў суседняй вёсцы Дзяменічы, куды мы кіруемся далей.

## *АД САЛДАТА ДА КАМКОРА*

**ГЕРМАНОВІЧ Маркіян Якаўлевіч**

Нарадзіўся ў 1895 годзе ў вёсцы Дзяменічы

*Савецкі военачальнік, удзельнік Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў, камандзір корпуса, кавалер двух ордэнаў Чырвонага Сцяга*

Вясковае жыццё для Маркіяна Германовіча скончылася ў той дзень, калі ён сеў на воз, каб ехаць з родных Дзяменічаў у свет. Першая сусветная вайна падышла так блізка, што казакі сілаю выганялі людзей з абжытай зямлі.

Таму многія рушылі ў глыб Расіі. Германовічы знайшлі прыпынак у Саратаўскай губерні. Тут і адшукала дваццацігадовага Маркіяна позва ў войска.

Хлопцу пашанцавала. Залічаны ў першы запасны батальён у Петраградзе, ён праявіў салдацкую кемлівасць і неўзабаве аказаўся ў Гатчынскай школе прапаршчыкаў.

Баявое хрышчэнне атрымаў на Паўночным фронце малодшым афіцэрам роты. Не раз прыходзілася падымаць салдат у атаку. Малады камандзір праявіў мужнасць у баі. Даслужыўся да штабс-капітана. Пачалі да простага сялянскага сына звяртацца не інакш як: "Ваша благароддзе!" Чын дазваляў выбіцца ў "высакародныя"...

Але набліжаліся бурлівыя часы. Ішоў год семнаццаты. Адбыліся Лютаўская і Кастрычніцкая рэвалюцыі. Кожнаму трэба было вызначацца, з кім ён. У красавіку 1918 года на петраградскім пункце запісу добраахвотнікаў былы штабс-капітан Германовіч запісаўся шэраговым у Чырвоную Армію.

Неўзабаве Маркіяна Якаўлевіча прызначылі інструктарам у 1-ы Жалезны полк абароны пралетарскай рэвалюцыі. Але нядоўга быў Германовіч у Петраградзе. Вогненнае кальцо франтоў адарвала ад маладой Савецкай дзяржавы тры чвэрці тэрыторыі, і Маркіян Германовіч папрасіўся на фронт.

18 чэрвеня 1918 года Германовіч становіцца камандзірам роты 15-га Юр'еўскага палка, у склад якога ў асноўным уваходзілі беларусы і эстонцы. Іх накіравалі пад Архангельск. Рота Германовіча наносіла смелыя ўдары.

У лістападзе пачалося выгнанне кайзераўскіх войскаў з зямлі маладой Краіны Саветаў. З бою ў бой расло воінскае майстэрства Германовіча, рос аўтарытэт сярод салдат, і пры вызваленні Пскова Маркіян Якаўлевіч кіраваў ужо дывізіяй.

Але найбольш праявіліся баявыя здольнасці Германовіча на Паўднёвым фронце, пры выгнанні Урангеля. Асабліва дзёрзкім, нечаканым для ворага аказаўся пераход па гнілым дне Сіваша.

Штурмавыя атрады і перадавыя батальёны 154-й і 155-й брыгад пад шалёным агнём праціўніка авалодалі Літоўскім паўвостравам, а затым і самым умацаваным Юшанскім збудаваннем. Калі камандарм А.І. Корк папрасіў Германовіча прадставіць для ўзнагароды байцоў і салдат, што асабліва вызначыліся, Маркіян на гэта адказаў:

— Таварыш камандуючы арміяй, героем была ўся мая дывізія. Кожны баец, камандзір праявіў вернасць прысязе, ваяваў да апошняга патрона, не пакінуў пазіцый..:

За праяўленыя мужнасць, адвагу і доблесць Усерасійскі Цэнтральны Ваенны камітэт узнагародзіў Маркіяна Германовіча залатым гадзіннікам, двума ордэнамі Баявога Чырвонага Сцяга.

Калі выдалася свабодная хвіліна, Маркіян Якаўлевіч паехаў у Саратаўскую губерню, каб пабачыцца з блізкімі і роднымі. Тыя ўжо збіраліся ехаць дадому. Маці Надзея Мацвееўна і сястра Аляксандра да слёз прасілі Маркіяна, каб ён кінуў службу ў арміі і паехаў на радзіму. На гэта Германовіч адказаў:

— Не для таго я вучыўся, каб век у зямлі капацца, умею ваяваць і буду служыць у войску!..

На доўгія гады іх раздзяліла дзяржаўная мяжа.

Закончылася грамадзянская вайна, але не такімі ўжо мірнымі аказаліся 20-ыя гады. Ва Украіне працягваюць разгульваць банды бацькі Махно і іншых атаманаў. Адным з атрадаў па знішчэнні бандытаў на Харкаўшчыне камандаваў Германовіч.

Восенню 1922 года ён быў залічаны слухачом Вышэйшых ваенна-акадэмічных курсаў, якія закончыў на выдатна, і быў назначаны камандзірам 23-й Харкаўскай дывізіі. У гэты час камандуючы войскамі

Украіны і Крыма так атэставаў Германовіча: "Выдатны камдыў. Талковы. Удумлівы, з вялікай ініцыятывай. У рабоце зарэкамендаваў сябе з найлепшага боку. Лічу мэтазгодным вылучыць на пасаду камкора. 13 лістапада 1923 года".

Аднак воінскае званне камандзіра корпуса ён атрымае толькі ў канцы 1935 года. Хаця яму прыйшлося быць камандзірам і камісарам 5-га корпуса, штаб якога знаходзіўся ў Бабруйску, а таксама памочнікам камандуючага войскамі Беларускай ваеннай акругі.

З вясны 1928 года Германовіч — памочнік камандуючага Сярэднеазіяцкай, а затым — Маскоўскай ваеннай акругі. У 1932 годзе была створана Ваенная акадэмія механізацыі і матарызацыі Чырвонай

Арміі, а са жніўня 33-га Маркіян Якаўлевіч становіцца кіраўніком гэтай вышэйшай навучальнай установы. Колькі выдатных камандзіраў "вырасце" ў яе сценах! Іх вайсковая доблесць праявіцца ў гады Вялікай Айчыннай вайны, але пра гэта ўжо Германовіч ведаць не будзе...

Апошняе месца службы — памочнік камандуючага Ленінградскай ваеннай акругі. У гэты час узнікла "вайна" паміж так званымі "кавалерыстамі", якімі лічыліся маршалы Будзённы і Варашылаў, і "танкістамі", якім быў маршал Тухачэўскі. Германовіч таксама лічыў, што наступныя баі будуць "вайной матораў", і горача падтрымліваў пераўзбраенне арміі. Перамаглі "кавалерысты". Таму Германовіча прызналі агентам ваенна-фашысцкай тэрарыстычнай арганізацыі. Яго расстралялі 20 верасня 1937 года.

Згадка пра тое, як жыў і памёр Маркіян Якаўлевіч Германовіч, дайшла ў родныя Дзяменічы позна, аж пры канцы 50-х гадоў, калі яго рэабілітавалі як нявінна пацярпелага.

Звесткі былі такія скупыя, што настаўнікі і вучні з Жабінкаўскага раёна з'ездзілі на Перакоп і Сіваш, сустракаліся з людзьмі, якія па крупінках уваскрашалі падзеі грамадзянскай вайны і ўдзел у іх Германовіча. Уразілі сямейныя альбомы, з якіх былі вырваныя фотакарткі. Некалі з гэтых здымкаў глядзелі людзі, аб'яўленыя "ворагамі народа". Прайшлі дзесяцігоддзі, а жах у сведкаў тых падзей застаўся...

Успаміналі мясцовыя неахвотна, з апаскаю, але нават тых дакументаў і ўспамінаў, якімі яны падзяліліся, хапіла, каб у Хмелеўскай школе з'явіліся стэнды, прысвечаныя жыццю Маркіяна Германовіча. Імя знакамітага военачальніка стала ва ўсіх на слыху: яго імем названы вуліцы ў Дзяменічах і Жабінцы, а на радзіме камкора з'явіўся помнік — даніна павагі слыннаму земляку.

Вялікая работа па захаванні памяці вядзецца ў Хмелеўскай школе. Тут працуе гурток "Лідэр". Стала добрай традыцыяй напрыканцы кастрычніка ці ў пачатку лістапада (да дня нараджэння земляка-военачальніка) праводзіць заняткі і віктарыны, прысвечаныя жыццю і дзейнасці камкора з Дзяменічаў.

У 2005 годзе, да 110 гадавіны з дня нараджэння Маркіяна Якаўлевіча, у школе адбылася чытацкая канферэнцыя. З дакладамі выступалі Вольга Грыцук, Юлія Мікуц і Марыя Шалтанюк. Сямікласнік Віктар Міхалёўскі прачытаў верш Івана Арабейкі "Маркіяну Германовічу", які заканчваўся радкамі:

З самага краю Дзяменіч
П'ю з тваёй студні ваду.

Не мялее студня нашай памяці. І сёння жывуць у Дзяменічах пляменнікі Маркіяна Якаўлевіча: Георгій Паўлавіч Дарапіевіч, Марыя Паўлаўна Кавальчук, Надзея Паўлаўна Сыч і Варвара Іванаўна Кулік. Ёсць вуліца. Ёсць помнік. А значыць, ёсць і памяць. І створаны вершаваны

**Апошні маналог Германовіча**

Ноч ахінула чорным вязніцу.
Ціша навокал. У кратах акно.
Час бы заснуць — толькі мне ўсё не спіцца:
Цяжкія думкі даймаюць даўно.
І не такія, як крэмень, натуры
Тут прыгавор падпісалі сабе...
Выбач, сястрыца, мілая Шура,
Што не паслухаў калісьці цябе.

Я не пакінуў чырвонага войска...
Суд мой замешаны быў на мане...
Можа, Дзяменічы, родная вёска,
Хоць калі-небудзь згадаюць мяне?..

Болей жывым я не выйду за браму,
Больш не акіну паглядам зямлю...
Як у дзяцінстве, добрая мама,
Мне праспявай калыханку сваю.

Вас, землякі, заклінаю не верыць,
Быццам я здраднік Радзімы.
О не!.. Чуйна лаўлю: адчыняюцца дзверы...
Позна... Бывайце... Канвой — па мяне!..

Аднак змяніліся часы і згінуў жорсткі прымус, перад якім гібелі нават такія людзі, як Германовіч. Прыйшоў час новых герояў — працаўнікоў залатых хлебных ніў.

70 гадоў назад загінуў Маркіян.

70-годдзе яшчэ аднаго слаўнага земляка сёлета магло стаць вялікім святам на дзяменіцкай зямлі, якая дагэтуль памятае дотык яго натруджаных рук. Святам, якое ўслаўіла б працоўны подзвіг Ясінскага. Але мінула дзесяць гадоў, як няма з намі Мікалая Несцеравіча, ён застаўся ва ўспамінах людзей, каму выпала жыць і працаваць поруч. І наш аповяд — гэта таксама памяць пра Хлебароба з вялікай літары.

## *ЦЯПЛО СВЕЖАЙ РАЛЛІ*

**ЯСІНСКІ Мікалай Несцеравіч**

Нарадзіўся ў 1937 годзе ў вёсцы Дзяменічы

*Механізатар, уганараваны за сваю працу чатырма ордэнамі і медалём*

У сям'і Несцера і Кацярыны Ясінскіх было тры сына: Пятро, Сцяпан і Мікалай. Дзеці, як і бацькі, прыраслі да зямлі і ўсё аддалі ёй.

Працяг хлебаробскай дынастыі пачаўся з Пятра. Ён першы займеў спецыяльнасць трактарыста. У той час меншы заканчваў школу. Пятро і ўгаварыў Колю быць у яго прычэпшчыкам. А таму таго і хацелася, каб на плугах паездзіць і за руль трактара сесці. Мікалай, не раздумваючы, падаўся ў Маларыцкую школу механізацыі, каб атрымаць правы трактарыста. Быў здольны да навукі. Вучобу закончыў на "выдатна". Пасля вярнуўся ў родныя Дзяменічы, у свой калгас "Запаветы Ільіча". Спачатку працаваў на гусенічным трактары, а пасля і МТЗ-50 для яго выдзелілі. Спецыялізаваўся на вырошчванні бульбы. Рукі меў залатыя і тэхніку любіў. Як пачыналася жніво, перасядаў на камбайн.

У Сцяпана было трошкі інакш. Ён паспеў у калгасе папрацаваць, пасля — у войска пайшоў, а адтуль у горад перабраўся. Але, мусіць, не ўсё ладзілася, калі прыехаў у госці.

Тры браты сядзелі за бацькавым сталом і гутарылі. Ініцыятыва паходзіла ад Пятра.

— Ну, як табе, Сцёпа, там? — пацікавіўся ён.

— Ат,— уздыхнуў той,— не надта.

— Як не надта, дык пераязджай дадому і працуй.

— Нейк няёмка,— прызнаўся Сцяпан,— То кінуў вёску, то зноў прашуся назад...

— Не хвалюйся, прымуць,— усміхнуўся Пятро Несцеравіч.— Каб было зручна, давай зробім так. Зараз пачынаецца жніво. Мікалаю патрэбны памочнік. Вось і сядай на камбайн. Лепшага памагатага яму не знайсці...

Сцяпан задумаўся.

— Непакоіць, што меншаму прыйдзецца падпарадкоўвацца? — усміхнуўся Пятро,— Мікалай са сваёй хваткай усіх нас, Ясінскіх, за пояс заткне.

Да слова скажам, што тое лета разам адпрацавалі на камбайне. Экіпаж быў у ліку лепшых у гаспадарцы. Неўзабаве Пятро таксама

атрымаў правы і перасеў на трактар. Пазней працаваў майстрам-наладчыкам у цэнтральнай майстэрні калгаса "Запаветы Ільіча".

Жыццё ішло сваім чэрагам. У доме Ясінскіх згулялі тры вяселлі. Хораша, з размахам. Пабудавалі свае дамы, выхавалі дзетак. Пятро перабраўся жыць у Хмелева, дзе стаў механізатарам, а вось яго браты засталіся ў Дзяменічах.

Было гэта ў пачатку 70-х гадоў мінулага ўжо стагоддзя. Яшчэ як выязджаў у поле, Мікалай Ясінскі заўважыў: камбайн не адразу завёўся. Што з ім, хлебароб адразу не разабраўся. Думалася, у полі, пакуль збажына падсохне, усё праверыць.

Ужо тут, ля жытнёвай нівы, матор запрацаваў неахвотна і не адразу. "Што гэта магло быць?" — задумаўся Мікалай Несцеравіч і, закасаўшы рукавы, палез разбірацца.

Не заўважыў, як пад'ехала "лятучка" — "хуткая дапамога" для тэхнікі, а ў ёй старэйшы брат Сцяпан.

— Што там у цябе, Коля? — запытаў ён.

— Штось адразу не заводзіцца...

І яны разам пачалі шукаць прычыну.

— Вось бачыш, правадок адпаяўся, іскрыць,— першы заўважыў Сцяпан Несцеравіч.

У адзін момант правадок прыпаялі, і машына мчыцца далей, дзе чакаюць дапамогі ад майстра-наладчыка.

Надвор'е ў гэты дзень, аднак, спрыяла камбайнерам. Як выплыла сонца зранку з-за хмары, так, не стамляючыся, і грэла зямлю. Гарачыня ў кабіне, хоць майку выкручвай, але для камбайнераў не гэта важнае — галоўнае ўбраць хутчэй ураджай.

Палеткі калгасаў "Запаветы Ільіча" і "Радзіма" поруч, таму гэтая сустрэча двух братоў у полі адбылася. Паспрыяла адначасовае выспяванне збажыны, дый у адзін дзень, а можа, і час вывелі камбайны на сумежныя палі механізатары.

Яшчэ здалёк Саша Ясінскі, які працаваў памочнікам у Пятра Несцеравіча, пазнаў Мікалаеў камбайн і сказаў бацьку:

— Тата, глянь, дзядзька Коля таксама жыта ўбірае!

Бацька прыклаў далонь да вачэй:

— І праўда, гэта ён!

Камбайны ішлі насустрач адзін аднаму, збліжаліся. На самым канцы палетка Пятро запыніў машыну і гукнуў:

— Прывітанне, брат!

— Прывітанне, Ясінскія! — азваўся Мікалай.

— Ну, як намалот? — запытаў Пятро Несцеравіч.

— Нармальна.

— Будзеш зноў на першым месцы? — спытаў старэйшы брат.

— Пажывём — пабачым...

У тым 1974 годзе Мікалай Несцеравіч, нягледзячы на неспрыяльнае надвор'е, выдаў з бункера камбайна 482 тоны зерня, заняўшы першае месца ў раёне. У лютым наступнага года Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР перадавы механізатар калгаса "Запаветы Ільіча" М.Н. Ясінскі быў узнагароджаны ордэнам Працоўнай Славы ІІІ ступені.

Звыш 30 гадоў працаваў механізатарам Мікалай Несцеравіч. З ранняй вясны да позняй восені араў, сеяў, а летам сядаў за штурвал камбайна. Цяпло ўзаранай раллі, пах спелых зярнят, здавалася, дадавалі яму сіл. Да апошняга дня Ясінскі не страціў цікавасці да сваёй справы. І слава знайшла яго. У 33 гады Мікалай Несцеравіч атрымаў першую ўрадавую ўзнагароду — юбілейны медаль да 100-годдзя з дня нараджэння У.І. Леніна. Праз два гады яго праца была адзначана ордэнам "Знак Пашаны". Мікалай Ясінскі першы і адзіны ў раёне поўны кавалер ордэна Працоўнай славы. Мікалай Несцеравіч не аднойчы выходзіў пераможцам і на ворыве, і на жніве, удзельнічаў у рэспубліканскіх злётах перадавых механізатараў.

У сваім падарожжы мы міжвольна дасягнулі самага захаду раёна, а таму вымушаны вяртацца назад, каб патрапіць у вёсачку Хмялёўка, дзе доўга жыў наступны наш герой. Калі Ясінскі вядомы як кавалер ордэнаў Працоўнай славы, дык Макарэвіч уганараваны як носьбіт ордэнаў Славы баявой.

## *КАЛІ КРЭПАСЦІ ЗДАЮЦЦА БЕЗ БОЮ*

**МАКАРЭВІЧ Іван Емяльянавіч**

Нарадзіўся ў 1916 годзе ў горадзе Дэтройт, спадчынная зямля — вёска Хмялёўка

*Кавалер двух ордэнаў Славы*

У жыцці Івана Макарэвіча быў такі выпадак. Працаваў ён дырэктарам камунальнай гаспадаркі ў Жабінцы. Аднойчы паехаў з шафёрам у Белавежскую пушчу па бярвенні. Нагрузілі.

Дзень быў зімовы, стаяла непагадзь: завывала завіруха. Заблудзіліся, трапілі на заставу. Там сталі правяраць дакументы. У шафёра пашпарта не было, а ў Макарэвічавым значылася, што нарадзіўся ён у... Злучаных Штатах Амерыкі, у горадзе Дэтройт. Як дазваніліся ўЖабінку, разабраліся, адпусцілі...

Сапраўды, Іван Емяльянавіч нарадзіўся ў Дэтройце, куды ў 1916 годзе бацькі выехалі, каб зарабіць трохі грошай і вырвацца з нястачы, але ж зямлёю дзядоў, што клікала заўжды, была невялічкая жабінкаўская вёсачка Хмялёўка.

Бацька быў чалавек рашучы: не ўсё падабалася яму за акіянам. Емяльян прымаў удзел у забастоўках, дзе выстаўляліся патрабаванні павышэння заработнай платы, паляпшэння ўмоў працы. Такіх "вольнасцяў" амерыканскія ўлады даравацъ не маглі і ў адзін дзень адправілі Емяльяна і яго брата Нестара дамоў.

А ехаць не было куды: усё яшчэ ішла Першая сусветная вайна. Браты Макарэвічы падаліся ў Петраград, а адтуль — да дзядзькі ва Украіну. У родную Хмялёўку вярнуліся толькі ў 1921 годзе. Іван вучыўся добра, але далей пачатковай школы беларусам у буржуазнай Польшчы дарога была заказана. Гэта не задавальняла хлопца, і разам з сябрам Мікалаем Калішуком ён вырашыў перайсці мяжу і аказацца ў Савецкім Саюзе.

Пры пераходзе граніцы хлопцаў затрымалі польскія памежнікі. Былі допыты. Івану прыйшлося паўтара года адседзець у турме. Пасля гэтага яго забралі ў рэкруты. Муштравалі хлопца у артпалку, што стаяў у Седліцах.

У верасні 39-га года, калі на Польшчу напала Германія, Макарэвіч прымаў удзел у вызвольным руху. Сілы, аднак, былі няроўныя, і ў адным з баёў ён трапіў у палон. Беларусаў і ўкраінцаў абяцалі адпусціць, аднак выйшла наадварот, павезлі на захад і раздалі браўэрам у работнікі.

Прыйшоў чэрвень 1941 года. Германія напала на Савецкі Саюз, і надзея на вяртанне дамоў амаль знікла. Добра, што ў гэты час трапіўся Макарэвічу стары немец, які добразычліва адносіўся да рускіх, ён і купіў для беларуса білет на цягнік, які ішоў на ўсход. Родных Іван убачыў толькі восенню 1943 года.

У войта і старасты хапіла чалавечнасці не данесці пра вяртанне Макарэвіча. Хаця пашпарт яму выдалі толькі праз паўгода, калі пераканаліся, што немцы яго не шукаюць...

Жабінкаўскі раён вызвалілі ў ліпені 1944 года, а ў жніўні разам з братам Аляксандрам Макарэвіч быў прызваны ў войска. Баявое хрышчэнне прыняў у Польшчы. У баі за вёсачку пад Варшавай нямецкі снарад разарваў шарэнгу атакуючых. Загінула нямала, і брат Аляксандр таксама.

Івану ўдалося выжыць, хаця на Сандамірскім плацдарме ў дзень адбівалі да 15 атак фашыстаў, а ў ротах заставаліся 3-4 чалавекі. Мужнасць Івана Макарэвіча была адзначана ордэнам Славы ІІІ ступені.

Каля Лодзі нямецкі асколак зачапіў Макарэвічу нагу. Яго, аднак, не адправілі ў шпіталь, а пакінулі ў санроце. Капітан, камандзір палкавой разведкі, гэтае рашэнне патлумачыў так:

— Ніхто лепей за цябе, Іван, не ведае нямецкай мовы, і ў любы момант трэба, каб ты быў, як кажуць, пад рукою. А ў санроце цябе, я думаю, падлечаць...

Макарэвіч ужо без дапамогі мыліц хадзіў па палаце і чакаў, калі, нарэшце, выпішуць, як завітаў камандзір разведкі. Было гэта 19 лютага 1945 года.

— Ну, як, падлячылі цябе нашы дактары? — запытаў ён.

— Падлячылі. Ужо амаль не кульгаю.

— Ёсць да цябе, Іван, у нас пільная справа,— сур'ёзна сказаў капітан — Трэба дапытаць палоннага немца. Скора наступленне на форт. Неабходна выведаць агнявыя кропкі ў ворага. Ад гэтага будзе залежаць поспех аперацыі.

Немец меў выгляд неахайны: даўно не брыты, вочы слязіліся, рукі ліхаманкава дрыжалі, а вусны безупынку паўтаралі:

— Гітлер капут! Гітлер капут!

— Што вы робіце, каб спыніць гэту бойню? — па-нямецку спытаў у яго Макарэвіч.

— А што я магу зрабіць?! — адказваў гітлеравец.— Я — маленькі чалавек...

Тады Іван Емяльянавіч пачаў тлумачыць, якую дапамогу чакаюць ад яго. Немец ахвотна адказваў на пастаўленыя пытанні. Неўза-

баве стала ясна, якой сілай утрымліваецца форт, дзе размяшчаюцца кулямёты.

Вечарам пачалося наступленне. Вораг адкрыў адчайны агонь і прыйшлося залегчы. У Макарэвіча раптам з'явілася думка, якой ён падзяліўся з камандзірам, малодшым лейтэнантам Сініцыным:

— А што, калі яшчэ раз прапанаваць гітлераўцам здацца? Хай гэта зробіць сам палонны! Можа, паслухаюць?..

І вось немец, звяртаючыся да сваіх суайчыннікаў, гаворыць, што форт акружаны і выйсці з яго можна, толькі калі скласці зброю. Інакш цытадэль будзе знесена з твару зямлі. Апошнія яго словы былі такія:

— Паслухайце мяне! Гэта гавару я вам, салдат вермахта!

— Дайце падумаць! — пачулася ў адказ.

У гэты час пачынае гаварыць радавы Макарэвіч:

— Я — савецкі салдат! Я і наша армія жадаем аднаго, каб хутчэй закончылася гэтая кровапралітная вайна. Успомніце, што вы былі ля сцен Масквы і Сталінграда, захапілі Каўказ, трымалі ў "кальцы" Ленінград, а зараз вайна ідзе за межамі маёй краіны. Калі вы не здадзіцеся, будзеце знішчаны, і форт таксама, а так мы гарантуем вам жыццё.

З форта паведамілі, што гатовы весці перамовы. Парламенцёрам Сініцын паслаў Макарэвіча. Ніхто, і сам Іван Емяльянавіч, не быў упэўнены, што вернецца: а калі знойдзецца фашыст і застрэліць парламенцёра?

Не, абышлося. Перамовы вёў обер-лейтэнант.

— Мы тут перагаварылі,— сказаў ён,— і вырашылі здавацца, калі вы выканаеце нашы ўмовы.

— Якія?

— Вы не станеце расстрэльваць нашых салдат і афіцэраў, а параненым будзе аказана медыцынская дапамога.

Макарэвіч адразу па тэлефоне звязаўся з камандзірам: гарантыя была атрымана.

— І другая ўмова,— сказаў обер-лейтэнант.— Вы, салдат Чырвонай Арміі, першы скажаце нашым байцам аб неабходнасці здавацца.

І Макарэвіч гаварыў з нямецкімі салдатамі.

— Малайчына, баец! — пахваліў камандзір палка.— Дзякуй, што ўзялі крэпасць без бою. Два дні адпачынку табе за гэта. Не надта высокая ўзнагарода, але ж час, сам ведаеш, ваенны...

Узнагароду — ордэн Славы II ступені — уручылі І.Е. Макарэвічу 23 лютага 1945 года — у дзень Савецкай арміі і флоту.

Наперадзе былі яшчэ баі за Познань і Берлін. Так дайшоў Іван Емяльянавіч да сталіцы Германіі, да гітлераўскай канцылярыі, бачыў,

як сцвярджаў не раз, абгарэлы труп Гітлера. Дайшоў да Перамогі, каб застацца жыць і выконваць мірную справу.

Іван Макарэвіч быў дэмабілізаваны ў жніўні сорак пятага. Некалькі гадоў выкладаў нямецкую мову ўЖыцінскай сямігадовай школе. Пасля ў Брэсце скончыў школу майстроў-будаўнікоў, працаваў інжынерам, а затым узначаліў раённы камунгас. З гэтай пасады пайшоў на пенсію.

Але без справы ён сядзець не мог: у калгасе "Усход" узначаліў паляводчую брыгаду, кіраваў аднавяскоўцамі. Толькі хваробы ў рэшце рэшт прымусілі яго ісці на адпачынак. Іван Емяльянавіч быў заўсёды жаданы госць у моладзі, у вучняў.

Памёр Іван Емяльянавіч Макарэвіч 30 жніўня 1996 года, не дажыўшы некалькі месяцаў да свайго 80-годдзя.

Распавёўшы пра слаўнага ветэрана, мы павольна працягваем шлях па Жабінкаўшчыне, каб апынуцца ў невялікай вёсачцы Лойкі, дзе гадаваўся і пачынаў сваю жыццёвую дарогу наступны наш герой. Ён чалавек мудры, вопытны. Можа, ведае адказы на складаныя жыццёвыя пытанні?..

## *ШТО СТАЛА ЛЕПШЫМ У ЖЫЦЦІ*

**АСТРОЎСКІ Уладзімір Іванавіч**

Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Лойкі

*Кандыдат медыцынскіх навук, загадчык урачэбнага аддзялення Беларускага НДІ туберкулёзу, урач Рэспубліканскага клінічнага шпіталя інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны*

Усё ў жыцці дасягаецца дзякуючы намаганням, веры ў свае сілы і здольнасці. Гэтую ісціну цудоўна разумеў выпускнік Арэпіцкай школы, што абраў для сябе шлях медыка,— Уладімір Астроўскі.

Нарадзіўся ён у канцы мая 1938 года ў Лойках і з'яўляецца, відаць, самым вядомым ураджэнцам гэтай маленькай вёсачкі, размешчанай недалёка ад дарогі, якая цягнецца з Жабінкі на старажытны Камянец.

Пасля завяршэння вайны маленькі Валодзя пайшоў вучыцца ў блізкія Сцяпанкі, дзе тады месцілася пачатковая школа, а ў 1949 навучальным годзе пераступіў парог Арэпіцкай школы.

Менавіта тут у падлетка зарадзілася мара стаць урачом, каб дарыць людзям здароўе і радасць жыцця, пазбаўленага болі і нясцерпных пакутаў.

Для выканання гэтай мары, якая спачатку здавалася фантастычнай, будучы доктар павінен быў прайсці ўсе ступені ведаў. Заўважым, што свой шлях да гэтых вяршынь Уладімір Астроўскі пачынаў у тыя часы, калі ў Арэпіцкай школе яшчэ працаваў яе першы дырэктар і заснавальнік Цімафей Карнілавіч Лось, які надзвычайную ўвагу на сваіх занятках аддаваў медыцынскім пытанням.

Пагэтаму зусім не выпадкова, што сярод нашчадкаў і выхаванцаў настаўніка так шмат людзей, што абралі для сябе высакародную прафесію ўрача.

Уладімір Іванавіч, паступаючы ў 1955 годзе ў Брэсцкае медыцынскае вучылішча, вырашыў стаць адным з іх. Затым быў Гродзенскі медыцынскі інстытут. Пасля заканчэння гэтай вядомай у краіне вышэйшай навучальнай установы малады ўрач некалькі гадоў працаваў загадчыкам хірургічнага аддзялення бальніцы ў Мікашэвічах.

1969 год шмат у чым стаў пераломным у лёсе Астроўскага. Ён вырашыў сур'ёзна прысвяціць сябе навуцы, паступіўшы ў клінічную ардынатуру пры кафедры уралогіі Мінскага дзяржаўнага медыцынскага інстытута.

Праз дзесяць гадоў Уладімір Іванавіч абараніў кандыдацкую дысертацыю па медыцыне, пасля чаго ў 1980 годзе стаў загадчыкам

уралагічнага аддзялення Беларускага навукова-даследчага інстытута туберкулёзу. Цяпер працуе ў Рэспубліканскім клінічным шпіталі інвалідаў Вялікай Айчыннай вайны імя Пятра Машэрава ў Мінску.

Даўно жыве Уладзімір Іванавіч у беларускай сталіцы, але ўсё, што звязана з малой радзімай, і сёння хвалюе доктара.

Расказала жыхарка вёскі Падлессе Ніна Мікалаеўна Кітаеўская. Яе муж, Аляксей Ануфрыевіч, удзельнік вайны, летась трапіў у клінічны шпіталь. Калі Астроўскі даведаўся, што новы пацыент з Жабінкаўскага раёна, доўга распытваў пра мясціны, знаёмыя з дзіцячай пары, усё зрабіў для таго, каб ветэран хутчэй стаў на ногі.

Калі Кітаеўскі выпісваўся, Астроўскі прыйшоў праводзіць яго. Любоў да роднай зямлі ў яго цесна злучылася з чуласцю да чалавека. Без гэтага, лічыць Уладзімір Іванавіч, урач не можа адбыцца.

Калі доктара Астроўскага неяк спыталі, што стала галоўным яго дасягненнем і радасцю ў жыцці, ён адказаў сумленна:

— Добрая, моцная сям'я.

Так склалася, што Уладзімір Іванавіч стаў не адзіным з выпускнікоў Арэпіцкай школы, што раз і назаўсёды абраў для сябе ўрачэбную дарогу. Наступныя два нашы знаёмцы, пра якіх расказ ніжэй, таксама праславіліся як людзі ў белых халатах.

## *АФРЫКАНСКІЯ АДЫСЕІ*

**ВАШЧУК Васіль Васільевіч**

Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Сцяпанкі

*Кандыдат медыцынскіх навук, хірург-практык, кіраўнік групы савецкіх урачоў у Бурундзі, дацэнт кафедры медыцыны Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна*

Беларусы — вядомыя ў свеце падарожнікі. Цяга да нязведанага, да адкрыццяў жыве ў нашай крыві. Ужо ў XX стагоддзі дактары Мікалай Судзілоўскі-Русель і Юрый Сянкевіч яскрава пацвердзілі гэта. У спісе вядомых пілігрымаў ёсць імя і нашага земляка. Можа, калі-небудзь у Сцяпанках з'явіцца ўказальнік: "5777 кіламетраў — дарога ад Сцяпанкаў да экватара". І гэта стане ўганараваннем ураджэнца невялічкай вёсачкі, які выйшаў у вялікі свет. Ён першы з жабінкаўцаў дасягнуў экватара.

Сёння жыццёвая мудрасць гучыць у кожным слове доктара Вашчука. Шмат краін ён бачыў, але ў сталым узросце вярнуўся на радзіму. Зараз нетаропка згадвае сваё жыццё, быццам гартае ненапісаны дзённік.

Нарадзіўся ў маі 1931 года. Паўтарыў бацькава імя. Быў у сям'і Васіль-вялікі, а дадаўся яшчэ і малы Васілёк.

Род Вашчукоў вызначаўся адукаванасцю, узгадаваў не аднаго таленавітага ўрача. Нават просты пералік імёнаў атрымаецца вельмі ўнушальным. Васілёў дзядзька Міхаіл некалі займаў прафесарскую кафедру ў Харкаве, а стрыечны брат Данііл Крыўчэня — акадэмік, галоўны дзіцячы хірург Украіны.

Дадамо яшчэ, што ў родзічах да Вашчукоў лічыцца таксама вядомы хірург, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь Рыгор Шорах. Залатыя ж рукі самога Васіля Васільевіча зрабілі тысячы аперацый, ён стаў кандыдатам медыцынскіх навук, выкладаў у старадаўнім Львове, а цяпер — у Брэсце. І, нарэшце, ягоны шлях паўтарыўся ў сыне Усеваладзе: той таксама абараніў дысертацыю і не адзін год ратуе жыцці людзей ды выхоўвае сабе пераемнікаў- хірургаў у Львоўскім медыцынскім універсітэце.

Вытокі такой "сямейнасці" Васіль Васільевіч выводзіць ад пісьменнага, дапытлівага, мудрага ад самой зямлі дзеда Ціхана Кірылавіча. Ягоны запавет пра сілу навукі ўспрыняў бацька — Васіль Ціханавіч Вашчук. Той атрымаў вышэйшую эканамічную адукацыю. За польскім часам, хоць і валодаў мовамі і меў жаданне працаваць па спецыяльнасці, але мусіў займацца будаўніцтвам.

Васіль Ціханавіч стаў сябрам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі, за што папакутаваў, увязнены на восем гадоў у турме. Калі ж у верасні 39-га прыйшла Савецкая ўлада, Васіля-старэйшага спасцігла расчараванне. У райкаме партыі яму рэзка сказалі:

— Хоць і быў ты ў камуністах, але не ў тых, што трэба!

Хутка расчараванне саступіла месца жаху: Васілёў брат быў рэпрэсіраваны і не вярнуўся з казахстанскіх стэпаў.

Усё гэта адбывалася на вачах у Васіля-малодшага. Усё гэта ён прапусціў праз сваю свядомасць. Новым узрушэннем сталі часы акупацыі: ад хваробы памерлі два браты. Менавіта гэта падказала Васілю, якой дарогай далей ісці.

Спачатку ён вучыўся ў школе ў Жабінцы, а заканчваў дзесяцігодку ў Брэсце. За дыпломам медыка паехаў ва Украіну. З 1956 года — ужо на працягу паўстагоддзя! — ён, як тытул, носіць імя доктара. Менавіта тады, скончыўшы Харкаўскую ваенна-медыцынскую акадэмію, пачаў працаваць ардынатарам хірургічнай медсанчасці ў Групе савецкіх войск у Германіі. Затым яго чакаў цудоўны Львоў — гістарычны цэнтр навукі. І тут у жыццё, заўсёды шчодрае на падарункі, умяшаўся лёс, які рэзка змяніў дарогу.

Яму было ўжо амаль сорак гадоў, калі дзеля справы спатрэбілася ўзняцца яшчэ на адну жыццёвую вяршыню. Ішоў адбор на працу ў "чорную" Афрыку. Патрабаваўся класны хірург, які валодае французскай мовай. І Васіль Васільевіч усяго за восем месяцаў здолеў вывучыць зусім невядомую раней мову! Ды так дасканала, што змог пісаць на ёй нават кнігі... Пісаў яшчэ і па-руску, і па-ўкраінску. У сваіх працах (а іх назбіраецца ўжо амаль дзве сотні) доктар Вашчук выкладаў свае погляды на жыццё і медыцыну.

Васіль Васільевіч мае тры вынаходніцтвы на важныя медыцынскія праблемы. Сярод 50 навуковых работ, апублікаваных за мяжой, 20 прысвечаны пытанням СНІДу. Ім была створана першая ў Садружнасці Незалежных Дзяржаў манаграфія "СНІД у хірургічнай клініцы".

Такім чынам, менавіта ў гэтым складаным і пакуль не разгаданым да канца пытанні вучоны са Сцяпанак займеў сусветны аўтарытэт.

Найлепшыя, самыя цёплыя ўспаміны пакінулі ў жыцці Васіля Васільевіча паездкі ў Афрыку. Далёка не кожны наш зямляк дазволіць сабе прагуляцца па... экватары, пабачыць экзатычныя краіны, дакрануцца да невядомых звычаяў і традыцый.

Асабліва шмат добрых успамінаў Захаваў Вашчук з 1985-1988 гадоў — з часоў апошняга свайго экватарыяльнага падарожжа. Пасля Малі і Конга яго чакала адказная і складаная работа ў невялічкай

краіне Бурундзі, размешчанай на ўзбярэжжы велічнага возера Танганьіка.

У гэтую самабытную дзяржаву Васіль Вашчук быў прызначаны кіраўніком групы савецкіх урачоў і адначасова — хірургам-кансультантам. Там ён зрабіў безліч аперацый. Уся група, якая складалася з дваццаці спецыялістаў, працавала самаадцана, з вялікім інтарэсам. Доктар Вашчук не аднойчы прызнаваўся ў сваім захапленні да Бурундзі, а пра свой "афрыканскі раман даўжынёй у тры гады" расказвае ахвотна, часам з пэўным гумарам:

— Працавалі многа. Пазней, калі вярнуўся дамоў, паспрабаваў падлічыць, колькі ж аперацый правёў у Бурундзі. Атрымалася, што за тры гады — болей за дзве з паловай тысячы! Былі аперацыі зусім экзатычныя для нас, але звычайныя для Афрыкі. У мяне, напрыклад, было 16 пацыентаў, пакалечаных бегемотамі. Хуткасць гэтай жывёліны проста ўражвала. Бегемот нясецца, як танк, і гора таму, хто выпадкова патрапіцца на ягоным шляху!

Бурундзі, вачамі доктара Вашчука,— цудоўнейшая краіна гор, пакрытых чайнымі і кафейнымі плантацыямі...

Краіна трапічных лясоў, сярод якіх трапляліся, быццам у напамін пра далёкую радзіму, сасновыя бары з маслякамі...

Краіна, дзе абагаяўляюць жывёлу і карову маюць права даіць толькі мужчыны...

Краіна, дзе вялікім шчасцем лічыцца нараджэнне дзіцяці і шматдзетнасць — знак поспеху, а таму жанчыны нараджаюць ледзь не кожны год...

— Можа, вам будзе нечакана даведацца, — заўважае Васіль Васільевіч,— але бурундзійцы нараджаюцца... са светлай скураю. Толькі праз паўгода набываюць сваю чорна-карычневую "афарбоўку". Імя дзіця атрымлівае яшчэ пазней, бо лічыцца, калі за першы год яно не памрэ, дык і надалей будзе жыць, тады і імя спатрэбіцца.

Вялікая смяротнасць — сумная прыкмета маленькай краіны, якая і сёння займае адно з першых месцаў у свеце па колькасці забалелых на СНІД. І Васіль Васільевіч разам са сваімі калегамі быў ледзь не першы, хто рабіў аперацыі хворым, якім быў пастаўлены гэты страшны дыягназ. Словам, ён быў сярод тых, хто, падпарадкаваны клятве Гіпакрата, рабіў усё магчымае, каб аблегчыць пакуты нават самых безнадзейных пацыентаў.

Да гэтага часу Вашчук помніць, як лепшую ўдзячнасць, некалі пачутыя з вуснаў міністра аховы здароўя Бурундзі словы:

— Вы, урачы, а не палітыкі, але сваёй працай робіце вялікую палітыку.

За выкананне прафесійнага абавязку па аказанні медыцынскай дапамогі насельніцтву Рэспублікі Бурундзі Васіль Васільевіч узнагароджаны знакам "Выдатнік аховы здароўя".

...І сніцца яму часта Афрыка — яркая, самабытная зямля, напоўненая спевамі вечаровых цыкад.

— Успамінаю яе з задавальненнем і ўдзячнасцю,— заканчвае свой аповяд беларускі доктар і дадае: — Але самае галоўнае, я ўпэўнены, што тысячы жыхароў далёкай краіны, чые жыцці выратавалі савецкія ўрачы, не з меншай удзячнасцю ўспамінаюць пра нас.

## *ЛЯ ВЯРШЫНЬ МЕДЫЦЫНЫ*

**ШОРАХ Рыгор Паўлавіч**

Нарадзіўся ў 1930 годзе ў вёсцы Налезнікі

*Прафесар шпітальнай хірургіі, заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь*

У сям'і Шорахаў марылі аб прафесіі ўрача. І бацька, і дзед, і прадзед, маючы невялікі надзел зямлі, рупіліся абрабляць яго так, каб сям'я не галадала. Хоць хлеба ўсё адно не хапала на цэлы год. Таму Рыгор Паўлавіч цалкам мае права пачынаць сваю аўтабіяграфію словамі: "Нарадзіўся я 30 сакавіка 1930 года ў вёсцы Налезнікі ў беднай сялянскай сям'і. Мае дзяцінства і маленства прыйшліся на цяжкія ваенныя і пасляваенныя гады".

Патрапіўшы пасля школы ў Мінскі медыцынскі інстытут, Рыгор Шорах мог спадзявацца толькі на ўласныя сілы і на стыпендыю. Калі юнак прыязджаў да бацькоў у вёску, мог ўзяць з сабою зусім няшмат ежы — усім было нялёгка, і "аб'ядаць" родных ды сядзець у іх на шыі гонар не дазваляў.

У 1954 годзе Рыгор Паўлавіч Шорах пэўны час загадваў Красні-нскім сельскім урачэбным пунктам на Магілёўшчыне, потым быў пераведзены хірургам у Клічаўскую раённую бальніцу. Надзвычай многа дала штодзённая практыка маладому ўрачу. А ў хуткасці Рыгор Паўлавіч сур'ёзна задумаўся аб працягу навучання. Паспяхова здаў кандыдацкі мінімум і патрапіў у аспірантуру пры кафедры факультэцкай хірургіі роднага Мінскага мединстытута. У час вучобы актыўна працаваў над выбранай тэмай, што пазней стала асновай кандыдацкай дысертацыі, якую Шорах паспяхова абараніў у 1961 годзе. Былі заўважаны памкненні маладога вучонага аб'ядноўваць тэарэтычныя веды з практыкай, і яго запрашаюць асістэнтам кафедры агульнай хірургіі. Рыгор Шорах пачаў актыўна друкавацца ў навуковых медыцынскіх часопісах. Неўзабаве яму было прысвоена званне дацэнта.

І ў той самы час, не жадаючы спыняцца на дасягнутым, Рыгор Паўлавіч пачынае працаваць над доктарскай дысертацыей. ён дасканала авалодаў навыкамі ўздзеяння на ўнутраныя органы чалавека. Практычная хірургія, якой вучоны займаўся ўвесь час, была пакладзена ў аснову навуковай работы, якую Шорах бліскуча абараніў у 1975 годзе, стаўшы чарговым выпускніком невялічкай Арэпіцкай школы, які дасягнуў самых вяршыняў навук.

У год свайго пяцідзесяцігоддзя, калі чалавек бывае ў стане падвесці некаторыя папярэднія вынікі жыццёвага шляху, Рыгор Паўлавіч Шорах атрымаў доўгачаканую і заслужаную ўзнагароду — званне прафесара госпітальнай хірургіі. У клініцы, узначаленай прафесарам Шорахам, упершыню ў нашай краіне былі праведзены эндаскапічныя аперацыі — аперацыі без скальпеля. Адначасова на конкурснай аснове наш зямляк абіраўся загадчыкам кафедры прыкладной хірургіі Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў.

У навуковым свеце Рыгор Паўлавіч лічыцца эрудзіраваным педагогам, ён не толькі выступае з лекцыямі, заснаванымі на новых адкрыццях айчыннай і замежнай хірургіі, але ўжо і сам паспеў апублікаваць больш за 200 навуковых работ. Увесь час вучоны бярэ ўдзел у рэспубліканскіх і міжнародных канферэнцыях, з'ездах медыкаў-хірургаў. Шорах праводзіць вялікую грамадскую работу, будучы старшынёй праўлення таварыства хірургаў горада Мінска і сябрам праўлення беларускага рэспубліканскага таварыства, а таксама намеснікам старшыні Савета па абароне доктарскіх і кандыдацкіх дысертацый па хірургіі.

За значны ўклад у медыцыну, за вернае служэнне ёй Рыгор Паўлавіч Шорах узнагароджаны медалём, што носіць імя таленавітага ўрача- наватара Мікалая Пірагова. Доктару, што выйшаў з палескай глыбінкі, было прысвоена ганаровае званне «Заслужаны дзеяч навукі Рэспублікі Беларусь». А ў 2000 годзе ён быў абраны сапраўдным членам Акадэміі медыцынскіх навук. Усё было дасягнута дзякуючы старанням і веры ў свае сілы.

## *НАСТАЎНІК І ЯГО ШКОЛА*

### ЛОСЬ Цімафей Карнілавіч

Нарадзіўся ў 1880 годзе ў вёсцы Арэпічы

*Настаўнік, заснавальнік і першы дырэктар Брэсцкай рускай гімназіі і Арэпіцкай сярэдняй школы*

На лясной паляне рос дуб-волат. Колькі ён меў гадоў, сказаць цяжка. Пад яго каронай падрасталі маладыя дубкі ды бярозкі, ён бярог іх у непагадзь. Потым прыйшлі беды-няшчасці і знішчылі старое дрэва, а маладняк дружна пацягнуўся ўверх, каб прадаўжалася жыццё…

Так і ў сям'і Ласёў. У Карнілія Еўдакімавіча і Агрыпіны Давідаўны было шмат дзяцей, і як ні было часам цяжка, гаспадары хутара Антанін, размешчанага каля Арэпічаў, разумеючы сілу навукі, стараліся даць нашчадкам добрую адукацыю. І першым з Карніліева гнязда выляцеў старэйшы сын Цімафей Лось. На парозе 1900 года, калі адначасова святкавалася нараджэнне новага дня, года і стагоддзя, Цімафей паспяхова закончыў курс навук у Свіслацкай семінарыі, атрымаўшы паважанае званне народнага настаўніка. Выкладаў грамату вясковым дзецям у суседніх Агародніках. Яго стараннасць хутка знайшла высокую ацэнку: пра маладога настаўніка пачала згадваць прэса.

З'явілася ўпэўненасць у сваіх сілах. І просты вясковы хлопец неўзабаве дабраўся да Санкт-Пецярбурга. Прыехаў у тагачасную сталіцу, каб вучыцца, і апынуўся ў новым незнаёмым свеце: быццам з ціхай палескай затокі выйшаў на невялічкім чоўне ў адкрыты акіян, поўны бур, рыфаў і шквальных вятроў…

Ён меў дзёрзкія мары, хацеў атрыманыя веды несці простаму люду, дасягнуць поспехаў, нават славы на настаўніцкай ніве. Ніву хлебную стагоддзямі абраблялі яго продкі, а ён вырашыў пачаць новы пасеў! Каб яго нашчадкі сталі вучонымі і педагогамі.

1910 год стаў асаблівым у жыцці Цімафея Лася: ён патрапіў на гуманітарны факультэт Пецярбургскага універсітэта і сустрэў будучую жонку Шуру Сталярову.

У суровыя гады Першай сусветнай вайны маладая сям'я зведала ў поўнай меры жыццёвыя цяжкасці. Яны беглі, ратаваліся ад голаду. Цімафей перавёз жонку і дзяцей Лідзію і Лявона на Віцебшчыну, дзе ўладкаваўся выкладчыкам Веліжскай гімназіі. А неўзабаве прыехаў у родныя мясціны, дзе сустрэў сваю сям'ю, што вярнулася з бежанцаў. Ласі заўсёды стараліся трымацца адзін за аднаго. Так лягчэй было дзяліць і гора, і радасці.

У 1921 годзе ў лёсе Цімафея Карнілавіча адбыліся значныя змены. Ён стаў першым дырэктарам Брэсцкай рускай гімназіі. Пры ім у вучэльні з'явіліся асобныя кабінеты фізікі і біялогіі, некалькі лабараторый і гімнастычная зала. Хутка гімназіяператварылася ў сапраўдны культурны цэнтр горада над Бугам.

У 20-ыя гады за палітычную дзейнасць Лось спачатку быў пазбаўлены дырэктарскай пасады, а потым і выгнаны з вучэльні. У духоўнай кансісторыі, куды звярнуўся беспрацоўны настаўнік па дапамогу, аднесліся са спачуваннем да яго праблем. Цімафея прызначылі псаломшчыкам царквы ў Драгічыне. Але ж, адарваны ад дома, ад сям'і, ён хутка засумаваў. Лось папрасіўся бліжэй да родных мясцін і апынуўся ў Сцяпанках, а потым і ў Арэпічах.

Неспадзявана ў вёску, акружаную з усіх бакоў лесам, уварвалася вайна. Ласі дапамагалі тым, каго напаткала суровае ліхалецце. У іх доме, напрыклад, знайшла прытулак сям'я "ўсходнікаў" Прасняковых, якія вырваліся з палаючага Брэста.

Цімафей Карнілавіч ніколі не забываў пра свет навукі. Нават у змрочныя часы акупацыі нёс веды вясковым дзецям. Чалавек высокаадукаваны, ён марыў пра аднаўленне роднага краю. Пагэтаму, як толькі прыйшло вызваленне, Лось пачаў клапаціцца пра адкрыццё ў Арэпічах школы. Яму было ўжо 64 гады, калі ён зноў быў назначаны дырэктарам, выкладаў замежную мову і рускую літаратуру.

На будаўніцтве школы працавалі і настаўнікі, і бацькі, і школьнікі. Прапусціць работу было так жа немагчыма, як урокі. І тут узорам, здаецца, быў Цімафей Карнілавіч: ён, нягледзячы на паважаны ўзрост, сядзеў з сякерай на зрубе, зачэшваючы вуглы. Быццам узводзіў сваю школу.

Вучэбны год пачалі з кастрычніка, але старанныя настаўнікі і вучні дагналі прапушчанае.

— Урокі, якія вёў Цімафей Карнілавіч,— успамінае былы яго выхаванец Рыгор Будзько,— былі вельмі цікавыя. Памятаю, як пасля вывучэння апавядання Антона Паўлавіча Чэхава "Іоныч", ён задаў пытанне: "Ці ёсць сярод нас такія Іонычы?" Клас раздзяліўся на дзве часткі. Адныя сцвярджалі, што ў нашым грамадстве няма месца для з'яўлення такіх бяздушных эгаістаў. Другія гаварылі, што яны ўсё ж сярод нас сустракаюцца, але з імі патрэбна змагацца. Настаўнік падтрымаў другіх і адразу — наступнае пытанне: "А як трэба змагацца з Іонычамі?" Усе прыйшлі да высновы, што трэба іх перавыхоўваць. І ў будучым яны стануць іншымі. Пытанняў, якія застаўлялі нас думаць, разважаць, у Цімафея Карнілавіча было вельмі шмат...

За гады існавання Арэпіцкай сярэдняй школы з яе сцен выйшла звыш паўтысячы навучэнцаў. Пачатковую ступеньку ведаў невялічкая школка на ўскрайку раёна дала многім будучым вучоным, ваенным, проста добрым людзям.

Сам Цімафей Карнілавіч працаваў да пачатку пяцідзесятых гадоў, пакуль цяжкая хвароба не прымусіла яго пайсці на адпачынак. У 1953 годзе настаўнік памёр, але пакінуў пасля сябе вялікую памяць — у вучнях, выхаванцах, дзецях і ўнуках, што жывуць цяпер у Беларусі і Польшчы, Расіі і ЗША, Францыі і Кітаі. Кожны з іх пасвойму стаў прадаўжальнікам велічнага сямейнага дрэва, узбагачаючы яго пладамі рук сваіх, падтрымліваючы традыцыі, закладзеныя некалі вядомым мудрым продкам, "на карысць сваю і тых краін, у якіх ім суджана было пасяліцца".

А ў родных Арэпічах дасюль існуе школка, што дае веды новым пакаленням маленькіх арэпічан. І стаіць яна на вуліцы, якая носіць імя Цімафея Ладя.

Недалёка знаходзіцца хата вучня Ладя, які неаднойчы з цеплынёй успамінаў добрага настаўніка. Рыгор Будзько сваё жыццё прысвяціў адной і нязменнай дарозе, вельмі патрэбнай людзям.

## *ЯГО НЯЗМЕННАЯ ЛЮБОЎ*

**БУДЗЬКО Рыгор Рыгоравіч**
Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Арэпічы
*Сябра Саюза архітэктараў Беларусі*

Вясна толькі пачыналася. Зранку выглянула сонца. Яно з'ядала лёд, а ў зацішку, куды не маглі трапіць промні, лапікамі яшчэ ляжаў снег. Сонца зазірнула і ў пакой, дзе Рыгор Будзько чарціў праект забудовы ў Брэсце. Стала цёпла і хораша. Раптам дзверы адчыніліся і на парозе з'явіўся высокі, шырокі ў плячах чалавек, ён зняў акуляры, працёр, зноў надзеў, шукаючы, напэўна, яго, Рыгора. Заўважыў ля чарцёжнай дошкі, усміхнуўся і пайшоў напрасткі, несучы руку, каб паздароўкацца:

— Добры дзень, землячок!

Будзько ведаў яго: не раз сустракаліся. Гэта быў старшыня Жабінкаўскага райвыканкама Адольф Янавіч Аболін.

"Прасіць будзе",— здагадаўся архітэктар.

І сапраўды:

— Ці не мог ты, Рыгор Рыгоравіч, дапамагчы роднаму раёну?

— А што такое?

— Школа ў нас — дрэнь! — сказаў Адольф Янавіч.— Трэшчыны ў столі. У любы момант можа накрыць дзяцей, а грошы на пабудову новай не даюць: кажуць, няма ў вас праекта, а значыць, няма што і фінансаваць. Грошы перакінулі на іншыя раёны. Вось і атрымоўваецца заваражанае кола. Была б праектна-каштарысная дакументацыя — грошы, думаю, знайшліся б. За год мы ўзвялі б школку.

— Добра, як закончу гэты праект, вазьмуся і за праектаванне ў Жабінцы,— паабяцаў Будзько.

— Зрабі, калі ласка, па-зямляцку,— напомніў старшыня.— То ж для дзяцей.

Не трэба было і напамінаць. Рыгор Рыгоравіч гэта разумеў сам. І думкі павялі яго ў дзяцінства, калі быў вучнем. Пачынаў вучобу яшчэ за польскім часам. Потым была руская школа. Да вайны паспеў закончыць у агульнай складанасці тры класы. Затым быў перапынак, а ў сорак чацвёртым пайшлі вучыцца ў бараку. Цемнавата, з лямпамі. Зараз трэба было зрабіць, каб у дзетак былі прасторныя класы і шмат святла.

— А дзе вы збіраецеся зацвердзіць праект? У нас зацвярджаюцца толькі планавыя,— пацікавіўся Будзько.

— Яшчэ не думалі. Будзем шукаць выйсце.

— І тут я вам, мусіць, памагу, Адольф Янавіч,— сказаў дойлід.— Я член Саюза архітэктараў, узначальваю абласное аддзяленне Саюза. Зраблю праект і пастараюся яго зацвердзіць у Мінску.

На гэтым яны рассталіся. Будзькоў праект быў здзейснены: у Жабінцы ў самым пачатку 70-х гадоў з'явілася новая школа...

Калі вы ўязджаеце ў Брэст і ў мікрараёне "Усход" бачыце шырокія вуліцы і сучасныя забудовы, наўрад ці здагадваецеся, што тут увасоблены задумкі нашага земляка — на той час галоўнага архітэктара праектнага інстытута "Брэстграмадзянпраект" Рыгора Будзько.

Рыгор Рыгоравіч пакінуў пасля сябе нямала помнікаў з каменя, жалеза і шкла. Пра адзін з іх раскажам асобна.

Галоўны корпус Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта імя А.С. Пушкіна быў узведзены ў пачатку 80-х. Вокны вялікія, светлыя. Аўдыторыі прасторныя, вельмі прыдатныя для заняткаў. Як і планавалася.

Да іх, сваіх лепшых праектаў, Рыгор Рыгоравіч ішоў усё жыццё — ад апошняга званка ў Арэпіцкай сярэдняй школе, што прагучаў у 1951 годзе для тых, чыё дзяцінства было перакрэслена вайной. Было яму ўжо дваццаць поўных гадоў, а Рыгор так і не ведаў, чым будзе займацца. Шмат хацелася паспрабаваць, але канкрэтнасці не было.

У класе вучыліся тры заўзятыя сябры: на любым перапынку іх бачылі разам: Рыгор Будзько, Аркадзь Кандрашук і Павел Стасюк. З іх часам жартавалі:

— Ідуць тры танкісты!

Аднойчы Павел прынёс выразаную з газеты аб'яву, дзе Львоўскі політэхнічны інстытут запрашаў выпускнікоў на вучобу.

— Во куды паедзем паступаць! — сказаў сябрам Павел Стасюк. Адразу аргументаваў сваю думку: — Там поўдзень і трохі цяплей, чым у нас, і людзі больш заможныя. А галоўнае, якія спецыяльнасці можна атрымаць!

Паслалі хлопцы дакументы. Аркадзь выбраў прафесію інжынера-будаўніка, Павел захацеў праектаваць дарогі, а Рыгор паступіў на факультэт "Архітэктура".

Вучыліся, не забывалі адзін пра аднаго, хаця з'явіліся і новыя сябры, з якімі наведвалі лекцыі ды практычныя заняткі. А пасля заканчэння вучэльні разляцеліся хто куды: Павел трапіў у Адэсу — у інстытут праектавання мастоў, Аркадзь стаў працаваць у тэхнікуме ва Украіне, а Рыгора ўгаварыў Леанід Улейка ехаць працаваць у Гродзенскі філіял інстытута "Белдзяржпраект". Сам Леанід паходзіў з горада над Нёманам і ведаў, што там патрэбны спецыялісты. З імі паехаў і Іван Магнічка, які быў родам з Закарпацця. Так ужо атрымаецца, што пазней Улейка вернецца ва Украіну, Будзько пакліча

родная Берасцейшчына, а хлопец з Закарпацця назаўжды застанецца ў Гародні...

Але гэта будзе трошкі пазней, а пакуль усе трое працавалі поруч. Тым часам закончыў Арэпіцкую школу і малодшы Рыгораў брат — Глеб Будзько. Паспрабаваў свае сілы, паступаючы ў інстытут, але не прайшоў па конкурсе і паехаў да Рыгора ў Гродна. Старэйшы брат прапанаваў, каб не губляць года, паступіць у школу дзесятнікаў-будаўнікоў:

— А захочаш быць інжынерам ці праекціроўшчыкам, дык пазней паступіш на завочнае,— павучаў Рыгор Глеба.

Меншы брат стаў памагаць старэйшаму. Пазней Глеб завочна закончыць Маскоўскі інжынерна-тэхнічны інстытут. Дагэтуль ён працуе галоўным інжынерам праектаў у інстытуце "Гроднаграмадзянпраект".

А Рыгор Рыгоравіч Будзько, вярнуўшыся ў 1961 годзе ў горад над Бугам, амаль два дзесятка гадоў адпрацаваў у "Брэстграмадзянпраекце", а затым быў галоўным архітэктарам інстытута "Брэстсельгасбудпраект".

Сёння цяжка знайсці раён у Брэсцкай вобласці, дзе б не ўзводзіліся дамы, спраектаваныя Рыгорам Будзько. Ёсць яны ў Пінску і Пружанах, Івацэвічах і Маларыце, Кобрыне ды Іванаве. Пад яго непасрэдным кіраўніцтвам спраектаваны сядзібы пасёлкаў Мухавецкі, Астрамечава, Белавежскі, Жамчужны, Матыкалы.

— Але пастаянная і нязменная мая любоў — Жабінкаўскі раён,— гаворыць Рыгор Рыгоравіч. — Адсюль я пайшоў у свет, тут я спраектаваў многае. І пачалося ўсё нават не з той першай гарадской школы, пра якую я расказваў, а трохі раней, як рашылі аднавіць помнік воінам і партызанам у Жабінцы. І пліта, на якой выбіты імёны загінуўшых, і Вечны агонь раней з'явіліся на паперы. Пасля былі забудова мікрараёна, што насупраць бальніцы, індывідуальныя пабудовы ў раёне Свята-Пакроўскай царквы, Дома культуры...

З праектаваннем Дома культуры ў Жабінцы паўтарылася амаль тая ж гісторыя, што была і са школай. Тэрмінова спатрэбілася праектна-каштарысная дакументацыя, і загадчык аддзела культуры Аляксандр Крыўчэня прыйшоў з просьбай да былога арэпіцкага вучня.

Будзько выслухаў Аляксандра Фёдаравіча, паабяцаў дапамагчы. Потым на месцы Рыгор Рыгоравіч сказаў:

— Тут праглядаецца плошча і цэнтр горада. У гэтым месцы варта "пасадзіць" Дом Саветаў, як у Пінску ці Івацэвічах, у гэтым — Дом культуры, а тут яшчэ адзін адміністрацыйны будынак. Будзе і плошча, і выхад у парк.

Тым адміністрацыйным будынкам стане раённы вузел сувязі, а да пабудовы Дома Саветаў справы так і не дайшлі.

Дойлід пакінуў свой след на карце нашага раёна. Ім былі спраектаваны школы ў Крыўлянах і Хмелеве. Калі ў Арэпічах нечакана ўзнік пажар і згарэла старая драўляная "польская" школа, работнікі раённага аддзела адукацыі звярнуліся ў "Брэстграмадзянпраект" з просьбай, каб праверылі аддадзены гаспадаркай пад школу недабудаваны дом. Рыгор Будзько выязджаў на месца і ацаніў, што фундамент моцны і вытрымае дабудову другога паверха. І сёння школа-сад звініць дзіцячымі галасамі.

Пазней, калі пайшоў на пенсію, Рыгор Будзько аказваў дапамогу праектамі інстытуту "Брэстсельбудпраект", сустракаўся з калегамі. Праектаваў, напрыклад, жылыя домікі ў Вярхах і Крыўлянах, Грабаўцах і Пшанаях. ..

Хаця Рыгору Рыгоравічу ўжо больш 75 гадоў, ён не можа сядзець без справы. Часта пакідае шумлівы Брэст і прыязджае ў родныя Арэпічы. Тут жыве яго сястра Вольга Рыгораўна Кухарчук. Любіць Будзько пакапацца ў зямлі, адпачыць душою.

Ёсць яшчэ адна пастаянная любоў у Рыгора Рыгоравіча Будзько — гэта песня. Асабліва да спадобы яму народныя, душэўныя мелодыі. У свае маладыя гады Рыгор Будзько прыйшоў у харавую капэлу клуба чыгуначнікаў, калі ёю кіраваў выкладчык Брэсцкага педінстытута Мікалай Іванавіч Шошчыц. Зараз Рыгор Рыгоравіч наведвае хор ветэранаў вайны і працы.

— Пакуль у чалавека ёсць любімы занятак, пакуль ён рухаецца, яго не зможа адолець старасць,— лічыць Будзько.

Мы шчыра зычым дойліду, каб і надалей старасць не здолела перамагчы яго, каб заўсёды з ім заставалася яго праца, якая прыносіць радасць і ўзбагачае жыццё сэнсам. І дорым яму два трыялеты, у якіх злучылі імёны нашага горада і слыннага архітэктара.

**Трыялеты**

Наш горад вечна малады,
Пачаў гісторыю з вакзала,
Дадаўшы вуліцы, кварталы,
Наш горад вечна малады.
Няхай бягуць, звіняць гады
І часу праляціць нямала...
Наш горад вечна малады,
Пачаў гісторыю з вакзала.

Тут шчыраваў калісь Рыгор Будзько:
Для Жабінкі жадаў шчаслівай долі,
Задумаў, здзейсніў многа дойлід.
Тут шчыраваў калісь Рыгор Будзько.
Заўважыце, як пойдзеце прамком,
Што горад наш прыгожы, як ніколі...
Тут шчыраваў калісь Рыгор Будзько,
Для Жабінкі жадаў шчаслівай долі.

## *ДАКРАНУЦЦА ДА СЭРЦА*

**КРЫЎЧЭНЯ Данііл Юльянавіч**
Нарадзіўся ў 1938 годзе ў вёсцы Вярхі
*Прафесар, акадэмік Вышэйшай школы Акадэміі навук, галоўны пазаштатны дзіцячы хірург Міністэрства аховы здароўя Украіны*

Яшчэ адным надзвычайным ураджэнцам нашай зямлі, што дасягнуў самых вяршынь медыцынскіх ведаў, стаў Данііл Юльянавіч Крыўчэня.

Ён — ураджэнец Вярхоў. Нарадзіўся 16 сакавіка 1938 года, а праз год, калі Заходняя Беларусь увайшла ў склад Савецкага Саюза, сям'я Крыўчэняў перебралася ў Брэст. У самым пачатку Вялікай Айчыннай вайны яны вярнуліся ў родную вёску.

50-я — 60-я гады мінулага стагоддзя сталі гадамі вучобы, часам станаўлення асобы і пошука свайго сапраўднага прызначэння на зямлі. Менавіта тады вырашыў юнак прысвяціць сябе, можа, самай высакароднай са спраў — лячэнню людзей. У 1960 годзе Данііл Крыўчэня з адзнакаю закончыў Кіеўскі медыцынскі інстытут. Так здзейснілася самая вялікая ягоная мара, да выканання якой ён рыхтаваўся доўгія гады.

Спачатку малады ўрач тры гады адпрацаваў у Чаркаскай абласной туберкулёзнай бальніцы, а затым звыш трыццаці гадоў жыцця прысвяціў Кіеўскаму інстытуту ўдасканалення ўрачоў, дзе прайшоў шлях ад аспіранта да прафесара. І пачынаў Данііл Юльянавіч сваю дарогу па навуковай ніве ў атачэнні сапраўдных зорак — у клініцы сардэчна-сасудзістай хірургіі, узначальваемай акадэмікам Амосавым — вучоным з сусветным імем.

У 1967 годзе Крыўчэня абараніў кандыдацкую, а ў 1978-м — і доктарскую дысертацыю. Асноўным накірункам навуковых даследаванняў вучонага ў гэты перыяд былі прыроджаныя і набытыя парокі сэрца ў дзяцей і падлеткаў. Свае аперацыі ўрач Данііл Крыўчэня праводзіў сумесна з самім акадэмікам А.А. Шалімавым, які не памыліўся, звярнуўшы ўвагу на дапытлівага і стараннага маладога хірурга.

У 1980 годзе па ініцыятыве Данііла Юльянавіча ўпершыню ў Кіеўскім інстытуце ўдасканалення ўрачоў была адкрыта кафедра дзіцячай хірургіі.

На працягу многіх гадоў асноўным напрамкам яго дзейнасці сталі дыягностыка і лячэнне цяжкіх парокаў у нованароджаных і дзяцей самага ранняга ўзросту. Гэта не проста важна, гэта — надзвычай

высакародна дапамагаць самым маленькім, трымаць на далоні сэрцы самых не абароненых перад суровым светам дзяцей. Кожны крок дзіцячага доктара асаблівы, адказны. Што можа быць цяжэй, трагічней няўпэўненасці ў руках хірурга? Сярод урачоў ён больш за астатніх пазбаўлены права на памылку.

Вынікам самаадданай працы доктара Крыўчэні стала ўкараненне ў практыку многіх новых метадаў. Ствараючы іх, хірург цудоўна разумеў, што павінен дзяліцца сваімі знаходкамі, паколькі кожная распрацоўка — гэта выратаваныя жыцці. Ён занадта часта бачыў слёзы на вачах... Потым — пасля паспяховых аперацый — яны ператвараліся ў слёзы радасці. Але гэта была тая сляза дзіцяці, якая, згодна старажытным філосафам, каштуе цэлага свету...

За навуковыя адкрыцці, аналагаў якім не было яшчэ ў сусветнай практыцы, вядомы вучоны Данііл Юльянавіч Крыўчэня атрымаў трынаццаць аўтарскіх пасведчанняў. Актуальныя даследаванні знайшлі сваё ўвасабленне ў манаграфіі «Кардыялогія дзіцячага ўзросту», у энцыклапедыі «Здароўе маці і дзіцяці», у падручніках, у ста васьмідзесяці публікацыях, у дакладах на міжнародных з'ездах і канферэнцыях

Сёння Данііл Крыўчэня з'яўляецца акадэмікам Вышэйшай школы Акадэміі навук Украіны, галоўным пазаштатным дзіцячым хірургам Міністэрства аховы здароўя Украіны, членам спецыялізаванага Савета і праўлення Украінскага таварыства хірургаў. Хірург, які неаднойчы дакранаўся да чалавечых сэрцаў, каб аблегчыць пакуты, і цяпер служыць людзям.

А наш шлях, між іншым, цягнецца да Крыўлянаў — малой радзімы яшчэ аднаго выхаванца Арэпіцкай школы.

## *ЗЯМНОЕ ПРЫЦЯГНЕННЕ*

**КАРПУК Андрэй Аляксандравіч**

Нарадзіўся ў 1943 годзе ў вёсцы Крыўляны

*Першы намеснік старшыні Жабінкаўскага райвыканкама, старшыня калгасаў "Перамога" і "Прамень", старшыня Якаўчыцкага сельсавета*

Далёкае дзяцінства — быццам кадры старога кіно. З вайны вяртаецца Аляксандр Уладзіміравіч Карпук. У Крыўлянах ствараецца калгас «Бальшавік». Мужыкі з апаскаю прымаюць навіну:

— Хіба жыццё стане лепшым?

Усе глядзяць на Карпука: Аляксандр Уладзіміравіч — франтавік, добры гаспадар, ён падае заяву, і за ім пацягнуліся людзі, абраўшы старшынёй калектыўнай гаспадаркі.

Аляксандр Уладзіміравіч працаваў калгасным старшынёй, пакуль ставала сіл. Калі сталі даймаць ваенныя раны, перадаў руль кіравання іншым. Але, як і раней, вучыў сыноў любіць зямлю, старанна працаваць на ёй.

Яго словы былі прынятыя, як наказ, і пазней Андрэй Аляксандравіч Карпук папоўніць кагорту старшыняў...

З выпуска 1960 года Арэпіцкай сярэдняй школы ён быў адным з нямногіх, хто вырашыў застацца працаваць у родным калгасе. Гаспадарцы патрабаваліся маладыя людзі з сярэдняй адукацыяй, і яго адразу ж прызначылі рахункаводам.

Год працы ў калгасе падказаў Андрэю, што дзесяць класаў — занадта мала. Хлопец падае дакументы ў Брэсцкае тэхнічнае вучылішча № 10, каб атрымаць спецыяльнасць брыгадзіра па даглядзе і рамонце чыгуначных пуцей.

Карпук паспеў скончыць вучылішча і папрацаваць па спецыяльнасці, калі атрымаў позву з ваенкамата. У арміі Андрэй вылучаўся сярод салдат дысцыплінаванасцю і стараннем. А пасля дэмабілізацыі, у шэсцьдзесят шостым, вярнуўся на Жабінкаўшчыну.

Гэта быў час адраджэння раёна, які на працягу некалькіх гадоў не існаваў, а цяпер, па рашэнні ўрада, быў адноўлены. Ішлі пошук і расстаноўка кадраў. Андрэю Аляксандравічу прапанавалі пайсці, як тады казалі, "па камсамольскай і партыйнай лініі", ён стаў намеснікам старшыні і сакратаром партарганізацыі ў калгасе "Прамень". Цэнтр гаспадаркі знаходзіўся ў вёсцы Якаўчыцы. З першай сустрэчы спадабаўся Карпуку старшыня Яраслаў Сцяпанавіч Пратасевіч. ён

вылучаўся спакойным, стрыманым характарам, давяраў і даражыў думкамі спецыялістаў.

Памятаецца, аднойчы Пратасевіч быў незадаволены рашэннем агранома Пятра Казулькі, які накіраваў трактары на далёкае поле. Карпук, які прысутнічаў пры іх размове, прапанаваў:

— Яраслаў Сцяпанавіч, вы ж можаце сваім старшыньскім словам адмяніць рашэнне агранома.

— Не, не магу,— адказаў Пратасевіч — Калі я зраблю так раздругі, дык Пётр Макаравіч будзе рабіць з аглядкаю на старшыню. А мне патрэбны кіраўнік галіны, што можа прымаць рашэнні самастойна... А тое поле мы заўтра засеем.

Так і зрабілі.

Можа, менавіта тады Андрэй Карпук зразумеў, што працаваць на зямлі — гэта яго прызванне? Як было такое прызванне калісь у бацькі... І падаў дакументы ў Беларускую сельгасакадэмію.

У раёне шукалі старшыню для калгаса "Перамога", што месціўся ў Арэпічах. З раніцы першы сакратар Жабінкаўскага райкама партыі Мікалай Каўко праглядаў учарашнюю пошту. Узяў у рукі газету "Сельская праўда".

На другой старонцы змяшчаўся артыкул, напісаны Карпуком. Сакратар, прачытаўшы ад першага радка да апошняга, застаўся задаволены. Тады Мікалай Трафімавіч сказаў удумліва:

— Умее Карпук працаваць з людзьмі, даражыць іх поглядамі. Будзем рэкамендаваць старшынёй у "Перамогу".

Калі землякі, што ведалі будучага кіраўніка са школьнай пары, дружна прагаласавалі «за», Каўко, паціскаючы руку, прама сказаў:

— Не лепшы калгас мы прапанавалі вам, Андрэй Аляксандравіч, але ж верым, што выцягнуць яго ў передавікі вам пад сілу.

Карпук, агледзеўшы гаспадарку, зразумеў: каб рухацца далей, трэба будавацца. За два з невялікім гады ў "Перамозе" была ўзведзена механічная майстэрня, абноўлены ўсе фермы. Людзям стала лягчэй працаваць. Гаспадарка, пакінуўшы апошні радок, заняла стабільна сярэдзіну ў зводцы.

А калі праз некалькі гадоў у Андрэя Аляксандравіча, які пераходзіў на пасаду начальніка упраўлення сельскай гаспадаркі, спыталіся пра пераемніка, ён адказаў упэўнена:

— Хацеў бы бачыць старшынёю ў "Перамозе" свайго намесніка — Віктара Бакуна. Зямлю ён любіць. Думаю, яму пад сілу гэты "воз".

і Карпук не памыліўся: да апошняга дня свайго жыцця В.А. Бакун кіраваў калгасам, пакінуўшы добрую памяць пра сябе.

— Гэта быў залаты для развіцця сельскай гаспадаркі час,— успамінае Андрэй Аляксандравіч пра работу ў райсельгасупраўленні — Раслі надоі і ўраджайнасць. Жабінкаўскі раён займаў прызавыя месцы ў абласным, рэспубліканскім і нават усесаюзным спаборніцтве, атрымліваў пераходныя сцягі.

У складаныя для развіцця сельскай гаспадаркі 90-ыя гады мінулага стагоддзя Андрэй Карпук верыў, спадзяваўся, што яго веды і вопыт яшчэ павінны быць выкарыстаныя. І сапраўды, у красавіку 1995 года яго абіраюць старшынёй калгаса "Прамень". На гэтай пасадзе ён змяніў Яраслава Пратасевіча, які аддаў гаспадарцы звыш трыццаці гадоў.

Не, зямлю не падманіш: яна не выносіць людзей выпадковых. У сённяшніх поспехах гаспадаркі ёсць стараннасць і хлебаробаў, і жывёлаводаў, і спецыялістаў, і, канечне, старшыні.

Роўна дзесяць год Андрэй Аляксандравіч Карпук стаяў на чале калектыўнай гаспадаркі. Шмат у чым гэта былі гады напружаныя і бязмерна адказныя. Цяпер, з восені 2005 года, ён перайшоў на іншую, не менш адказную працу — стаў старшынёй Якаўчыцкага сельскага Савета.

## *ЗАГІНУЎ У ТРЫЦЦАЦЬ СЁМЫМ*

**КАВАЛЬЧУК Захар Захаравіч**

Нарадзіўся ў 1893 годзе ў вёсцы Крыўляны

*Старшыня савета прафсаюзаў Беларусі, член Цэнтральнага выканаўчага камітэта СССР*

Гэтыя складаныя часы даўно ўвайшлі ў падручнікі гісторыі. Сімвалам несправядлівасці, знакам бяды стаў трыццаць сёмы год. Біяграфіі многіх слынных людзей абарваліся ў гэтым страшным годзе. Сярод іх — Захар Кавальчук.

Ён быў чалавекам паважаным, бліскучым спецыялістам. Як кіраўнік прафсаюзаў Беларусі Захар лічыўся трэцяй асобай у рэспубліцы, прымаючы справаздачы пра поспехі працоўных краіны, ён быў на вяршыні, калі раптам усё закруцілася ў жудасным калейдаскопе. Наступіў 37-ы под...

Нечакана Кавальчук быў выкліканы ў Маскву. 17 мая яго выключылі са складу Цэнтральнага выканаўчага камітэта Саюза ССР. Меней чым праз два месяцы адбыўся арышт. Суд быў кароткім. Захара Захаравіча аб'явілі "ворагам", які быццам дзейнічаў супраць свайго народа. 29 кастрычніка ён быў прыгавораны да расстрэлу. І ўжо ў наступны дзень прыгавор прывялі ў выкананне. Прыпомнілі ўсё — і тое, што нарадзіўся і жыў у Заходняй Беларусі, і тое, што доўгі час працаваў у Амерыцы.

Яшчэ ў 1911 годзе, калі Кавальчуку споўнілася толькі васемнаццаць гадоў, галеча пагнала ў Злучаныя Штаты. Гэта быў шлях многіх ягоных землякоў. Захар працаваў на фордаўскім заводзе ў Дэтройце, дзе сярод рабочых можна было сустрэць эмігрантаў з усяго свету.

Кавальчук — змагар па натуры — меў чыстыя памкненні і высакародства, таму не цярпеў ніякай несправядлівасці. Гэтыя якасці прывялі яго ў шэрагі рускай федэрацыі Амерыканскай сацыялістычнай партыі. Адразу пасля стварэння кампартыі ЗША, у верасні 1919 года, наш зямляк стаў камуністам, сакратаром партыйнай ячэйкі. За сваю дзейнасць пяць месяцаў прасядзеў за кратамі. Амерыканскія ўлады хацелі пазбавіцца ад барацьбіта, таму тэрмінова выслалі яго на радзіму. На параходзе Захар пераплыў акіян, патрапіў спачатку ў Кітай, а потым цягніком дабраўся да Масквы, дзе ўладкаваўся на аўтамабільны завод.

Хутка Кавальчук быў заўважаны, чатыры гады працаваў у Маскоўскім павятовым камітэце, але ўвесь час яго цягнула на Радзіму. Мара нарэшце здзейснілася. У 1930 годзе ён стаў сакратаром

Аршанскага акружнога камітэта кампартыі бальшавікоў Беларусі. Затым была праца на пасадзе загадчыка аддзела кадраў ЦК Кампартыі Беларусі і сакратара Мінскага гарадскога камітэта.

Кавальчук стаў прыкметнай фігурай сярод палітычных дзеячоў краіны. У 1932 годзе яго абралі старшынёй беларускіх прафсаюзаў, а калі праз год Наркамат працы рэспублікі зліўся з прафсаюзамі, спраў у старшыні стала надзвычай багата. Родныя амаль не бачылі дома мужа і бацьку. У яго абавязкі цяпер уваходзіла безліч надзённых пытанняў: патрэбна было займацца і сацыяльным страхаваннем, і кантраляваць становішча тэхнікі бяспекі ды аховы працы.

У лютым 1935 года Захар Кавальчук быў дэлегаваны ў Маскву на VII з'езд Саветаў СССР. Яго ўключылі ў склад Цэнтральнай выбарчай камісіі. Новая работа захапіла чалавека, які не ўяўляў сябе без працы. Здавалася, што няма межаў для яго сіл, здавалася, наперадзе чакае ўсё найлепшае. Аднак краіну апанавалі ўсеагульная падазронасць, страх, якія вылілiся ў амаль неабмежаваныя рэпрэсіі. Наступіў год, што стаў нямым сімвалам несправядлівасці. Сярод многіх ахвяраў, на жаль, было ўпісана і імя нашага земляка.

Амаль праз дваццаць гадоў, як прагучаў стрэл, што перарваў ягонае жыццё, Захар Кавальчук вярнуў сваё добрае імя. Яго рэабілітавалі. Пасмяротна...

## *АМАЛЬ ЗАБЫТЫ ЮБІЛЕЙ*

**КІТАЕЎСКІ Уладзімір Ігнатавіч**
Нарадзіўся ў 1896 годзе ў вёсцы Стаўпы
*Украінскі паэт*

Жыццё чалавека ў прасторы стагоддзяў — зорка, якая згарае так імгненна, што не пакідае пасля сябе і следу. Але часамі застаюцца справы. Сёння з небыцця вяртаюцца паўзабытыя імёны. Гэты расповяд яшчэ пра аднаго творцу. Так сталася, што Жабінкаўшчына стала радзімаю паэтаў-лірнікаў розных славянскіх народаў: беларускага — Арабейкі, рускага — Жабінкаўскай, польскага — Дзяконскага ды ўкраінскага — Кітаеўскага.

Лёс не быў літасцівым да яго пры жыцці. І пасля смерці ён застаецца паўзабытым паэтам. Згублена большасць літаратурнай спадчыны Уладзіміра Кітаеўскага, а тыя рэшткі, што ўбярог час, беражліва захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Украіны.

Аднак на малой радзіме паэта не гучыць пакуль ягонае рыфмаванае слова. Толькі ў 1996 годзе, калі святкаваліся сотыя ўгодкі з дня нараджэння Уладзіміра Кітаеўскага, былі высветлены нейкія моманты яго біяграфіі, стала вядома, што жыццё Кітаеўскага мела непасрэдную сувязь з Жабінкаўшчынай.

Ён нарадзіўся 3 чэрвеня 1896 года ў Стаўпах у сям'і Ігната Іванавіча і Ганны Васільеўны Кітаеўскіх. Бацька, былы вайсковец, быў добрым прыкладам для трох сваіх сыноў, з якіх Валодзя быў наймецшым.

Хлопчык рос дапытлівым, працавітым, меў значныя здольнасці, якія дазвалялі яму самавукам набываць веды. Часам спрабаваў свае погляды на акаляючыя свет і прыроду ўвасабляць у паэтычных радках, спачатку няўпэўненых, пачатковых, якія пазней развіліся ў прыкметны паэтычны талент.

Калі пачалася Першая сусветная вайна, якая стала моцным выпрабаваннем для нашага краю, Кітаеўскія пераехалі на Херсоншчыну. Уладзіміру ішоў дваццаты год, калі ён апынуўся на фронце, дзе атрымаў афіцэрскі чын у 17-м Фінляндскім палку. Прымаў непасрэдны ўдзел у баях, двойчы быў цяжка паранены. Менавіта ў тыя дні, калі навокал грымелі стрэлы, лілася кроў байцоў, знясіленых напружанымі баямі, у друку пачалі з'яўляцца вершы, створаныя Кітаеўскім. Наперакор выслоўю, яго муза не маўчала, калі гучалі

гарматы. Яго вершы траплялі на старонкі львоўскага часопіса "Вікна", які стаў для Уладзіміра сапраўдным акном у свет паэзіі.

Вяртанне паэта-франтавіка на радзіму было бязрадасным: у Стаўпах яго чакала папялішча. Амаль дваццаць гадоў Кітаеўскія жылі на радзіме, аднаўляючы і мацуючы гаспадарку. У 1938 годзе сям'я пераехала ў Тэўлі, дзе Уладзімір стаў войтам. Аднак за спробу адкрыць у вёсцы ўкраінскую школу ён быў звольнены з пасады. А неўзабаве, скончыўшы настаўніцкія курсы, уладкаваўся на працу ў нашыя Свішчы. Аднак настаўнічаць доўга не прыйшлося.

З прыходам Савецкай улады Кітаеўскі зноў быў звольнены: нехта напісаў на яго данос, прыгадаўшы, што пры паляках паэт быў войтам. Гэта страшна расчаравала і ўзрушыла Уладзіміра. У апошні дзень восені 1940 года ён памёр. Паэту было толькі сорак чатыры.

Пасля ягонай смерці сям'я атрымала афіцыйную паперу: Уладзімір Ігнатавіч Кітаеўскі прыняты ў Саюз пісьменнікаў Беларусі... У нечым паўтарыўся несправядлівы лёс, які праследуе многіх сапраўдных паэтаў. Іх дар і талент атрымоўваюць прызнанне толькі пасля смерці.

Многае са спадчыны Уладзіміра Кітаеўскага загінула: праз паўгода пасля яго смерці пачалася вайна, і жонка схавала мужавы паперы ў зямлю.

У час барацьбы з ворагам, які прыйшоў на нашую зямлю, вызначыўся наступны наш герой, ураджэнец блізкай ад Стаўпоў вёскі Якаўчыцы.

## *ПАПЛЕЧНІК КУЗНЯЦОВА*

### **ШАЎЧУК Міхаіл Макаравіч**

Нарадзіўся ў 1911 годзе ў вёсцы Вялікія Якаўчыцы
*Савецкі разведчык*

Жыццё Міхаіла Шаўчука было нялёгкае. Ён сам выбраў свой шлях: з маладых гадоў пачаў барацьбу за аб'яднанне заходнебеларускіх земляў у адзіную Беларускую рэспубліку, а ў час Вялікай Айчыннай вайны актыўна змагаўся з ворагам.

Нарадзіўся Міхаіл Макаравіч Шаўчуку 1911 годзе на Жабінкаўшчыне, у вёсцы Якаўчыцы. Рана зведаў сіроцтва (маці памерла, як хлопчыку споўнілася ўсяго шэсць гадоў) і парабчанскі хлеб.

— У мяне не было дзяцінства,— успамінаў Міхаіл Макаравіч — З малых гадоў вымушаны быў зарабляць сабе на пражыццё. "Універсітэтамі" для мяне сталі праца і барацьба за справядлівасць.

Багатыя гаспадары, у якіх Міхаіл і кароў пасвіў, і ў полі працаваў, у любы момант маглі пакрыўдзіць падлетка, і ў пятнаццаць гадоў ён становіцца членам Камуністычнага Саюза Моладзі Заходняй Беларусі, а праз тры — і сябрам КПЗБ.

Ён сустрэў людзей мужных духам, якія марылі пра вяртанне спрадвечных беларускіх земляў. Нават калі Шаўчука прызвалі ў польскае войска, ён працягваў прапагандысцкую работу сярод салдат.

Міхаіл Макаравіч даўно лічыўся "неблаганадзейным", і пільнае паліцэйскае вока неадступна сачыла за кожным ягоным крокам. Ён паспеў зведаць і пераслед, і катаванні. Буржуазным польскім урадам Шаўчук у апошні раз быў арыштаваны ў 1935 годзе. Трапіў у Равіцкую вязніцу. Там былі створаны нечалавечыя ўмовы: адначасова ў казематах утрымлівалася звыш тысячы палітзняволеных — намнога больш, чым магло знаходзіцца ў цесных камерах, кармілі слаба, калі не сказаць — дрэнна.

Калі ў верасні 1939-га фашысцкая Германія напала на Польшчу, вязняў перавезлі ў Познань. Бо Равіцкая турма знаходзілася непадалёку ад нямецка-польскай граніцы.

Міхаілу Шаўчуку ўдалося збегчы з-пад варты. З вялікімі цяжкасцямі (быў нават схоплены немцамі, але, назваўшы сябе беларусам, а не палякам, быў адпушчаны) ён дабраўся ў родныя Якаўчыцы.

Шаўчук горача вітаў прыход Чырвонай Арміі, актыўна ўдзельнічаў у стварэнні народнай гвардыі ў Кобрыне. Яе прызначэнне было падтрымліваць парадак на землях, што адышлі да Беларусі. Міхаіла Макаравіча запрасілі ў органы міліцыі і накіравалі ў Гродна на курсы

аператыўных работнікаў. Набытыя там веды вельмі спатрэбіліся, калі пачалася Вялікая Айчынная вайна.

У чэрвеньскія дні сорак першага М.М. Шаўчук з іншымі супрацоўнікамі міліцыі падаўся на ўсход. Каля Пінска яны аб'ядналіся ў атрад, які пачаткова складаўся з 49 чалавек. Паблізу Рагачова партызаны сустрэліся з коннікамі генерала Даватара, якія здзяйснялі рэйд па тыле ворага. Па рацыі даватараўцы звязаліся з Масквой, і неўзабаве атрад перайшоў лінію фронта.

Па-сапраўднаму талент Шаўчука як разведчыка раскрыўся тады, як ён з групай асобнага прызначэння быў закінуты ў лясы пад Роўна. Атрадам, у які патрапіў Міхаіл Макаравіч, кіраваў знакаміты партызанскі камандзір Дзмітрый Мядзведзеў.

Мядзведзеўцам удалося ўкараніць групу разведчыкаў у захоплены ворагам горад. На чале яе стаў легендарны разведчык Мікалай Іванавіч Кузняцоў. На нейкі час, маючы дакументы на імя Паўля Зіберта, ён апрануў форму нямецкага афіцэра. Ягоныя подзвігі пазней былі апісаны ў шматлікіх публікацыях, кнігах, адлюстраваны ў дакументальных і мастацкіх кінастужках.

Змянілі свае прозвішчы і іншыя члены групы. Камерсантам Янам Багінскім стаў Мікола Гнідзюк (у будучым вядомы ўкраінскі пісьменнік), камерсантам з Варшавы Баляславам Янкевічам назваўся Міхаіл Шаўчук.

Сустракаючы штодзень "паляка"— невысокага пана Болека, фашысты і не здагадваліся, што гэты чалавек разам з іншымі членамі групы выконвае адказныя заданні Цэнтра. Калі Мікалай Кузняцоў сустракаўся з Эрыхам Кохам, прызначаным Гітлерам на пасаду рэйхскамісара Украіны, каб знішчыць ворага, Гнідзюк і Шаўчук знаходзіліся паблізу.

Фашыст пазбег кары ад рук савецкага разведчыка толькі таму, што выпадкова прагаварыўся аб маючым адбыцца наступленні нямецкіх войск у раёне Курска. Кузняцоў павінен быў жывым вярнуцца да сваіх, каб прынесці надзвычайнай важнасці вестку.

Пазней Дзмітрый Міхайлавіч Мядзведзеў будзе характарызаваць Шаўчука як чалавека міралюбівага, добрага сем'яніна, які нарадзіўся для сялянскай працы.

Так у мірным жыцці, напэўна, яно і было б. Але ж наш зямляк горача любіў Радзіму і разам з Гнідзюком знішчыў здрадніка Піскунова, які прабраўся ў атрад Мядзведзева. У другі раз Шаўчук падарваў чыгуначны вакзал у горадзе Роўна, дзе знаходзілася шмат гітлераўцаў. За галаву смельчака фашысты абяцалі 100 тысяч

нямецкіх марак, аднак сялянскі розум, няспешлівасць і дасціпнасць выручалі разведчыка ў самыя крытычныя моманты.

Пасля вайны Міхаіл Макаравіч пасяліўся ў Львове і аж да выхаду на пенсію працаваў аператыўным упаўнаважаным. Ён уганароўваўся не толькі савецкімі ордэнамі і медалямі, але й высокімі ўзнагародамі Польшчы. Не аднойчы слаў свае прывітанні на малую радзіму, падтрымліваючы ліставанне з вучнямі Якаўчыцкай і другой гарадской сярэдніх школ.

Памёр Міхаіл Шаўчук, былы разведчык, паплечнік Героя Савецкага Саюза Мікалая Кузняцова, у 1994 годзе. Памяць пра яго і цяпер захоўваецца на малой радзіме, ён адзін з тых, кім ганарацца Вялікія Якаўчыцы.

А наш далейшы шлях — у іншую вёску, якая здавён таксама носіць вызначэнне "вялікая": у Вялікія Сяхновічы, што сталі радзімаю найвышэйшай духоўнай асобы, народжанай на жабінкаўскай зямлі.

### *ШЛЯХ І ТУРБОТЫ ЎЛАДЫКІ*

## ІГНАЦІЙ

(у міры — Жалязоўскі Якаў Лявонцьевіч)
Нарадзіўся ў 1800 годзе ў вёсцы Вялікія Сяхновічы
*Епіскап брэсцкі, вікарны епіскап Літоўскай епархіі*

Духоўная радня Жалязоўскіх здавён правіла службу ў Сяхновіцкай царкве, закладзенай некалі ў гонар святога Міколы Цудатворцы. У 1761 годзе мясцовы святар Фёдар Жалязоўскі перадаў у брэсцкі гарадскі суд ліст, складзены ў Сяхновічах ваяводскім пісарам Паўлам Касцюшкам-Сяхновіцкім. Уладар вырашыў "абнавіць і палепшыць заснаваную ў старажытнасці царкву, каб у ёй адбываліся святыя таінствы і па старажытным абрадзе прыносіліся Богу ахвяры".

Менавіта ў гэтай царкве ў сяле Вялікія Сяхновічы і быў ахрышчаны будучы брэсцкі епіскап — адзін з чатырох сыноў сяхновіцкага уніяцкага святара Лявонція. Сына, народжанага 10 студзеня 1800 года, бацька пры хрышчэнні назваў Якавам. Гэтае храбрае, яркае і моцнае імя ўтрымлівала пажаданне быць ягонаму носьбіту добрым, простым і набожным. Усе гэтыя рысы пазней былі ўласцівы брэсцкаму ўладыку.

З першых дзён ягоны лёс быў прадвызначаны: бацька бачыў у сыне толькі святара. Таму, атрымаўшы пачатковыя веды, Якаў быў залічаны ў галоўную духоўную семінарыю ў Вільні. Затым вярнуўся на радзіму ў якасці настаўніка Кобрынскага духоўнага вучылішча. У 1834 годзе пад уплывам будучага мітрапаліта Іосіфа Сямашкі Якаў прыняў манаскі пастрыг. З гэтага часу ён назаўсёды стаў Ігнацыем.

12 лютага 1839 года Жалязоўскі сярод іншых царкоўных іерархаў паставіў свой подпіс пад актам скасавання уніі і прылучэння яе да праваслаўя. А ў хуткасці 40-гадовы іераманах быў накіраваны ў Гродна настаяцелем старажытнага Каложскага храма, пабудаванага яшчэ ў XII стагоддзі. Пад час прыезду новага настаяцеля храм жыў прадчуваннем немінучай гібелі. Ягоныя сцены падмываў Нёман, пагражаючы зусім знішчыць цудоўны помнік дойлідства. І айцец Ігнацій адным з першым забіў у званы, просячы і патрабуючы ад губернскага начальства знайсці паратунак ад няўмольнай бяды. Дайшоў са сваімі трывогамі ажно да імператара. Самі манахі саджалі на беразе дрэвы, каб хоць неяк адвесці ад свайго храма пагрозу... І ў адну з вясновых начэй 1845 года чарговы разліў Нёмана выклікаў абвал, які закрануў паўднёвую сцяну Каложы. Аднак у тым, што

толькі частка царквы была вынішчана паводкай, можна бачыць заслугу Ігнацыя, які бараніў храм і справамі, і малітваю.

Увесну 1848 года Ігнацый быў абвешчаны епіскапам брэсцкім, адначасова атрымаўшы прызначэнне на пасаду другога вікарнага епіскапа Літоўскай епархіі. У новым высокім званні Жалязоўскі пачаў дзейнічаць надзвычай энергічна. Менш чым за дзесяцігоддзе ён асабіста аглядзеў усе цэрквы, уключаныя ў межы епархіі, пры гэтым асвяціў 16 храмаў.

З асаблівай ахвотай, з цёплым адчуваннем радасці ехаў епіскап на радзіму. Калі летам 1852 года ўладыка аглядаў 65 храмаў Кобрынскага павета, ён не мог абмінуць свае Вялікія Сяхновічы. Можна толькі здагадвацца, якія думкі, успаміны наведвалі Ігнацыя пры набліжэнні да зямлі продкаў, што яму падаравала жыццё.

Нямала сілаў епіскап брэсцкі ахвяраваў на тое, каб навучыць мясцовых святароў правільнаму выкананню сваіх абавязкаў. Ён заўважаў, што ў межах Гродзенскай губерні налічвалася 450 храмаў, якія патрабавалі аднаўлення і рамонту.

Пад наглядам уладыкі быў куплены ў Гродне дом графа Валіцкага, у якім размясцілася епіскапская рэзідэнцыя і духоўнае вучылішча. З гэтага часу Ігнацый жыў у горадзе над Нёманам.

...А рака, між тым, зноў праявіла свой нораў. У красавіку 1853 года яна перайшла ў наступ на старадаўнюю Каложу, прынёсшы новыя пабурэнні. За год пад наглядам епіскапа Жалязоўскага царква была адрамантавана.

Да гэтага часу адносіцца апісанне ўладыкі, пакінутае ягоным сакратаром Аляксандрам Катлінскім: "Знешнасць праасвяшчэннага Ігнацыя рабіла ягоны выгляд надзвычай прадстаўнічым. Пры стройнай фігуры росту ён быў сярэдняга. Правільныя рысы твару, высокі адкрыты лоб, лагодная выразнасць вачэй рабілі яго вельмі сімпатычным. Бадзёрасць і свежаць сіл не пакідалі яго да самай хваробы, сівізна ў валасах і шырокай барадзе цудоўна спалучаліся з румянцам чыстага твару... Асаблівасць і быццам нейкую тыповасць давала яму хада. Яна была ў яго заўсёды паспешлівая, жывая і нават вёрткая".

Такім епіскап Ігнацый быў напярэдадні цяжкіх фізічных досведаў. Вясной 1866 года ў час паніхіды па памерлым вялікім князі Мікалаі з уладыкаю здарыўся шырокі інсульт, у выніку якога адняліся правыя нага і рука. Лекары выратавалі жыццё епіскапа, але хваробу адолець не змаглі. Новым цяжкім ударам для брэсцкага ўладыкі сталася ў лістападзе 1868 года смерць мітрапаліта Іосіфа, якога ён лічыў за сябра і настаўніка.

Ігнацій, адчуваючы сябе ўсё горш, некалькі разоў звяртаўся з просьбай аб звальненні, і, нарэшце, 21 чэрвеня 1870 года Аляксандр II задаволіў гэтую просьбу, назначыўшы гадавую пенсію ў 2000 рублёў. Былы епіскап правёў апошнія гады свайго жыцця ў аднаўленай яго намаганнямі Каложскай царкве. Яшчэ перад смерцю ён пажадаў выканаць даўняе абяцанне і пакланіцца праваслаўным святыням у Кіеве. І ў верасні 1870 года Ігнацій адслужыў апошнюю ў жыцці службу. Адбылося гэта ў пячоры святога Антонія. Пасля вяртання ў Гродна былы ўладыка жыў асобна ў невялічкай келлі. І толькі тады, як адчуў набліжэнне смерці, загадаў над могільнікавай Свята-Марфінскай царквою ўладкаваць каменную грабніцу на будучы спачын.

1 (13) красавіка 1872 года яго не стала. На пахаванне, якое згодна традыцыі адбылося на трэці дзень, прыехалі архіепіскап мінскі Міхаіл, ад якога ў 1848 годзе ўладыка Ігнацій прыняў брэсцкую кафедру, і Яўгеній, якому ён яе перадаў у 1870 годзе, зыходзячы на пакой. Было 10 гадзін раніцы, калі цела епіскапа Ігнація Жалязоўскага было ўрачыста пакладзена ў дамавіну ў тым самым месцы, якое ён сам сабе некалі прызначыў.

## ***УСПАМІН ПРА РАДЗІМУ***

**КАСЦЮШКА Тадэвуш**
***(поўнае імя — Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка-Сяхновіцкі)***

Нарадзіўся ў 1745 (ці 1746) годзе ў вёсцы Малыя Сяхновічы (па іншай версіі, пад Косавам)

*Народны герой Беларусі, Польшчы і Злучаных Штатаў Амерыкі, ганаровы грамадзянін Французскай рэспублікі, генерал войск ЗША і Рэчы Паспалітай, кіраўнік паўстання 1794 года*

Зацокалі лёгкія абцасікі. Высокая жанчына ў чорным павольна падымалася на другі паверх. Насустрач ёй выйшла дзяўчына.

— Што з табою? Быццам прывід пабачыла,— асцярожна спыталася госця.

— Пан генерал нікога не прымае,— рашуча адказала дзяўчына,— яму ўсю ноч было дрэнна, ён заснуў толькі пад раніцу.

— Нікога не прымае? Нават калі я — княгіня Любамірская?

— Княгіня?! Касцюшка зведаў у жыцці і больш важных асобаў: імператараў Францыі і Расіі, прэзідэнтаў ЗША...

— А калі я скажу, што раней мяне звалі Людвіка Сасноўская?..

Дзяўчына раптам сумелася, пачырванела і, схіліўшы галаву, аднымі вуснамі вымавіла:

— Даруйце, пані, генерал Касцюшка апошнімі днямі толькі пра вас і гаворыць. Ён сапраўды вельмі хворы. Але вы праходзьце: ён будзе шчаслівы вас пабачыць.

— А як цябе завуць, прыгожая паненка? — зноў пацікавілася княгіня.

— Мяне? — трохі разгубілася дзяўчына.— Эмілія-Тадэя Цэлтнер.

— Ты родзічка пану Тадэвушу?

— Я хросная дачка яго.

— Вось як! — усміхнулася княгіня.— Цяпер разумею, чаму тваё другое імя Тадэя. А чым займаецца Тадэвуш?

— Ён вучыць мяне, калі ёсць вольны час, музыцы, маляванню, замежным мовам.

— А што гавораць дактары? — пацікавілася госця.

— Сэрца — ледзь-ледзь. Быццам стамілася жыць, асабліва па начах шчыміць. Ды яшчэ ранейшыя раны ныюць і баляць. Аж крычыць. Асабліва скардзіцца на раненую некалі галаву. Гэта яшчэ з часоў паўстання.

Маленькім сваім кулачком жанчына асцярожна пастукала ў дзверы, якія лёгка расчыніліся. У пакойчыку не хапала святла, але яна адразу пабачыла яго... Твар знясілены пакутамі. І толькі вочы, ягоныя вочы яркія, бы вуглі, гарэлі жывым агнём. З сілай ён паспрабаваў вызваліцца ад путаў хваробы.

Іх вочы сустрэліся. "Ты?" — шапталі ягоныя. "Я",— адказалі яе. "Як ты жыла без мяне?" — "А я і не жыла зусім. Я чакала цябе і ішла".— "Доўга, Божа, як доўга!.."

— Падыдзі! — сярод агарнуўшага хвалявання прамовіў Касцюшка.— Мне б перад смерцю развітацца з табой... Я так чакаў і марыў...

— Мне ўжо Эмілія казала.

— А! Міла, разумніца мая, міласэрніца. Калі прыйдзе час, я завяшчаю ёй вось гэта,— і паклаў руку на грудзі, дзе было сэрца.

— А мне будзе дарунак?

Ён засмяяўся і гарэзліва адказаў:

— Толькі пацалунак. Як у юнацтве! — раптам закашляўся і, адкінуўшы галаву, стомлена закрыў вочы: — Вось табе і юнацтва! Днямі атрымаў ліст з Амерыкі ад Джэферсона, кліча да сябе. Але ж такой дарогі я не вытрымаю. Паміраць буду тут.

Людвіка ведала, хто такі Джэферсон: былы амерыканскі прэзідэнт, паплечнік Касцюшкі па барацьбе, добры сябар.

— А дамоў хочаш, Тадэвуш?

— Ды кожную ноч там, на Берасцейшчыне. Толькі сон вочы змяжуе — адразу трапляю на сяхновіцкі падворак. Колькі ўжо часу там не быў! Не хадзіў па сваёй алеі, да альтанкі з магутных дубоў... А яшчэ хочацца вельмі да Міхала Клеафаса Агінскага ў Залессе завітаць. Добры мой баявы таварыш, таленту вялікага. Стварае паланезы, ад якіх яшчэ больш шчыміць сэрца. Музыка ягоная — як тая туга па згубленай Айчыне.

Княгіня пачула ў гэтых словах такі адчай, што паспяшыла перавесці тэму размовы:

— А ці чуў ты пра лёс Станіслава Аўгуста Панятоўскага?

— Ён зямляк мне, але двойчы я пазнаў ад яго здраду. Таму нават імя яго чуць не магу. Можа стацца,— заўважыў генерал,— калі памру, то пакладуць недзе ў гэтай зямлі, а цела Панятоўскага будзе блукаць па свеце.

— Ну, гэта ўсё жартачкі,— Людвіка толькі паківала галавой.— Пражывеш, паночку, яшчэ да ста гадоў!

— Гэх, мая ласкавая, галінка гнуткая... Няма ўва мне ўжо таго імпэту, што быў раней. Цяпер толькі тэстаменты складаю.

— І што ты напісаў у сваім апошнім?

Ён тлумачыў. Яна слухала са здзіўленнем.

— Няўжо ты хочаш вызваліць сялян?

— Я марыў пра тое ўсё жыццё.

Ягоная рука задрыжэла, дзесьці ў вачах замітусілася сляза.

— І ты верыш,— раптам сур'ёзна спытала жанчына,— што твой запавет будзе выкананы?

— Не ведаю. Але так хочацца перад тым, як пайсці ў другі свет, даць як мага больш шчасця іншым... Я ўжо амаль забыў мову свайго народа,— праз хвіліну працягваў генерал,— нават тэстамент склаў панямецку.

Ён на імгненне замаўчаў, быццам збіраў сілы і шукаў словы. Старэчы голас яшчэ больш пранікнёна задрыжэў, як ліст асенні на ветры:

— Людвіся, ты едзеш дамоў, ты вяртаешся на нашу няшчасную радзіму. Перадай прабачэнні ад Касцюшкі, што не здолеў абараніць іх у цяжкі час... Ведаеш, мне часам падаецца, што сваё жыццё я змарнаваў. Божа ж мой. Мець столькі талентаў, захапленняў... А я толькі ваяваў, ваяваў, ваяваў...

— І многія народы ўдзячныя табе за гэта, Тадэвуш.

Стары генерал ціха пасміхнуўся:

— Дзякаваць можна, калі заваявана свабода, а калі толькі рабства і краты... то не патрэбна такая вайна і такі герой! Таму людзі забудуцца на маё імя, а можа, нават праклянуць.

— Не гавары... так не можна гаварыць! Бо такога ніколі не будзе, каб пра цябе забыліся! — усхвалявана выгукнула Людвіка.— Ты будзеш вядомы паўсюды. Абавязкова!

— І на радзіме? — з нейкай трапяткой надзеяй прашаптаў Тадэвуш.

Княгіня адчула, як шмат залежыць ад яе адказу, бо хворы спадзяваўся на памяць землякоў. Толькі гэта цяпер мела сэнс для яго. І жанчына нетаропка прамовіла:

— Прыйдзе, Тадэвушу, час незалежнасці тваёй Радзімы. І тады ўсе ўспомняць твае пакуты і надзеі. Бо так, як ты любіў гэту зямлю, ніхто іншы не любіў. Людзі згадаюць твой лозунг "За вольнасць вашу і нашу", успомняць, што і ў самыя цяжкія хвіліны ты называў сябе ліцьвінам.

— Ну і добра. Больш для мяне нічога і не трэба,— ціха прамовіў хворы і на змучаным ягоным твары запалілася ўсмешка.

...Гэта была іх апошняя сустрэча — праз доўгія гады расстання. Гэта было яго апошняе светлае спатканне... Праз некалькі тыдняў — а дзесятай гадзіне вечара 15 кастрычніка 1817 года на вуліцы Гужэль-

ганса, 12 у горным швейцарскім гарадку Салюр спынілася ягонае сэрца, што заўсёды білася за Айчыну.

На памяць нашчадкам пан Тадэвуш пакінуў свой Сяхновіцкі тэстамент, што пачынаўся словамі: "Глыбока адчуваючы, што прыгонны стан супярэчыць закону прыроды і дабрабыту народаў, гэтым сведчу, што знішчаю яго цалкам і на вечныя часы ў маёнтку маім Сяхновічы, што ляжыць у Брэст-Літоўскім ваяводстве, як ад уласнага імя, так і ад імя будучых ягоных гаспадароў. Таму абвяшчаю сялян вёскі, што належаць да маёнтка, вольнымі грамадзянамі і нічым не абмежаванымі ўласнікамі належачых ім грунтоў. Вызваляю іх ад усялякіх без выключэння падаткаў, паншчыны і асабістых павіннасцяў..."

А ніжэй мы змяшчаем верш, прысвечаны незабыўнаму году, што стаў часам росквіту вайсковых талентаў Касцюшкі, назаўсёды ўпісаўшы ягонае імя на старонкі гісторыі.

**1794 год**

Што, крумкач, жалобна крачаш?..
Надыходзіць волі час,
І чакае ўсіх удача,
Як Касцюшка сярод нас.
Хоць пара не для свавольных,
Прадракаеш: быць бядзе!
Не, Касцюшку час вызвольны
Аж да Крупчыц давядзе.
І закрые поле дымам,
Будзе самы жорсткі бой.
Зразумеем, што Радзіма
І са мною, і з табой.
Будуць бітвы і за Бугам.
Не прароч, крумкач, бяды!
Бачыш, носяцца харугвы,
А Касцюшка малады.
Што свабоды нам не гушкаць?
Сеча, крыкі, страшны стогн,
А паранены Касцюшка
Трапіць з войскам у палон?
Але выйдзе ён з вязніцы,
Пражыве яшчэ гады...
Поле бітваў і капліца —
Наша памяць назаўжды!

## ***ПЕДАГОГ ПРЫЗВАННЕМ***

**ВАСІЛЮК Андрэй Раманавіч**

Нарадзіўся ў 1898 годзе ў вёсцы Здзітава

*Настаўнік, заснавальнік і нязменны дырэктар Брэсцкай рускай школы*

У час падрыхтоўкі кнігі "Памяць" мы звярнуліся ў Брэст, дзе ўрачом-стаматолагам працавала Раіса Шырнюк, і папрасілі расказаць пра бацьку.

— Гэта быў педагог па прызванні,— сказала Раіса Андрэеўна.— У ім умела ўжываліся шырокія веды па розных прадметах і вялікая любоў да дзяцей. Гэта пастаянна адчувалі не толькі яго вучні, але й мы, сямейнікі.

Змалку Андрэйка Васілюк вызначаўся дапытлівасцю, стараннем да вучобы, ён, здавалася, "глытаў" кнігу за кнігай. Настаўнікі глядзелі на хлопца і гаварылі:

— З яго выйшаў бы добры педагог!

Хоць ведалі цану настаўніцкаму хлебу, але ў пачатку XX стагоддзя такая мара была, як далёкая зорка, да якой цягнуліся дасціпныя вясковыя хлапчукі. Андрэй бы падслухаў пажаданні сваіх педагогаў: услед за Здзітаўскай школкай закончыў пачатковую школу павышанага тыпу ў мястэчку Супрасль Беластоцкага павета і Свіслацкую настаўніцкую семінарыю.

У 1908 годзе пачалася педагагічная праца. Андрэй Раманавіч атрымаў накіраванне ў вёску Блудзень Пружанскага павета. Пра работу маладога настаўніка ў палескай глушы хараша расказаў у сваёй трылогіі Якуб Колас. Трэба было пераконваць бацькоў, што невуцтва і забітасць — гэта біч старой, адсталай вёскі, а дзеці павінны жыць інакш, павінны вучыцца.

У той самы час Андрэй Раманавіч разумеў, што і самому трэба пашыраць свае веды. ён адзін з першых з нашых мясцінаў закончыў Віцебскі педагагічны інстытут. Перад Васілюком раскрываюцца новыя гарызонты: яго накіроўваюць на працу ў Ружанскую вышэйшую пачатковую вучыльню, а праз год — у аналагічную вучыльню ў Брэсце.

У жніўні 1915 года, калі ва ўсю грымела Першая сусветная вайна, Брэсцкую вучэльню і яе настаўнікаў эвакуіруюць у Расію. Васілюк упершыню трапляе ў Маскву. Неўзабаве яго прызываюць у дзеючую армію.

Адукаваныя людзі ў той час былі ў пашане, і ў 1917 годзе пасля дэмабілізацыі з войска Андрэй Раманавіч пачаў настаўнічаць у Маскве, адначасова займаючыся ў Маскоўскім педінстытуце, які закончыў у 1920 годзе.

Па накіраванні аказаўся ў Разані. Вёў урокі ў чыгуначнай школе, быў губернскім інспектарам па народнай адукацыі.

— Наведваючы школы не толькі ў горадзе, але й вясковыя,— дзяліўся пазней успамінамі сам Васілюк,— я стараўся бываць на ўроках у лепшых педагогаў, вучыўся ў іх, што мне вельмі дапамагло пазней...

Адарваны надоўга ад Беларусі, Андрэй Раманавіч засумаваў па родным краі і ў жніўні 1921 года вырашыў вярнуцца ў Здзітава. Васілюка не ўтрымала, што ягоная вёска адышла да Польшчы. Яго не пакідала вера, што ўменні і веды згодзяцца на роднай зямлі.

І сапраўды, неўзабаве ён засноўвае ў Брэсце рускую школу, загадваў якой на працягу васемнаццаці гадоў. Знакаміты педагог адыграў важную ролю ў лёсе многіх брэсцкіх гімназістаў 20-30-х гадоў. Сярод навучэнцаў была і яго дачка Рая.

Андрэй Раманавіч пастаянна клапаціўся пра адукацыю насельніцтва. Сабраўшы паўсотні кніг, дзе пераважала руская класіка, Васілюк намерыўся адкрыць першую бібліятэку ў Жабінцы. Яна, як светач, павінна была несці веды ў масы.

Пасля далучэння заходніх земляў да Беларускай Савецкай Сацыялістычнай рэспублікі А.Р. Васілюк увайшоў у склад Часовага кіравання Брэстам і Брэсцкім паветам. Яму было даручана загадваць школьным аддзелам. На гэтай пасадзе Васілюк працаваў да снежня 1939 года, а затым быў назначаны намеснікам загадчыка гарана горада Брэста і школьным інспектарам.

Андрэй Раманавіч шмат зрабіў для адкрыцця і станаўлення школ. Ён, у прыватнасці, прыязджаў у Арэпічы, дзе жыў такі ж энтузіяст педагагічнай справы Цімафей Карнілавіч Лось, які ратаваў за адкрыццё школы ў родным сяле. Васілюк горача падтрымаў калегу, і ў 1940 годзе дзеці селі за парты.

Андрэй Раманавіч, апроч таго, выкладаў на курсах пры Брэсцкім педвучылішчы. У кастрычніку 1939 года яго выбралі дэпутатам на Народны сход Заходняй Беларусі, што праходзіў у Беластоку. А. Р. Васілюк горача падтрымаў новую ўладу, якая давала магчымасць атрымаць веды, развіць свае здольнасці і талент.

Пачатак Вялікай Айчыннай вайны застаў Андрэя Раманавіча ў Маскве, куды ён быў камандзіраваны для вывучэння вопыту работы школ. У чэрвеньскія дні сорак першага наркам асветы РСФСР

накіроўвае яго ў распараджэнне Арлоўскага аблана. Васілюк пачынае працаваць інспектарам, а з пачаткам навучальнага года настаўнічае ў сяле Нікольскае на Арлоўшчыне.

У снежні 1941 года Нікольскае было захоплена немцамі. Педагогаў не паспелі вывезці. Працаваць і супрацоўнічаць з новай уладай Васілюк не мог і не хацеў, а таму адразу вырашыў вяртацца на радзіму.

Па дарозе яго затрымалі. Чалавек без дакументаў, ён выклікаў падазрэнне ў немцаў. Так Андрэй Раманавіч аказаўся за калючым дротам. Праўда, у час адной з прагулак яму ўдалося збегчы. Цяпер ён быў асабліва асцярожны.

У пярэдадзень новага 1942 года Андрэй Васілюк дабраўся да радзімы. Па ўспамінах дачкі, ён вельмі змяніўся: худы, даўно не голены, у старой вопратцы, так што не адразу блізкія пазналі Андрэя Раманавіча. Ён застаўся ў Здзітаве і працаваў на зямлі: араў, сеяў, чым кожны дзень займаліся яго аднавяскоўцы.

У першыя дні пасля вызвалення раёна Васілюк стаў загадчыкам раённага педагагічнага кабінета пры Жабінкаўскім районе. На гэтай пасадзе ён працаваў да 1951 года. Было нямала клопатаў па станаўленні адукацыі ў раёне. Многія школы працавалі ў прыстасаваных памяшканнях. Не ставала кваліфікаваных кадраў: урокі вялі настаўнікі, што закончылі дзесяць і нават сем класаў.

Непрыкметна падкралася цяжкая хвароба: Андрэй Раманавіч перанёс інфаркт міякарда і некалькі гадоў вымушаны быў лячыцца. Толькі ў 1954 годзе дактары дазволілі яму працаваць, ён стаў бібліятэкарам школы рабочай моладзі № 1 у Брэсце.

Андрэй Раманавіч Васілюк памёр раптоўна. Адбылося гэта 18 студзеня 1956 года, падчас педсавета…

Настаўнік знайшоў сваё апошняе супакаенне на могілках роднай вёскі. А ў памяці блізкіх і родных, шматлікіх вучняў ён застаўся чалавекам незвычайнай дабрыні, чуласці, сціпласці, вялікім патрыётам свайго краю, сваёй Айчыны.

Памяці Андрэя Васілюка і соцень школьных настаўнікаў, што сэрцы даравалі дзецям, хочацца прысвяціць верш:

### Настаўнікам

Шчэ ранак пакуль што заспаны ідзе,
А вам ужо час хваляваца:
Чакае вас сёння, і кожны дзень,
Цяжкая, пачэсная праца.

Вучыць, каб дабро і любоў узышлі,
Засвойвалі веды старанна,
І ў школе за партай з'явіцца маглі
Капернікі ды Магеланы.
Сталее дзятва і са школы штогод
Спяшае ў дарослае заўтра...
І з вашай усмешкай у зорны палёт
Стартуюць ізноў касманаўты.
У школу лісты і паштоўкі ляцяць
Ад вучняў амаль з-за паўсвету...
Вам словы падзякі гатовы сказаць
Сягоння ўсе людзі планеты.

## *МУЖНАЕ СЭРЦА*

### АНУФРЫЮК Сяргей Сямёнавіч

Нарадзіўся ў 1910 годзе ў вёсцы Панцюхі

*Міліцыянер, падпольшчык*

Яшчэ ўчора стаяў пагодлівы асенні дзень, золатам свяцілася лісце на бярозах, а сёння аднекуль прыляцеў вецер-скразняк, пачаў зрываць з дрэў пазалоту. Ён прынёс з сабою чорную, дажджлівую хмару. У паветры запахла дымам.

— Суседнія вёскі казакі паляць,— гаварылі ў Панцюхах.

І сапраўды, неўзабаве і сюды прыляцелі коннікі. Яны сілком выганялі людзей з дамоў, прымушалі ехаць у свет, а самі падпальвалі стрэхі.

— Навошта паліце? — спрабавалі пярэчыць жанчыны.

— Нішто не павінна дастацца ворагу!..

Так, восенню 1914 года, уцякаючы ад вайны, сабраўшы небагатыя пажыткі, сям'я Ануфрыюкоў падалася ў глыб Расіі. Бежанцаў чакалі і холад, і голад. Асабліва такую сям'ю, як гэтая, дзе падрасталі чацвёра дзяцей.

Няшчасце, як кажуць, не прыходзіць адно. Амаль адначасова памерлі бацька і маці. Засталіся сіротамі Рыгор, Кірыла, Сяргей і Насця. Рана зведаў Сяргей смак парабчанскага хлеба. Быў ён і чэрствы, і горкі.

У хлапечым сэрцы, аднак, пастаянна жыла надзея на лепшае жыццё. Недзе ў Беларусі ёсць родная вёска Панцюхі, а там свой кавалачак зямлі, на якім можна разжыцца.

У 1922 годзе браты і сястра вярнуліся дамоў. Дый тут Ануфрыюкі зазналі мала шчасця. Усё, што пакінулі, ад'язджаючы ў бежанцы, было разрабавана. Ні хаты, ні двара. Поле пазарастала беразняком і лазою. Трэба бало карчаваць, вырабляць зямлю.

Браты зляпілі неяк хаціну-мазанку. Думалі, часова, а жыць прыйшлося доўга.

Ішоў час. Ажаніўся Кірыла, стала яшчэ больш цесна ў хаце. Браты коса пазіралі на Сяргея. Той і сам разумеў, што трэба будзе ісці ў прымы. Гэты кавалак зямлі не зможа пракарміць усіх. І прыстаў да суседскай дзяўчыны Ганны.

Адразу скажам, пражылі Ануфрыюкі ў згодзе ды каханні многія гады, працуючы разам у полі. Але пра гэта раскажам трохі пазней, а пакуль...

Лёс простага сялянскага хлопца з Панцюхоў быў вельмі падобны да лёсу ягоных аднагодкаў. З маленства ён асіліў усе вясковыя "універсітэты": і араў, і сеяў, і касіў.

Хто ведае, як склалася б жыццё Сяргея Ануфрыюка, калі б ён не сустрэўся з цікавымі людзьмі — мясцовымі актывістамі. Шаснаццацігадовым юнаком ён пачаў наведваць тайныя сходкі, слухаў, што гаварылі старэйшыя. Паступова стаў разбірацца, як яму жыць далей.

Аднойчы да Ануфрыюка звярнуліся падпольшчыкі, папрасілі занесці кнігі.

— Толькі будзь асцярожны! — папярэдзілі яны.

Сяргей і сам разумеў, якую літаратуру яму трэба даставіць. З цягам часу ён становіцца актыўным барацьбітом: распаўсюджваў лістоўкі, выступаў на мітынгах, заклікаючы панскіх батракоў да забастоўкі.

— Мусіць, нас паны і сапраўды ашукваюць,— сказаў яму аднойчы непрамую сталага ўзросту мужчына.— А скажы, як нам жыць, як карміць сям'ю, калі не будзем працаваць. Дый ці прыйдзе на нашу зямлю тое шчаслівае заўтра, пра якое ты гаворыш?

Сяргей Ануфрыюк адчуў, як у адзін момант сцішыўся натоўп: людзі чакаюць, што ён скажа.

— Будзе ў нас шчаслівае заўтра! — упэўнена адказаў Сяргей Сямёнавіч.— І прыйдзе яно вельмі скора. Бачыце, колькі людзей змагаюцца за волю!.. Калі вы сёння, як ідзе жніво, дружна не выйдзеце на працу, вам мусяць прыбавіць да заробку.

Людзі паслухалі Ануфрыюка — і перамаглі.

Дзеянні Сяргея Сямёнавіча не прайшлі незаўважанымі для паліцыі. Аднойчы, па даносе правакатара, паліцэйскія ўварваліся ў яго хату. Перарылі ўсё, але нічога не знайшлі. Пакідаючы дом, папярэдзілі:

— Яшчэ раз пачуем, што бунтуеш людзей, шомпалаў атрымаеш!

Сяргей Ануфрыюк, аднак, не збіраўся кідаць падпольнай работы.

Наадварот, яна стала больш мэтанакіраванай: Сяргей Сямёнавіч расказваў, як жывуць людзі ў Беларусі, заклікаў да актыўнай барацьбы.

Напярэдадні Першамая на высозных дрэвах ля Панцюхаў з'явіліся чырвоныя сцягі. А каб паліцыі было цяжка зняць іх, галіны знізу былі паабсечаны. Зрабіў гэта Сяргей Ануфрыюк. Людзі глядзелі на добрую вестку аб свабодзе і радаваліся.

У 1937 годзе Ануфрыюка арыштавалі. Завезлі ў Кобрын. Чатыры дні катавалі, патрабуючы дазнання. Але ён не выдаў таварышаў.

Упэўніўшыся, што вырваць дазнанне з Сяргеевых вуснаў немагчыма, пракурор прасіпеў:

— Садзіць яго трэба за цвёрдае сэрца!

Ануфрыюк трапіў за турэмныя краты.

Таму з радасцю ён прыняў прыход Чырвонай Арміі. Вызваленне, за якое змагаліся Сяргей і яго сябры, прынёс верасень трыццаць дзевятага.

Сяргей Сямёнавіч пастунпіў працаваць у Жабінкаўскае аддзяленне міліцыі. Цяжкі быў час. На толькі што вызваленай зямлі людзі пачыналі жыць па-новаму. Былі і такія, хто ненавідзеў змяненні і стараўся падарваць давер у людзей да новага жыцця.

Толькі што ўтварыўся раён. Ануфрыюк нярэдка вязджаў у самыя далёкія вёскі. Даводзілася тлумачыць сялянам, што нясе з сабою новая ўлада. Радаваўся, калі ягоныя словы даходзілі да чалавечых сэрцаў.

У сям'і Ануфрыюкоў расла дачка Вера.

— Вера, ты — наша вера! — смяяўся Сяргей Сямёнавіч, гушкаючы малую.

Здавалася, шчасцю не будзе канца. Але прыйшоў чэрвень сорак першага года. Уранку сям'я Ануфрыюкоў прачнулася ад недалёкіх выбухаў.

— Няўжо вайна? — не хацеў верыць Сяргей Сямёнавіч,— Паеду ў Жабінку, даведаюся пра ўсё.

Крыху пазней Уладзімір, брат жонкі, убачыў міліцэйскую машыну. У кузаве быў і Ануфрыюк. Сяргей Сямёнавіч пазваў швагра і памахаў яму рукою:

— Чакайце, вернемся з перамогай!

Вярнуўся Ануфрыюк дамоў да канца першага года вайны. Схуднелы, змардаваны, хворы. За плячамі ў яго былі баі пад Гомелем, нямецкі палон, канцэнтрацыйны лагер і ўдалы пабег.

Ануфрыюк быў яшчэ дома, набіраўся сіл і марыў пайсці да партызан, калі ў вёсцы забілі паліцая. Бацька забітага служыў старастам.

— Гэта Серж забіў! — злосна сказаў ён. (Сержам людзі часам называлі Ануфрыюка).

На другі дзень ля яго хаты спынілася падвода з паліцэйскімі.

— Гаспадар дома? — спыталіся ў жонкі і, не чакаючы адказу, кінуліся ў пакой.

Сяргей Сямёнавіч якраз мыўся. Стараста з усяго маху стукнуў яго прыкладам вінтоўкі па галаве. Ануфрыюк упаў. Паліцаі-здаравілы заламалі яму рукі. Пакапаліся, знайшлі міліцэйскую фуражку. Адзін вырваў зорачку, прыклаў да Сяргеевага ілба і стукнуў прыкладам.

Твар заліла кроў. Мужчына страціў прытомнасць. Заплакалі, загаласілі жонка і дачка...

Некалькі месяцаў Сяргея Сямёнавіча Ануфрыюка трымалі ў брэсцкай турме, а затым расстралялі.

Яго імя занесена ў Кнігу народнай славы раёна і высечана на мемарыяльнай дошцы, што ўстаноўлена на будынку Жабінкаўскага райаддзела міліцыі, на якой выбіты простыя, але шчырыя словы, прысвечаныя двум героям-падпольшчыкам, героям-міліцыянерам Аляксею Дзмітруку і Сяргею Ануфрыюку. Ля дошкі пастаянна ляжаць жывыя кветкі.

## *ЗОРКА ЗА ПРАЦУ*

### ВАЛАСЮК Фёдар Канстанцінавіч

Нарадзіўся ў 1921 годзе ў вёсцы Багуславічы (Залуззе)

*Старшыня калгаса імя XXI з'езда КПСС, Герой Сацыялістычнай Працы*

Увесну 1999 года, калі вось-вось павінна была пайсці ў друк жабінкаўская "Памяць" і яшчэ магчыма было ўнесці ў кнігу нейкія дапаўненні, я ўпершыню даведаўся пра тое, што з нашай Жабінкаўшчынай звязаны сямейнымі каранямі цікавы і заслужаны чалавек — Фёдар Канстанцінавіч Валасюк.

Адшукаўшы ягоны нумар, неадкладна патэлефанаваў у Пескі, што пад Кобрынам. Памятаю, што тэлефонны провад злучыў нас надзвычай хутка, але голас на другім канцы падаўся вельмі стомленым, хваравітым. Мабыць, таму і размова нашая доўжылася нейкія хвіліны.

— Шаноўны Фёдар Канстанцінавіч, дык вы, аказваецца, наш зямляк. Нарадзіліся ў Залуззі...

— Я не з Залуззя,— запярэчыў суразмоўца.— Я — з Багуславічаў.

— Аднак у мяне тут у паперцы напісана...

— Не ведаю, што там у вас напісана,— яшчэ больш катэгарычна адказаў Валасюк, напіраючы на слова "напісана",— але я — з Баранавічаў і іншага імя не ведаю. Сваёй вёсачцы не здраджу.— Потым палагаднеў і спытаўся: — А з якой прычыны звоніце?.. Ці чуў пра кнігу "Памяць"? Чуў, вядома. Калі ў Жабінцы лічаць, што ў ёй нешта павінна быць і пра мяне — хай будзе. А сустрэцца не атрымаецца. Хварэю. Можа, калі пазней...

Было яшчэ некалькі пытанняў. Быццам папярэдне дамовіліся пры нагодзе сустрэцца, на чым і развіталіся. Аднак спаткацца не надарылася: праз год яго не стала.

А адзінае, што ў самы апошні момант я паспеў упісаць на старонкі "Памяці", быў радок: "У Багуславічах нарадзіўся (18.01.1921 г.) Герой Сацыялістычнай Працы, старшыня калгаса імя XXI з'езда КПСС Ф.К. Валасюк".

Сёння, калі вядома трохі больш фактаў з ягонай біяграфіі, паспрабуем перадаць асноўныя моманты жыцця нашага вельмі паважанага і заслужанага земляка.

Пачынаў ён сваю працоўную дарогу восенню трыццаць дзевятага. І была тая дарога чыгуначнаю: у васемнаццаць гадоў Фёдар Валасюк уладкаваўся на прыпынку Кантынава, недалёка ад роднага

дома. Аднак хутка пачалася вайна, і малады чыгуначнік стаў спачатку сувязным, а потым і партызанам атрада імя Фрунзе, які паспяхова дзейнічаў з лета 1943 года супраць акупантаў на памежжы Жабінкаўшчыны і Кобрыншчыны. Увесну 1944 года фрунзенцы перайшлі праз лінію фронту і злучыліся з часцямі Чырвонай Арміі. Імклівае наступленне савецкіх войскаў паспяхова вырашыла зыход аперацыі "Баграціён", у выніку якой была вызвалена ўся Беларусь.

Патрэбна было вяртацца да мірнага жыцця, але гэта было нялёгка ў краі, які столькі пакутаў вынес за гады ліхалецця. Мір яшчэ трэба было ўтрымаць, а таму са снежня сорак чацвёртага Фёдар Канстанцінавіч стаў міліцыянерам у Кобрыне. Гэтай адказнай і вельмі небяспечнай працы ён аддаў амаль чатырнаццаць гадоў жыцця. Пакуль не знайшоў сябе ў хлебнай працы, стаўшы ў лістападзе 1958 года калгасным старшынёю.

Відаць, стаміўся ад чакання сустрэчы з зямлёю Валасюк, таму на капітанскім мосціку калгаснага "карабля" пачаў працаваць апантана. Хутка ягоная гаспадарка стала лепшай не толькі ў раёне, не толькі на Брэстчыне, а грудзі старшыні ўпрыгожылі першыя ўзнагароды.

Канечне, у той нашай колішняй бяседзе, неспадзявана кароткай, немагчыма было не запытацца:

— А за што вы атрымалі "Героя", Фёдар Канстанцінавіч?

І тут ён адказаў проста:

— За працу... Ды ўсё ў афіцыйных паперах напісана, пачытайце... Тады многім давалі. За працу...

У паперах, сапраўды, усё напісана. Але за сухімі радкамі пастаноў і рашэнняў амаль не чытаюцца тыя бяссонныя ночы і працавітыя цяжкія будні, якія падрыхтоўвалі тыя перамогі. Вынікам стаў Указ Вярхоўнага Савета СССР ад 22 сакавіка 1966 года, якім Фёдару Канстанцінавічу Валасюку "за дасягнутыя поспехі ў вобласці жывёлагадоўлі" было нададзена званне Героя Сацыялістычнай Працы з уручэннем ордэна Леніна і залатога медаля "Серп і Молат". Былі таксама ў жыцці і іншыя адзнакі поспеху, аднак гэты дзень стаў вяршыняй, сапраўдным трыумфам. Але ці зрабіўся ганарлівым старшыня, атрымаўшы Залатую Зорку? А ён ужо сам адказаў:

— Тады многім давалі. За працу...

Тыя, хто ведаў і памятае гэтага чалавека, падкрэслівалі ягоныя добразычлівасць да людзей і шчырую любоў да зямлі. А без гэтых якасцяў дабіцца нечага ў сельскай гаспадарцы бывае немагчыма...

Неўзабаве, пасля таго, як у студзені 2006 года амаль непрыкметна мінулі 85-ыя ўгодкі з дня нараджэння нашага паважанага земляка, я даведаўся ў Кобрыне, што родныя Валасюка жывуць і

працуюць у Мінску. Хутка патэлефанаваў у сталіцу — ягонай дачцэ Галіне Фёдараўне. Гаварылі пра рознае, жанчына расхвалявалася, але абяцала неяк адшукаць час, каб узяцца за пяро і пакінуць на паперы невялічкія ўспаміны, прысвечаныя бацьку. Яна разумее, што ніхто лепш за родных не зможа выканаць гэты абавязак. На развітанне, запісваючы адрас, я запытаўся:

— А якое вашае прозвішча?

І атрымаў у адказ:

— Вядома, Валасюк... Я бацькавай фаміліі не здраджу!

І гэтыя словы падаліся вельмі блізкімі на тыя, што некалі сам Фёдар Канстанцінавіч гаварыў пра паўзабытую назву свайго роднага сяла. Сёлета ўдзячныя нашчадкі, якія ніколі не забывалі пра жыццё і справы зорнага старшыні, у Песках, дзе ён столькі гадоў працаваў на зямлі і дзеля зямлі, ушанавалі ягонае імя, усталяваўшы мемарыяльную пліту. Людзі памятаюць, колькі сіл паклаў іх былы старшыня, каб багатым быў колас, каб духмяным стаў дажынкавы каравай.

## *САРАКАВАЯ ДАРОГА*

Дапытлівы і ўважлівы чытач, перагарнуўшы апошнюю старонку кнігі, абавязкова спытаецца:

— У кнізе толькі 39 герояў, а значыцца, і 39 дарог. Дзе ж апошняя, саракавая?

Апошняя? Ніколі не згодзімся! І ў аўтараў таксама была свая дарога, якою яны прайшлі, каб напісаць кніжку. На гэтым шляху — тры дзесяткі населеных пунктаў і безліч сцяжынак, якія прывялі да нашых герояў. Гэта кніга — наша саракавая дарога. Па ёй мы вялі чытача, згадваючы цікавых нараджэнцаў краю.

І ўсё ж павінны пагадзіцца: далёка не ўсім слынным землякам знайшлося месца на старонках "Сарака дарог". Тут да месца будзе пералічыць яшчэ некалькі асоб, вартых пашаны:

- *Іван Мікалаевіч Гайко* жыў у далёкім ужо XVI стагоддзі, нарадзіўся, верагодна, у Азятах. Дыпламат Вялікага Княства Літоўскага. У 1536 годзе заключыў перамір'е з Масковіяй, пазней ездзіў з пасольствам да цара Івана Грознага. У 1566 годзе стаў першым у гісторыі кашталянам (граданачальнікам) Берасця.
- *Мікалай Іванавіч Касцюшка-Сяхновіцкі* — ураджэнец Сяхновічаў (каля 1560 года). Дэпутат і старшыня Галоўнага Трыбунала ў Вільні — вышэйшай судовай установы Вялікага Княства.
- *Антоній Вікенцій Трэмбіцкі* (1764-1842) нарадзіўся ў маёнтку Плошча, што месціўся некалі паміж Жабінкай і Маціевічамі. Палітычны дзеяч Рэчы Паспалітай, дэпутат Сойма, мемуарыст.
- *Аляксандр дэ Паліньяк* з'явіўся на свет у Азятах улетку 1820 года. Палітычны дзеяч Францыі, сын маршала Эркюля Паліньяка.
- *Гаўрыла Вікенцьевіч Галавейка* нарадзіўся ў 1889 годзе ў вёсцы Вандалін. Адзіны наш зямляк — кавалер трох Георгіеўскіх крыжоў, атрыманых за храбрасць, праяўленую на палях Першай сусветнай вайны.
- *Ніфант Мацвеевіч Сыч* (1890-1920) з Дзяменічаў. Удзельнік грамадзянскай вайны, член Цэнтрабалта.
- *Іван Раманавіч Валошка* — ураджэнец вёскі Рачкі (1898 год). Паміж 1928 і 1938 гадамі заснаваў у Брэсце падпольную друкарню ЦК КПЗБ.
- *Ілля Маркавіч Падлепскі* нарадзіўся ў Дзяглях у 1905-м. Удзельнік рэвалюцыйнай барацьбы ў Заходняй Беларусі, скіраванай супраць польскай акупацыі.
- *Соф'я Несцераўна Юхімук* (1907-1941) з вёскі Сенькавічы. Удзельніца Народнага сходу Заходняй Беларусі ў Беластоку, на якім

было замацавана аб'яднанне Беларусі. У 1940 годзе стала першым дэпутатам з Жабінкаўшчыны, абраным у Вярхоўны Савет Саюза ССР.

- *Канстанцін Паўлавіч Буснюк* нарадзіўся ў вёсцы Залуззе ў 1919 годзе. Удзельнік Вялікай Айчыннай, узнагароджаны ордэнамі Чырвонай Зоркі, Славы 3-й ступені, шматлікімі медалямі. Заслужаны работнік сельскай гаспадаркі рэспублікі.
- *Марфа Лаўрэнцьеўна Засімук* з Сакаў, дэпутат Сакскага сельсавета, забітая ў 1947-м за актыўны ўдзел у калектывізацыі.
- *Уладзімір Якаўлевіч Вайцюк* нарадзіўся ў 1923 годзе ў вёсцы Малая Жабінка (цяпер у межах горада). Увесну 1976-га атрымаў званне заслужанага работніка прамысловасці Беларусі.
- *Васіль Гаўрылавіч Давідчык* (1924-1995) з Сенькавічаў. Ветэран вайны, настаўнік, душа фальклорнага калектыву вёскі Залуззе. Пісаў вершы на рускай і беларускай мовах, на мясцовым дыялекце.
- *Мікалай Арцёмавіч Кавальчук* з'явіўся на свет 9 жніўня 1925 года ў Селішчах. Ветэран Вялікай Айчыннай вайны, заслужаны настаўнік.
- *Надзея Мікалаеўна Бакун* з Жыціня (1927 года нараджэння). Працаўніца калгаса "Усход", дэпутат раённага Савета. 31985 года стала заслужаным работнікам сельскай гаспадаркі.
- *Надзея Сцяпанаўна Дубіна* — ураджэнка вёскі Вярхі (1930 год). Напрыканцы 1976-га яна першай у раёне стала заслужаным медыцынскім работнікам.
- *Сцяпан Лукіч Волк* з Маціевічаў. Нарадзіўся ў 1934 годзе. Кавалер ордэнаў Леніна і Працоўнага Чырвонага Сцяга, узнагароджваўся медалямі ВДНГ СССР. Лаўрэат Дзяржпрэміі СССР, заслужаны будаўнік рэспублікі.
- *Дзмітрый Раманавіч Дошчык* нарадзіўся ў 1935 годзе ў Хмелеве. Заслужаны настаўнік Беларусі.
- *Расціслаў Мацвеевіч Бензярук* (1944 год, Стрыганец). Сябра Саюза журналістаў Беларусі і Саюза беларускіх пісьменнікаў. Стварыў кнігі "Вавёрчына дзякуй", "Птушка шчасця", "Тры свечкі", "Вясёлка сяміколерная", "Добры звычай", "Зайцаў кажушок", "Чаму Сонца рана ўстала?", "Колодец памяти", "Жыў на свеце дзед Васіль", некалькіх тысяч публікацый у перыядычных выданнях. Адзін з аўтараў гэтай кнігі.
- *Мікалай Канстанцінавіч Кандрацюк* — ураджэнец Залуззя (1949 год). Дырэктар Жабінкаўскага ЖКГ. У 1998 годзе атрымаў званне ганаровага работніка жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі.
- *Аляксандр Сяргеевіч Палышанкоў* нарадзіўся ў 1949 годзе ў вёсцы Залуззе. Старшыня Брэсцкага гарадскога выканаўчага камітэта.

Так склалася, што наш спіс пачынаўся і заканчваецца людзьмі XVI і XXI стагоддзяў. Іх раздзяляюць цэлыя 500 гадоў. Аднак паміж Іванам Гайко і Аляксандрам Палышанковым ёсць агульнае. Абодва сталі кіраўнікамі старажытнага і прыгожага Брэста. Абодва паходзілі з Жабінкаўшчыны.

Як бачым, нашыя землякі прымалі актыўны ўдзел у розных гістарычных падзеях. У нас была задума спыніць на гэтым пералік. Але, пагартаўшы раённую кнігу "Памяць", зноў упэўніліся: яшчэ многім даследчыкам, журналістам, пісьменнікам хопіць працы, каб расказаць пра славутых ураджэнцаў жабінкаўскай зямлі. І калі-небудзь, каб дапоўніць "Сорак дарог", з'явяцца кнігі пра пяцьдзесят новых дарог, а можа, і пра ўсе сто... А цяпер толькі дадамо цэлы шэраг ураджэнцаў горада Жабінка, што абралі для сябе акадэмічны шлях. Гэта кандыдаты фізіка-матэматычных навук браты Уладзімір і Станіслаў Секяржыцкія, медыцынскіх навук А.П. Кірылюк, філасофскіх навук Н.С. Лаўранюк. Таксама ў нашым горадзе нарадзіўся Аляксандр Бойка, капітан карабля "Валянцін Пікуль".

Яшчэ прыгадаем, што вёска Дзяменічы вядомая не толькі баявой славай сваіх сыноў. Гэта і малая радзіма кандыдата педагагічных навук, прафесара Я.С. Кацэвіча.

А маленькая Хмялёўка, што месціцца на паўночным захадзе нашага краю, стала радзімай прапаршчыка Сяргея Грудніцкага (1957-1988), адзінага ўраджэнца Жабінкаўскага раёна, што загінуў на Афганскай вайне.

У Арэпіцкай школе ў свой час вучыліся браты Мікалай і Леў Цыбулі. Старэйшы — дацэнт Маскоўскага дзяржаўнага універсітэта шляхоў зносін, малодшы, што жыве на дзедаўскай сядзібе Антанін,— былы супрацоўнік Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.

Невялічкая арэпіцкая вучэльня, увогуле, дала "пуцёўку ў жыццё" шматлікім цікавым людзям. Павел Будзько з Арэпічаў цяпер жыве ў Германіі, з'яўляецца членам Саюза перакладчыкаў, супрацоўнікам гарадскога спартыўнага камітэта ў Хемніцы. А Ванда Сівецкая (Павяльчук) з Селішчаў, атрымаўшы вышэйшую эканамічную адукацыю ў польскім Сопаце, цяпер камерцыйны дырэктар адной з фірм горада Гданьск. Пётр Шорах стаў канструктарам баявых самалётаў. Важкімі афіцэрскімі зоркамі ўвенчаныя пагоны Мікалая Аксюціка, Яўгена Шахава, Мікалая Дулевіча, Івана Крыўчэні, Сцяпана Шайко. Аднак нават сярод такога сузор'я арэпіцкіх выпускнікоў, што прысвяцілі сябе высакароднай вайсковай справе, вылучаецца імя былога камандуючага Далёкаўсходняй пагранічнай акругай генерал-лейтэнанта Уладзіміра Бутэнкі.

І Азяты ганарацца сваім воінскім "рэкордам", бо з гэтай вёскі паходзіць Надзея Гумянка — першая ў нашай краіне жанчына, якая атрымала высокае званне падпалкоўнік.

Яшчэ больш жабінкаўцаў адзначыліся сваёй працай. Сярод іншых не прамінем ардэнаносца Уладзіміра Новіка.

Ураджэнцы нашай зямлі час ад часу падаюць галасы з дальніх краёў. Адчуваецца, што кроў — не вадзіца. У лістах з-за мяжы чуюцца і цеплыня, і надзея, і ледзь прыхаваная настальгія па малой радзіме. Зусім нядаўна адазваўся Павел Сідарук, які нарадзіўся ў Мышчыцах. Лёс закінуў яго з раўніннай Беларусі ў горную Кабардзіна-Балкарыю. Ён працуе ў адміністрацыі горада Нальчыка — сталіцы гэтай каўказскай рэспублікі. Апошні перапіс паказаў, што ў ёй жывуць 1177 беларусаў. "Усе мы Беларусь любім, цэнім, памятаем, захапляемся і жадаем поспехаў ды росквіту як краіне, так і людзям, што жывуць у ёй". І свае словы Павел Фёдаравіч падмацоўвае справамі: ён старшыня Кабардзіна-Балкарскага грамадскага руху "За адзінства — «Сябры»".

Выхадцамі з Мацієвічаў таксама было нямала слынных асоб. Сярод іх — колішні міністр сувязі Беларусі І. М. Грыцук і дырэктар Бярозаўскай ГРЭС І. У. Баярчук.

Як мы ўжо не аднойчы маглі ўпэўніцца, асабліва багатаю на розных цікавых людзей стала Залуззе. Відаць, блізкае суседства з павольным Мухаўцом спрыяе выхаванню талентаў. Акрамя ўжо пералічаных асоб, дадамо ў спіс яшчэ імя Юльяна Гогаля — доктара ваенных навук, супрацоўніка Варшаўскай ваенна-тэхнічнай акадэміі.

Блізкія ад Залуззя Вялікія Якаўчыцы па праву ганарацца многімі выпускнікамі мясцовай школы. Сярод іх вылучаюцца імёны палкоўніка Віктара Шчаноўскага — начальніка аддзела кадраў Міністэрства абароны ўзброеных сіл Расійскай Федэрацыі; Васіля Дземенчука, які абараніў дысертацыю на званне кандыдата фізіка-матэматычных навук; Мікалая Мальчука — супрацоўніка Цэнтра ўпраўлення касмічнымі палётамі.

Як бачым, нашыя землякі ўжо знайшлі прымяненне сваім талентам, сілам і на зямлі, і на вадзе, а цяпер з надзеяю паглядаюць і на іншыя галактыкі...

Што яшчэ чакае іх? Якія дасягненні, мары стануць явай? Час пакажа. Лёс пазначыць новыя шляхі. Можа, гэта будзе і твая дарога, паважаны чытач. І тады ты адкрыеш для сябе таямніцу саракавой дарогі. І ты зразумееш, што яна ТВАЯ!

Жабінка, май — ліпень 2007 г.

## *ДВА СЛОВЫ НА РАЗВІТАННЕ*

... Ішоў дарогай Чалавек. Крочыў па Беларусі, бываў у замежжы, пакідаючы паўсюды свой адметны след. Даўно адмерыў лёс ягоны век, але засталіся кнігі, напісаныя для нашчадкаў. Шмат кніг — 600! Хто з пісьменнікаў прайшоў столькі дарог, колькі было пад сілу Юзафу Крашэўскаму (1812-1887)?! І хоць ён і не нарадзіўся ў нашым раёне, аднак за паўстагоддзя бурлівай дзейнасці неаднойчы наведваў жабінкаўскія землі, дзе чэрпаў шчодраю рукою сюжэты для сваіх твораў. Магчыма, некалі з'явіцца кніга, прысвечаная вядомым людзям, што ў сваіх вандроўках прыпыняліся на Жабінкаўшчыне, а сёння, на развітанне, дорым чытачу пераклад аднаго з лірычных вершаў, што нарадзіўся ў сэрцы паэта і быў занатаваны на паперы. Майстра натхнёна прамовіў вечныя

### Два словы

На мове душы і на ўсіх іншых мовах
Ёсць два найдарожшыя, ветлыя словы.
У іх, нібы ў кроплях расы і жыцця,
Закладзены скарб для твайго развіцця.
Нібыта дзве яркія пёркі, паверце,
Дзве светлыя зоркі ўвабралі ў сябе
Усё з нараджэння да самае смерці.
У гэтых двух словах: — Кахаю цябе!
Калі на зямлі Бог ствараў чалавека,
У радасці светлай ці трохі ў журбе ён,
кінуўшы погляд святы з-пад павекаў,
Прамовіў узнёсла: — Кахаю цябе!
І з гэтай пары незалежна, нязмушна
З усмешкаю шчырай, вясёлай на вуснах,
Як быццам на шчасце, падорыць табе:
— Кахаю цябе!
У сотні разоў, мо, тады шчаслівейшы,
Калі ты пачуеш у прозе ці вершы
Два словы ў адносінах зноў да сябе:
— Кахаю цябе!
Два словы прамовіў і з радасцю слухаў.
Два словы — прызнанне і вечная памяць.
"Кахаю цябе" боль здымаюць і скруху
На золку тужлівым і ў грозную замець.

Шчаслівы! Два словы прапісаны ў хаце.
Іх чуеш удзень, уначы, на змярканні
Ад сябра, каханай, ад бацькі і маці,
Яшчэ даражэй — калі з вуснаў дзіцяці.
Сцяна мураваная ўстане між вамі —
Руйнуйце яе і жывіце братамі.
Скажыце суседу, нібыта сабе:
— Кахаю цябе!
А той не аднойчы слязу выціскаў,
Каму не сказалі "кахаю" ніколі.
Хоць, можа, раскошу зямлі ўсёй прыдбаў,
Але ён загіне бясслӑуна ў няволі.
Бо ў вольнасці вольнай — калі ў барацьбе —
На мове людзей і анёлавай мове
Няма ўсё ж вышэй, чым два словы твае:
— Кахаю цябе... Кахаю цябе!

Доўгае, 1834 г.
Пераклад з польскай мовы Расціслава Бензерука

## *ВЫКАРЫСТАНАЯ ЛІТАРАТУРА*


Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при управлении Виленского учебного округа. — Т.6. — Вильна, 1869.

Архітэктура Беларусі. Энцыклапедычны даведнік. — Мн., 1993.

Бензерук А. Р, БензерукР.М. Колодец памяти. — Брест, 2006.

Бензярук А.Р. Наш край — Жабінкаўшчына. — Брэст, 1996;

Яго ж. Памяць нашае зямлі: Брэст, 2002.;

Яго ж. Касцюшкі-Сяхновіцкія: Гісторыя старадаўняга роду. — Брэст, 2006.

Бобровский П. Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Гродненская губерния — Ч. 1-2, — СПб., 1863.— 888 с.

Ващук В. Любовь моя — Бурунди: Африканский роман длиной в три года // Вечерний Брест. — 2003. — 18 февр.

Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці. Фонды №№ 1, 2003, 2059.

Жабінкаўскі раён: Даведачна-інфармацыйныя матэрыялы. — Жабінка, 2002.

Жабинковский район: Буклет / Отв. за выпуск А.А. Старицкий. — Дрогичин, 2007.

Курков И. Брестчина: легенды, события, люди. — Мн., 2005. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Гродне. Фонды №№ 1 2, 10, 11, 12, 14, 17, 27, 96, 489, 841, 929, 1062, 1143.

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Мінску. Фонды №№ 1705, 1741, 1752.

Орловский Е. Судьбы православия в связи с историею латинства и унии в Гродненской губернии. — Гродна, 1903.

Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Жабінкаўскага раёна / Рэд.-укл. Р. Я. Смірнова. — Мн.: Ураджай, 1999.

Покровский Ф.В. Археологическая карта Гродненской губернии. — Вильна, 1895. — 165 с.

Свод памятников истории и культуры Белоруссии. Брестская область. — Мн., 1990.

Сельская праўда. Падшыўкі раённай газеты за 1987 — 2007 гг.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. — Мн., 1996. — Т. 3. — С. 364.

ЗМЕСТ